Выходзіць з 1932 года.



Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

20 СНЕЖНЯ 2002 г. № 51—52/4185—4186 КОШТ 335 РУБ.

АКЦЫЯ!

МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

"Постаць і аблічча Алены ВАСІЛЕВІЧ, як і яе паводзіны ў мастацтве, дапамагаюць нам угледзецца ў жыццё..."

6,7,9,12



Празаіку Уладзіславу РУБАНАВУ 15 снежня было б толькі 50 гадоў...

13-15



ДЫЯЛОГІ

# Леанід ГУЛЯКА:

# «ШМАТ ХТО НЕ АДЫШОЎ АД СТЭРЭАТЫПУ — СПАДЗЯВАЦЦА ТОЛЬКІ НА БЮДЖЭТНЫЯ СРОДКІ»




АДКАЗЫ МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЛЕАНІДА ГУЛЯКІ НА ПЫТАННІ «ПРАМОЙ ЛІНІІ» ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

ЧЫТАЙЦЕ НА СТАР. 4-5



# 2003 З НОВЫМ ГОДАМ!



Фота К. ДРОБАВА

# ГІСТОРЫЯ «ПОЛЫМЯ» — ГЭТА ГІСТОРЫЯ НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ

## ШАНОЎНЫЯ КАЛЕГІ!

**Прыміце шчырыя віншаванні з 80-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара часопіса "Полымя".**

**Старэйшае рэспубліканскае літаратурна-мастацкае выданне ўсе гады свайго існавання з'яўляецца своеасаблівым летапісам нацыянальнага пісьменства. Ля вытокаў часопіса стаялі Цішка Гартны, Міхась Чарот, Змітрок Бядуля, У. Ігнатоўскі. Галоўнымі рэдактарамі "Полымя" былі такія вядомыя беларускія пісьменнікі, як Платон Галавач, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Кастусь Кірэенка. У сусветную духоўную скарбніцу ўвайшлі ўпершыню надрукаваныя менавіта ў часопісе творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага і Аркадзя Куляшова, Івана Мележа і Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка і Яна Скрыгана, Алеся Адамовіча і Ніла Гілевіча. Публікацыі ў "Полымі" сталіся першым крокам у вялікую літаратуру, пачаткам творчага сталення многіх маладых аўтараў. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што выданне за гэты час стала унікальным феноменам нашай гісторыі, важкім культурным набыткам беларускай нацыі.**

**Сённяшняе "Полымя" застаецца прадаўжальнікам слаўных літаратурных традыцый, выданнем, якое адыгрывае значную ролю ў кансалідацыі беларускага грамадства. У наш няпросты час калектыў рэдакцыі прыкладае ўсе намаганні дзеля захавання і развіцця часопіса, як флагмана беларускай літаратурна-мастацкай прэсы. Вельмі важна, што і сёння вы садзейнічаеце зацвярджэнню высокіх ідэалаў дабра і справядлівасці, сапраўднай духоўнасці, міру і згоды.**

**Жадаю супрацоўнікам і сябрам часопіса творчага натхнення, плённай, стваральнай працы ў імя беларускага чытача, усяго народа, які заўжды тонка адчувае шчырае, сумленнае слова майстра.**

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ,**
**міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь**




*Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван КАРЭНДА віншуе калектыў "Полымя" з юбілеем.*

**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагароджвае Ганаровай граматай**

калектыў рэдакцыі часопіса "Полымя"

за добрасумленную плённую працу па прапагандзе лепшых узораў айчыннай паэзіі, прозы і літаратуразнаўства і ў сувязі з 80-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара часопіса.

**М. ПАДГАЙНЫ,**
**міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь узнагароджвае Ганаровай граматай**

рэдакцыю літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Полымя"

за актыўную папулярызацыю лепшых узораў беларускай літаратуры, выхаванне чытача на мастацкіх традыцыях нацыянальнай духоўнай спадчыны народа і ў сувязі з 80-годдзем з дня заснавання.

**Л. ГУЛЯКА,**
**міністр культуры Рэспублікі Беларусь**

**Галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя" Міколу Мятліцкаму**

## Шаноўны Мікалай Міхайлавіч!

Горача і сардэчна віншуем вас і ўсіх рэдактараў і супрацоўнікаў "Полымя", а таксама аўтараў з 80-годдзем заснавання гэтага выдатнага часопіса — нястомнага збіральніка творчых сіл беларускай літаратуры, кузні пісьменніцкіх талентаў. Прыемна адзначыць, што гэтую канструктыўную, высакародную ролю ваш часопіс адыграе і сёння, у сучасным літаратурным працэсе, у сучасным зменлівым свеце, што вы шырока адчыняеце дарогу для моладзі — пісьменнікаў XXI стагоддзя.

Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды юбілею "Полымя" ад калектыву Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі. Зычым усім палымянцам моцнага здароўя, творчага настрою, асабістага шчасця і нязменнай упэўненасці ў вашай высокай місіі.

**У. ГНІЛАМЁДАЎ,**
**дырэктар Інстытута**
**член-карэспандэнт НАН Беларусі**

**Таісе Бондар, Міколу Мятліцкаму, усім удзельнікам сустрэчы**

## Дарагія палымянцы!

А палымянцы мы ўсе. "Полымя" гартавала нас і адкрывала шырокую дарогу ў свет, імя якога беларуская літаратура. Юбілей старэйшага нацыянальнага часопіса — свята для ўсіх творцаў, такіх сівых, як я, і тых, хто толькі ўступае на гэты шлях, добра пратораны, але не скажаць, што лёгкі. О, не, нялёгкі! Моцна разбіты, пакручасты!

Дарагія мае калегі, сябры, празаікі, паэты, драматургі, крытыкі, згуртуйцеся ў адзін дружны калектыў і масціце шлях, густа засявайце шырокае поле роднай літаратуры. Упэўнены, закрасуе яно, расцвіце, бо ўробяць яго руплівыя аратыя і сейбіты — тыя, хто засеяў ужо свае палеткі, і тыя, хто атрымае на полі сваю ніву. Жадаю поспеху, палымянцы! Віншую са святам!

Вітаю ўдзельнікаў юбілейнай творчай сустрэчы, супрацоўнікаў, аўтараў "Полымя"!

Шкадую, што не здолеў прысутнічаць на такой памятнай сустрэчы. Актыўна ўдзельнічаў у святкаваннях 40, 50, 60, 70-годдзяў часопіса. Хораша адзначалі ўсе гэтыя даты! Прадоўжыце добрую традыцыю!

Абдымаю вас усіх! Кланяюся.

**Іван ШАМЯКІН**

З нагоды 80-годдзя часопіса "Полымя" 16 снежня ў Міжнародным цэнтры інтэграцыйнай інфармацыі прайшла творчая сустрэча супрацоўнікаў часопіса са сваімі аўтарамі, чытачамі і карэспандэнтамі рэспубліканскіх газет. На сустрэчы прысутнічалі высокія госці з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, міністэрстваў інфармацыі і культуры.

Святочнае мерапрыемства адкрыла дырэктар Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" Таіса Бондар, якая расказала не толькі пра сённяшняе "Полымя", але і падзялілася планамі холдынга на 2003 год, у якім часопіс з'яўляецца адным з флагманаў.

З віншавальнымі словамі з нагоды юбілею ў адрас супрацоўнікаў і аўтараў "Полымя" выступілі Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Карэнда, намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, намеснік міністра культуры Валерый Гедройц. У сваіх выступленнях яны высока ацанілі сённяшнюю ролю і месца часопіса "Полымя" ў гісторыі нашай літаратуры. Было адзначана, што дзяржава заўсёды падтрымлівала і будзе падтрымліваць стваральную працу літаратараў на ніве беларускай культуры.

Ад імя "Беларускай энцыклапедыі" "Полымя" павіншаваў яе галоўны рэдактар Г. Пашкоў. У сваім выступленні дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы У. Гніламёдаў, аналізуючы 80-вы ўзрост "Полымя", адзначыў, што часопіс быў і з'яўляецца носьбітам чалавечых каштоўнасцей, духоўным арыенцірам сучаснага грамадскага жыцця.

Пісьменнікі А. Савіцкі і М. Кусянкоў расказалі пра тое, чым было і ёсць у іх жыцці "Полымя" і пажадалі яму надалей быць летапісцам нашай літаратуры.

Свайго былога супрацоўніка Міколу Мятліцкага, а цяпер галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", павіншавалі са святам дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" У. Мачульскі і галоўны рэдактар выдавецтва У. Марук.

Ад рэдакцый Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" выступіла галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Р. Баравікова. Свае творы, прысвечаныя "Полымю", прачыталі паэты К. Камейша і У. Скарынкін.

Юбілейную справаздачу трымаў і святочныя віншаванні прымаў галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі.

**Н. К.**





*НА ЗДЫМКАХ: намеснік міністра культуры В. ГЕДРОЙЦ уручае ганаровую грамату галоўнаму рэдактару "Полымя" М. МЯТЛІЦКАМУ; выступае пісьменнік А. САВІЦКІ.*

**Фота К. ДРОБАВА**

Адной са святочных дат беларускага палітычна-грамадскага календара ў недалёкім мінулым было 17 верасня — дзень уз'яднання БССР з Заходняй Беларуссю. Часу ад часу яна злівалася з чырвонай датай літаратурнага календара рэспублікі. Гэта было тады, калі адзначаўся чарговы юбілей Максіма Танка.

У гады перабудовы і змагання за незалежнасць 17 верасня стала будзённым днём, і чарговую гадавіну з дня уз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі ў гэтым годзе, як і ў папярэднія, нават не ўспаміналі. Літаратурная грамадскасць адзначыла толькі 90-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Радыё, тэлебачанне, СМІ (за рэдкім выключэннем) не прайшлі міма гэтай прыкметнай падзеі ў культурным жыцці краіны.

І як пра чалавека, і як пра аднаго з найбольш таленавітых беларускіх паэтаў.

Што ж здарылася? Як атрымалася, што 17 верасня 2002 года, у дзень яго 95-годдзя, Сяргея Дзяргая ніхто не ўспомніў?

Хто можа сказаць, што змяніцца праз пяць гадоў, і як мы адзначым стогадовы юбілей паэта? Мемарыяльнай дошкі няма, і вершы Сяргея Дзяргая наўрад ці знойдзеш у школьных чытанках і хрэстаматыях.

Мабыць, з намі і праўда нешта адбываецца, калі мы "прапускаем" такіх паэтаў?

Мабыць, мы нешта яшчэ не ўсвоілі ці недагледзелі і ў сумятні і тлуме лёсавызначальных падзей канца мінулага і пачатку гэтага стагоддзя канчаткова страцілі духоўныя арыенціры, і ўсё ў нашым жыцці пайшло наперакасяк?

ён паспяхова пераклаў "Боскую камедыю" Дантэ (гэтая праца паэта адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь). Абодва пераклады зроблены на высокім прафесійным узроўні.

І калі непрыязнасць з'езда да Івана Шамякіна можна растлумачыць палітыкай, якая ў XX стагоддзі дыктавала свае ўмовы не толькі літаратуры і мастацтву, але і моваазнаўству, у выніку чаго ў нас утварылася беларускае двухмоўе, дык выклік з'езда Уладзіміру Скарынкіну наогул не паддаецца ніякаму тлумачэнню. Ён не прымаў удзелу ў закулісных палітычных тусоўках і апошнія дзесяць-дванаццаць гадоў займаўся выключна перакладамі.

Не было ніякай патрэбы Саюз беларускіх пісьменнікаў адсякаць ад Інстытута літаратуры, не выбраўшы ў тую непрыступную Раду Уладзіміра Гніла-

# ПРАФЕСІЙНАЯ ПРЫСТОЙНАСЦЬ

Аднак 17 верасня 2002 года было і яшчэ адным літаратурным святам у культурным жыцці Рэспублікі Беларусь. У гэты дзень споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння яшчэ аднаго паэта — лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Сяргея Дзяргая, імя якога ў гэты дзень не прагучала ні ў эфіры, ні са старонак перыядычнага друку.

Максім Танк вядомы не толькі як паэт, але і як грамадскі дзеяч, ушанаваны ганаровымі дзяржаўнымі ўзнагародамі як за дасягненні ў літаратурнай творчасці, так і за актыўную грамадскую дзейнасць.

Сяргей Дзяргай, пажыццёва прыкаваны да ложка невылечнай хваробай, быў толькі паэтам і грамадзянінам.

Людзі аднаго пакалення, адной эпохі, якія па "вогненнай сцяжыне духу" (Дзяргай), выйшлі з глыбіняў народнага жыцця, яны з маленства добра ведалі, якімі клопатамі і спадзяваннямі жывуць простыя людзі, добра ведалі і народны побыт, і шматвяковую народную культуру, якая стала асновай іх літаратурнай творчасці.

Паэзія і Максіма Танка, і Сяргея Дзяргая прасякнута духам народнай дасціпнасці і мудрасці, па-філасофску жыццесцвярджальным пафасам і лірызмам.

Акрамя традыцыйных формаў паэзіі, яны незалежна адзін ад аднаго асвойвалі авангард XX стагоддзя — верлібры, на якія даўно перайшла пераважная большасць еўрапейскіх паэтаў. Хоць у іх паэтычнай творчасці прагледаўся адзін і той жа матэрыял — супярэчлівы матэрыял супярэчлівага часу, паэзія гэтых паэтаў перш-наперш вызначалася не схематычным, а па-сапраўднаму творчым падыходам да адлюстравання рэчаіснасці, непаўторнаіндывідуальнай духоўнай аўрай, непадобным тэмбрам паэтычнага голасу, эстэтычна-інтэлектуальнымі асацыяцыямі светапогляду і заўсёды роўнай энергетыкай слова.

"Не пазнаць" ці збытаць іх вершы, у тым ліку і, здавалася б, безаблічныя верлібры, немагчыма, бо яны нагадваюць кветкі розных відаў, якія адрозніваюцца і формай лісця, і колерам суквеццяў, і пахам. У кветніках іх паэзіі хочацца марыць.

Я часта заставаў Сяргея Сцяпанавіча ў ложку з томікам Максіма Танка (не раз гэта быў новы зборнік паэта з аўтографам). І ён на маё прывітанне адказваў: "Паслухай..." і чытаў мне адзін з фантастычных верлібраў, якія нагадвалі драматычныя сцэнкі з бессмяротнага спектакля "Жыццё". (Сяргей Дзяргай незвычайна любіў тэатр і не прапускаў ніводнага спектакля, якія паказвалі па тэлебачанні, хоць глядзеў іх да гэтага не раз.)

17 верасня (і не толькі ў юбілейныя дні) невялікая кватэра Сяргея Сцяпанавіча па вуліцы Якуба Коласа, ажыўлялася — да яго з віншаваннем прыходзілі кіраўнікі саюза, супрацоўнікі "Полымя" і "Вожыка", дзе ён у розны час працаваў загадчыкам аддзелаў паэзіі, вядомыя пісьменнікі — і амаль заўсёды Максім Танк.

Сяргей Дзяргай памёр 25 снежня 1980 года.

Пасля пахавання, у кафэ Дома літаратара, за жалобным сталом пра яго было сказана няmала сардэчных і добрых слоў

Пра тое, што з намі і праўда нешта адбываецца, адназначна засведчыў і апошні пісьменніцкі з'езд. "Бурнае апладзіраванне адным, затупванне нагамі другіх, надрыванне глоткі за трэцiх і за сябе саміх..." ("ЛіМ" за 27 верасня 2002 года) — гэта не самае горшае, што было на з'ездзе.

XIV нечарговы з'езд СБП не выбраў у Раду Івана Шамякіна. А ён жа — першы наш пісьменнік, які заваяваў шырокую вядомасць за межамі Беларусі, хоць увогуле кнігі "нацыяналаў" у савецкі час амаль усюды падоўгу ляжалі на паліцах кнігарняў.

Выбралі, не выбралі... дый куды? У аморфную Раду, якая нiколі не магла сабрацца ў больш-менш поўным складзе. І калі трэба было прымаць нейкія рашэнні — не хапала кворуму.

У недаверы з'езда да асобных пісьменнікаў па палітычных меркаваннях тоіцца небяспека перайсці на адкрытую бестэрміновую канфрантацыю, якая будзе ўсё больш і больш распальваць узаемную непрыязнасць.

Склалася так, што значную частку дэлегатаў з'езда склалі літаратары, прынятыя ў СБП за апошнія дзесяцьпятнаццаць гадоў, у якіх яшчэ не сцерліся ўспаміны як пра школьныя, так і студэнцкія гады. Яны што... не знаёміліся з творчасцю Шамякіна, не чыталі ні "Глыбокую плынь", ні "Трывожнае шчасце", ні "Сэрца на далоні"? Ці, можа, гэтыя кнігі здаліся ім нецікавымі, не вартымі ні савецкага часу, ні таго, каб застацца ў скарбніцы гісторыі беларускай літаратуры?

Напэўна, не. Яны ўсе выхоўваліся на барыкадах за нацыянальную незалежнасць, і таму ў іх на першым месцы — палітыка (дэмакрат — недэмакрат, за незалежнасць ці за саюз....)

Так ці не, не ведаю. Ведаю іншае: асноўная каштоўнасць у культуры кожнай нацыі — гэта талент. І калі маладыя людзі, якія са школьных гадоў марылі стаць пісьменнікамі (паэтамі, празаікамі, драматургамі), аддаюць перавагу не таленту, а палітыцы, чакаць ад іх прарыву ў літаратуры і мастацтве — значыць траціць дарэмна час.

Творчую моладзь трэба выхоўваць і перш-наперш выхоўваць Чалавека, грамадзяніна, патрыёта сваёй бацькаўшчыны. Тады не трэба будзе выбіраць паміж талентам і палітычнай прыхільнасцю мастака.

Сярод тых, хто па-сапраўднаму любіў літаратурную моладзь і, як мог — і чым мог, падтрымліваў яе. Я спадзяюся, што многія чыталі ўспаміны Янкі Сіпакова "Сяргей Сцяпанавіч".

Чым адрозніваецца літаратурная моладзь, якая галасуе супраць вядомага пісьменніка, выказваючы да яго сваю непавагу, ад тых, хто ўвогуле абыякавы да ўсяго, што датычыць Беларусі?

Гэта не адзіны выпадак нігілістычнага настрою з'езда, палова дэлегатаў якога прагаласавала і супраць Уладзіміра Скарынкіна. Ён якраз напярэдадні з'езда закончыў працу над перакладам "Дон Жуана" Байрана і сваё невыбранне ў Раду можа лічыць своеасаблівым "падарункам" пісьменніцкага супольніцтва.

"Дон Жуан" — другая вялікая перакладчыцкая праца Скарынкіна: да гэтага



мёдава. Я не кажу, што гэта горш, чым адсекчы сук, на якім сядзіць СБП, — гэта проста неразумна: пісьменніцкі форум — не мітынг, на якім за крыкам нічога не разабраць.

Прычына такой акцыі з'езда — тая ж палітыка. Гніламёдаў узначальваў "незаконны аргкамітэт", дзякуючы якому адбыўся з'езд. Пісьменнікі выбралі сабе новае кіраўніцтва, і ўсе адразу ж супакоіліся.

І апошні штрых: гэты з'езд я назваў бы "гістарычным" толькі за тое, што ён сваім нецярплівым пляпляскваннем фактычна сагнаў з трыбуны Уладзіміра Дамашэвіча, якога на апошніх некалькіх пісьменніцкіх форумах праводзілі толькі авацыямі. Ці, можа, ён стаў засакрэчаным ворагам беларушчыны?

А калі б здарылася неверагоднае, і да нас вярнуўся Трыццаць Сёмы год? Хто першы паехаў бы на Салаўкі? Не тыя, супраць каго на з'ездзе СБП накідалі найбольш галасоў? Гэтыя галасы ў імгненне вока пераўтварыліся б у ананімныя палітычныя даносы — і зноў закруцілася б рэпрэсіўная машына, а яна не разбірае, хто лепшы, хто горшы, хто болей таленавіты, а хто меней.

І ніхто да гэтага часу не адказаў на самае простае пытанне: чаму менавіта пісьменніцкая арганізацыя панесла найбольшыя страты ў гады рэпрэсій 20—30 гадоў дваццатага стагоддзя? Ці не таму, што пісьменніцкае супольніцтва было самае палітызаванае? У адносіны паміж пісьменнікамі закрадвалася палітычная падазронасць, непрыхаваная непрыязнасць, дробязная помслівасць — перыядычныя рэцыдывы невылечнай зайздрасці, і ўсё гэта вылiвалася ў паклёпы і даносы, якія збірала і апрацоўвала таталітарная сістэма. Каб зрабіць адпаведныя аргвысновы.

Я невыпадкова апошні пісьменніцкі з'езд напаўжартам назваў "гістарычным". Тое, што адбылося на ім, прымушае задумацца над нашым пісьменніцкім жыццём, над нашымі ўчынкамі і ўзаемаадносінамі, прафінансаванымі нашым палітычным супрацьстаяннем.

Урокі мінулага мы так і не засвоілі і да гэтага часу не зрабілі нічога, каб нават тэарэтычна зрабіць немагчымым вяртанне 37-га года.

А ўсё пачынаецца з малога — з прафесійнай прыстойнасці.

**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

ВІНШУЕМ!

## ПЕРШЫЯ МАНТЫІ

Урачыстасці з нагоды юбілею Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прайшлі ў Мінску 10-12 снежня.

Гаспадары свята і госці з розных краін бралі ўдзел у навуковай канферэнцыі "Музычная адукацыя ў кантэксце мастацкай культуры", падчас якой было зроблена каля 80 дакладаў. Адбылося таксама ўрачыстае пасяджэнне Савета акадэміі. А кульмінацыяй сталася афіцыйная частка святкавання яе 70-годдзя ў зале Дома афіцэраў, увянчаная вялікай канцэртнай праграмай.

Сярод хвалюючых імгненняў тых дзён — віншаванне з юбілеем вядомай музыказнаўцы, доктара навук Таісы Шчарбаковай. Сярод падзей — устанаўленне новага звання: "Ганаровы доктар Беларускай акадэміі музыкі" і абвяшчэнне яго першых лаўрэатаў. Паводле рашэння Савета акадэміі імі былі названы шаноўныя госці, выдатныя музыканты і педагогі, прафесары, з якімі Беларусь мае даўнія плённыя стасункі: Віктар Мяржанаў (Расія) ды Ёган Трумер (Аўстрыя). Але самы першы медаль Ганаровага доктара БАМ, адпаведны дыплом і мантыю рэктар акадэміі Міхал Казінец уручыў аднаму з першых яе выпускнікоў, 89-гадоваму прафесару, народнаму артысту Беларусі, старэйшыне айчыннай кампазітарскай школы Анатолю Багатырову.

Імпрэзы, прысвечаныя 70-годдзю БАМ, працягваюцца. У іх ліку — і студэнскія канцэрты выхаванцаў класа Н. Аўраменкі (флейта) ды Н. Ташчылінай (фартэпіяна).

**С. Б.**

ВЫСТАВЫ

## МЕЛОДЫЯ ДЗІЦЯЧАГА МАЛЮНКА

У філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры "Гасцёўні У. Галубка" адбылося адкрыццё выстаўкі "Мелодыя дзіцячага малюнка". Выстава дае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю юных мастакоў студыі "Бацік", якая працуе пры Цэнтры дзяцячай творчасці Першамайскага раёна горада Мінска.

Ужо 4 гады студыяй кіруе майстар тэхнікі баціка Людміла Баірава. Яна гарманічна сумяшчае сваю індывідуальную творчасць з педагагічнай працай. Пад кіраўніцтвам Людмілы дзеці аваладваюць майстэрствам роспісу тканіны, вывучаюць асаблівасці тэхнічных прыёмаў, засвойваюць прынцыпы будовы кампазіцыі, спасцігаюць гармонію колераў.

Работы, прадстаўленыя на выстаўцы, вельмі цікавыя і разам з тым складаныя. Цяжка ўявіць, што яны зроблены дзіцячымі рукамі.

На адкрыцці выстаўкі выступілі педагог-арганізатар Цэнтра дзіцячай творчасці Першамайскага раёна Д. Знаменская, кіраўнік студыі "Бацік" Л. Баірава; загадчык кафедры музейнага праектавання Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры А. Сташкевіч; намеснік дырэктара турыстычнай кампаніі "Топ-тур" П. Хадкевіч.

Выстаўка "Мелодыя дзіцячага малюнка" працуе да 15 студзеня.

**Т. СМАЛЮГА, загадчыца гасцёўні**

ФЕСТЫВАЛІ

## ІМЯ САЛЯРЦІНСКАГА

Віцебск зноў прымаў удзельнікаў і гасцей Міжнароднага фестывалю камернай музыкі імя І. Салярцінскага. Як заўсёды, гэтае свята ўлучала ў сваю праграму канцэрты, выстаўкі, творчыя сустрэчы і навуковыя чытанні. Сёлетні фэст, пачатак якога зазвычай прыпадае на 3 снежня, дзень нараджэння вялікага знаўцы музычнага мастацтва, тэатра, літаратуры, асветніка-энцыклапедыста, паліглота Івана Салярцінскага — ураджэнца і нейкі час жыхара Віцебска, прысвячаўся 100-годдзю гэтай выдатнай асобы. Апроч заўсёднікаў віцебскай імпрэзы — беларускага Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" на чале з ініцыятарам і мастацкім кіраўніком фестывалю Уладзімірам Байдавым, былі тут і расійскія, і польскія госці. Сярод іх — сын І. Салярцінскага, вядомы музычны дзеяч з Пецярбурга Дзмітрый Салярцінскі, лідэр Кракаўскай філіі Польскага саюза кампазітараў Ежы Станкевіч, дырыжор Максім Шастаковіч — сын Дзмітрыя Шастаковіча, бліжэйшым сябрам якога быў Іван Салярцінскі.

**Н. К.**

**ДЫЯЛОГІ**

# Леанід ГУЛЯКА: «ШМАТ ХТО НЕ АДЫШОЎ АД СТЭРЭАТЫПУ — СПАДЗЯВАЦЦА ТОЛЬКІ НА БЮДЖЭТНЫЯ СРОДКІ»





***Леанід Паўлавіч, колькі сродкаў выдзяляецца з бюджэту на падтрымку беларускай культуры? Ці паступаюць яны своечасова?***

**ПАВЕЛ КОРЗУН, Мінскі раён.**

Колькі б сродкаў з бюджэту не выдзялялі на культуру ці іншыя бюджэтныя сферы, іх заўсёды будзе не хапаць. Больш сродкаў — больш хочацца зрабіць. На наступны год выдзелена не менш, чым сёлета. Я лічу, што культура на сённяшні дзень фінансуецца дастаткова для таго, каб не зачыняць свае ўстановы. Калі ў 2002 годзе на рэстаўрацыйныя работы і інвестыцыйную праграму мы мелі 4,5 мільярда рублёў, дык у наступным толькі на рамонт Белдзяржфілармоніі плануем укласці 7,8 мільярда; 6,4 мільярда пойдзе на рэстаўрацыю Нясвіжскага і Мірскага замкаў, на прыбудову да Нацыянальнага мастацкага музея. Я ўжо не кажу пра будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі, куды на наступны год выдзелена больш за 40 мільярдаў. Гэтыя лічбы красамоўна сведчаць пра адносіны дзяржавы да матэрыяльнай базы культурнай сферы і да культуры ў цэлым.

***Большасць беларусаў з разуменнем успрынялі будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі. Але чаму гэта робіцца "аўральнымі" метадамі? Можа не трэба спяшацца, каб пасля гадамі не даводзіць да ладу будынак? І яшчэ адно аналагічнае па тэме пытанне: што робіцца міністэрствам для падтрымкі сельскіх бібліятэк?***

**Надзея СУПРУН, Краснапольскі раён.**

Я лічу, што ніякага "аўральнага" метаду няма. Проста вызначаны тэрміны, якія мы павінны выконваць. Працуючы па восем гадзін у дзень, будаўніцтва можна расцягнуць на сем гадоў. Пастаўлена задача працаваць у дзве, а то і ў тры змены. Нічога ў гэтым дрэннага няма. Будаўнікі будуць асвойваць большыя грошы, атрымліваць лепшы заробак. Аўрала няма. Як вядома, аб'ект знаходзіцца пад асабістым патранажам Прэзідэнта. Больш таго, кіраўнікі урада штотыднёва праводзяць нарады на самой будоўлі. Усё ідзе ў планавым рытме і ў адпаведнасці з распрацаванай праектнай дакументацыяй.

А зараз пра бібліятэкі на сяле. Закрыццё некаторых звязана з сітуацыяй увогуле ў вёсцы, дзе колькасць жыхароў змяншаецца. Таму адбываецца аб'яднанне бібліятэк і вясковых клубаў у адным месцы — там, дзе лепшая база. Але ўстаноўкі зачыняць ці не – няма. Мы не маем непаразуменняў з абласнымі і раённымі ўладамі. Падыход самы сур'ёзны. Гэта тэма знойдзе сваё адлюстраванне на выніковай калегіі міністэрства 16 студзеня 2003 г. Многа ўвагі ўдзяляецца рэгіёнам. Сталіца, абласныя цэнтры ўвагаю не абыдзены, а вось пра вёску часта забываюць. Так не павінна быць. І міністэрства разам з мясцовымі ўладамі робяць шмат канкрэтных спраў, каб гэта работа не была эпізадычнай.

***Ці маглі б вы назваць нейкія сучасныя падзеі культурнага жыцця Беларусі еўрапейскага значэння?***

**Яўген Лях, Маларыцкі раён.**

Знамянальнай падзеяй бягучага года стаў візіт у нашу краіну Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Каішыры Мацууры, які падчас знаходжання на Беларусі наведаў замкавы комплекс у Міры і ўручыў пасведчанне аб уключэнні гэтага унікальнага архітэктурнага комплексу ў Спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Трэба адзначыць таксама правядзенне Дзён культуры Беларусі ў Парыжы, якія прайшлі надзвычай паспяхова. Значную дапамогу ў іх арганізацыі і правядзенні аказаў сусветна вядомы куцюр'е П'ер Кардэн.

У лістападзе творчая дэлегацыя беларускіх майстроў мастацтва ў складзе прыкладна 60 чалавек прыняла ўдзел у Днях культуры Рэспублікі Беларусь на Украіне. Яе аснову складаў Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі, некалькі салістаў опернага тэатра, лаўрэат міжнароднага конкурсу піяністаў імя П. Чайкоўскага, саліст Белдзяржфілармоніі А.Паначэўны. Нам былі прадстаўлены лепшыя пляцоўкі; дастаткова сказаць, што адкрываліся Дні культуры ў прэстыжнай Нацыянальнай Оперы Украіны. Зараз рыхтуюцца такія ж мерапрыемствы ў Санкт-Пецярбургу і Кіргізіі. У наступным годзе вясною нашы майстры мастацтва паедуць на Дні культуры ў Іран.

Многа цікавых праектаў рэалізуецца з удзелам замежных выканаўцаў, што прыязджаюць у Беларусь. Перш за ўсё гэта — Дні культуры тых ці іншых краін, фестывалі і конкурсы. Міжнароднае прызнанне набылі такія вядомыя форумы мастацтва як міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа" ў Брэсце, Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад", Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" і іншыя. Прыкладам высокага ўзроўню айчыннага выканальніцкага майстэрства сталі сёлетнія перамогі беларускіх артыстаў на шматлікіх міжнародных конкурсах.

***У якія выдаткі абыходзіцца Беларусі правядзенне "Славянскага базару" і кінафестывалю "Лістапад"?***

**Аляксандр БОРТНІК, г.Гродна.**

Названыя вамі буйныя культурныя акцыі — гэта заўсёды кансалідаваныя мерапрыемствы. Кінафестываль "Лістапад" праводзіцца за сродкі Міністэрства культуры, Мінскага гарвыканкама, пастаяннага камітэта краін СНД, спонсараў. Тое ж тычыцца і "Славянскага базару ў Віцебску", на які вылучаюцца грошы з бюджэту Саюзнай дзяржавы, з прэзідэнцкага рэзервнага фонду, Міністэрствам культуры, спонсарамі.

Акрамя таго, значная частка мерапрыемстваў "Славянскага базару ў Віцебску" самаакупная за кошт продажу ўваходных білетаў. Павінен адзначыць, што грошы, атрыманыя ад продажу білетаў, накіроўваюцца на пагашэнне іншых выдаткаў фестывалю, гэта значыць, эканоміцца дзяржаўныя сродкі. Наша стратэгічная мэта — паступова зрабіць так, каб фестываль стаў максімальна самаакупным. Падобныя падыходы будуць адпрацоўвацца ў дачыненні да фестывальнага руху ў цэлым.

***У Беларусі шмат мясцін, якія маглі б стаць прывабнымі для турыстаў. Напрыклад, Навагрудак, Мір, Полацк, Браслаўшчына. На вашу думку, што для гэтага трэба зрабіць мясцовым уладам, у тым ліку і аддзелам культуры?***

**Іван ЯЎСЕЙЧЫК, г. Гомель.**

Возьмем Мір. Сёлета напярэдадні правядзення тут Дзён беларускага пісьменства і друку мястэчка набыло еўрапейскі выгляд. І гэта зроблена агульнымі намаганнямі. Вялікія сродкі ўклала Гродзенская вобласць і міністэрствы, што маюць дачыненне да канкрэтных аб'ектаў. Напрыклад, для Міністэрства культуры — гэта замак і касцёл святога Мікалая, для Белкаапсаюза і Міністэрства гандлю — рэстаран, для Міністэрства камунальнай гаспадаркі — гасцініца. Тыя, хто быў на свяце пісьменства і друку, не пераставалі здзіўляцца зробленаму за такі кароткі тэрмін. Што тычыцца Полацка, распрацавана комплексная дзяржаўная праграма прывядзення ў парадак яго гістарычных помнікаў. Яна выконваецца даволі інтэнсіўна. Яскравы прыклад — адкрыццё мастацкай галерэі, у якім прыняў удзел Прэзідэнт краіны. Упэўнены, што такія месцы можна паказваць сямаму патрабавальнаму наведвальніку. Навагрудак падчас святкавання 200-годдзя Адама Міцкевіча таксама моцна абнавіўся.

Мне здаецца, што сённяшнія праграмы, якія здзяйсняюцца па даручэнні кіраўніка дзяржавы ў дачыненні добраўпарадкавання канкрэтных месцаў, вельмі правільныя. Наконт турыстаў, вядома, павінны больш клапаціцца тыя, хто мае першаснае дачыненне да гэтай тэмы. Наша задача — прывесці ў належны стан помнікі культуры і гісторыі. Гляньце на зробленае ў Заслаўі, Мсціславе. Такія прыклады можна доўжыць. За апошнія гады ў гэтым накірунку праведзена значная работа, і яна, несумненна, будзе працягвацца. Будзе што паказаць, паедуць і турысты. А галоўнае — зберагчы для свайго народа тое, што створана продкамі, іх талентам і вялікай працай.

***Ці часта наведваеце тэатры? Якую апошнюю кнігу прачыталі?***

**Зінаіда ШАКУЦІНА, г.Орша.**

Тэатры наведваю вельмі часта. Па-першае, ёсць цяга са студэнцкіх гадоў, па-другое, абавязаны ведаць, што там робіцца. Бываю на прэм'ерах спектакляў, наведваюся, каб сустрэцца з галоўным рэжысёрам, дырэктарам, акцёрамі. У гэтым годзе напярэдадні адкрыцця тэатральнага сезона, да прыкладу, такія сустрэчы адбыліся ў оперным тэатры, рускім, у Белдзяржфілармоніі, калектывы якой, нягледзячы на рамонт будынка, працуюць.

Апошняя кніга, якую прачытаў з вялікім задавальненнем, — трохтомнік афарызмаў. Знаёмства з гэтым цікавым зборнікам дазваляе на многія рэчы пагледзець з большай філасофіяй асэнсавання жыцця.

***Як вы ацэньваеце сучасную беларускую літаратуру? Каго можаце выдзеліць са старэйшых і маладзейшых пісьменнікаў?***

**Вікторыя ГАЛУШКА, г. Мінск.**

Я з задавальненнем паразважаю на гэту тэму. Бо з аднаго боку кажуць, што выдзяляецца мала сродкаў на выданне літаратуры, з другога, трэба паглядзець на рэалізацыю тых кніг, якія выходзяць. Калі раней — пры Савецкім Саюзе — нават 10 тысяч экземпляраў разыходзілася, цяпер не так, як хацелася б. У кнігарнях кнігі на паліцах стаяць па некалькі гадоў. Гэта павінна ўплываць на выдавецкія планы. Галоўную скрыпку, вядома, адыгрывае Міністэрства інфармацыі. Яму выдзяляюцца сродкі на выдавецкую дзейнасць, апе яны з намі абавязкова раяцца: як будуць камплектавацца бібліятэкі, ці ёсць на гэта сродкі? Трэба таксама ўлічваць, хто і калі выдаваўся. Бо няправільна арыентавацца толькі на абмежаванае кола аўтараў. Тым не меней, гэта тэма не застаецца па-за ўвагай Міністэрства культуры.

Можна пачуць нараканні, што ў нас мала напрацоўваецца з Саюзам пісьменнікаў. Не згодзен, у нас да гэтай справы падыходы дзяржаўныя, і яны кантралююцца на ўзроўні першых асоб краіны. Нясіце добрыя, разумныя планы з тлумачэннем, што хочаце зрабіць. Але не планы-каштарысы, складзеныя на старонку з указаннем таго, куды патрэбны грошы. А прадстаўце цікавую, распрацаваную праграму — і мы будзем разглядаць. Будзем адстойваць перад Міністэрствам фінансаў, калі ўбачым, што гэта прынесціць карысць усёй Беларусі. Хачу сказаць, што сустракаючыся з прадстаўнікамі нашых творчых саюзаў, канфедэрацыі, мы атрымалі прапановы. Але ўсе яны выглядаюць менавіта як каштарыс на адным лістку. Прабачце, трэба папрацаваць, каб скласці прыстойны бізнес-план. А такога, каб прапаліцілі, выйшла ў свет выданне і яго паклалі на паліцу, — сёння ўжо не будзе.

Калі людзі працуюць у накірунку выхавання нашай моладзі, іх трэба падтрымліваць. Возьмем таго ж Івана Пятровіча Шамякіна, які атрымаў прэмію Саюзнай дзяржавы. Цікава працуе Аляксей Дудараў, цяпер піша сцэнарый да кінафільма па сваёй п'есе "Радавыя". Калісьці спектакль быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР, думаецца, што і фільм атрымаецца. Сёння тэма патрыятызму, псіхалагізму адносінаў зноў запатрабавана. Людзей цікавіць гісторыя сваёй краіны, глыбіня культурнага развіцця. Прыемна, што моладзь усё больш і больш хінецца да гэтых пытанняў.

***Ці не здаецца вам, што замест буйных кінапраектаў накшталт "Анастасіі Слуцкай" лепш зрабіць некалькі менш затратных карцін?***

**Лявон ДЗЯДОК, г.Паставы.**

Не пагаджуся з такім разважаннем. "Анастасія Слуцкая" — не такі ўжо вялікі па выдатках праект. Агульны кошт — мільярд васемсот мільёнаў беларускіх рублёў (мільён долараў). Больш як мільярд ужо асвоена, да канца года сума складзе мільярд чатырыста мільёнаў, а вясной будуць выкарыстаны і астатнія грошы. Думаю, здаваць карціну будзем у красавіку наступнага года. Калі кажу пра невялікую суму, маю на ўвазе вялікія выдаткі паўсюдна па стварэнні гістарычных карцін. Дастаткова сказаць, што палякі апошні гістарычны фільм знялі за 40 мільёнаў долараў, украінцы — за 20. Але гэтыя фільмы, як і тыя, што здымаюцца ў Расіі, дзяржавай амаль не фінансуюцца.

Мы не можам адысці ад стэрэатыпу — спадзявацца толькі на бюджэтныя сродкі. Цяпер пытанне будзе стаяць так: дзяржава падтрымае цікавую стужку, кінапраект, але пакажыце, як фільм будзе выходзіць на рынкі, прадавацца. Пакуль жа такая задача да канца не вырашана. Не зусім адпрацавана сістэма ўзаемадзеяння тых, хто стварае фільм, і тых, хто яго будзе паказваць гледачу — пракатчыкаў. З гэтай мэтай на базе кінатэатра "Цэнтральны" ў Мінску пасля вялікага рамонту ствараем цэнтр расійскай кінематаграфіі. Праз яго будзем браць фільмы, якія цікавяць нас на расійскім рынку; і праз яго ж свае карціны накіроўваць туды для рэалізацыі. Гэта не "бартэр". Пракатчык купіць тое, што можа прадаць. Падчас Дзён культуры ў Кіеве была размова з міністрам культуры і намеснікам мэра сталіцы Украіны аб стварэнні цэнтра ўкраінскага кінематографа ў Мінску і адпаведнага цэнтра беларускага кіно ў Кіеве.

***У Беларусі няшмат мастацкіх галерэй. Ці акупляюць яны сябе? Які працэнт прыватных і дзяржаўных?***

**Сяргей СІВЫ, Вілейскі раён.**

Большасць мастацкіх музеяў і галерэй — дзяржаўныя. Адразу скажу — фінансава сябе яны не акупляюць. Дарэчы, як і ў свеце. Бо якія б кошты на білеты не былі, яны не могуць пакрыць усе выдаткі на ўтрыманне ўстаноў. Ёсць нарматывы зберажэння твораў, падтрымання тэмпературнага рэжыму. За кошт рэалізацыі білетаў аплацідь іх цяжка.

Мы ставім перад галерэямі задачу, каб сродкі, выдзеленыя дзяржавай на іх утрыманне, складаліся з дзвюх частак. Першая — бюджэт, другая — пазабюджэтная. Сёння яна складае ўжо 20 працэнтаў. Гэта нямала. У музеі Вялікай Айчыннай вайны сёлета мы правялі выставу С.Рэрыха. Там, павялічыўшы кошт на білеты, выканалі паўгадавы план. Плённа працуе ў гэтым накірунку Нацыянальны мастацкі музей. Значны рэзананс мелі сёлета персанальныя выстаўкі народных мастакоў Беларусі М.Савіцкага, Г.Паплаўскага, іншых вядомых творцаў, а ў афішы наступнага года —персанальныя выстаўкі народных мастакоў Беларусі Г.Вашчанкі, В.Грамыкі, выстаўка з фондаў Траццякоўскай галерэі.

***Пры павелічэнні кошту ўваходных білетаў частка пытанняў здымаецца. Але рабіць такое трэба ў разумных межах. Ці ёсць якая надзея для работнікаў музеяў, бібліятэк,што не маюць належных жыллёвых умоў, іх палепшыць?***

**Святлана ЯЗЕРСКАЯ, супрацоўнік музея Вялікай Айчыннай вайны.**

За апошнія некалькі гадоў кіраўніцтва краіны столькі зроблена для паляпшэння жыллёвых умоў работнікаў культуры, што не было зроблена за папярэдні 15—20. У гэтым годзе ў Мінску пабудаваны і зданы

ў эксплуатацыю два жылыя дамы: адзін для работнікаў рэспубліканскіх установ культуры і мастацтва, творчых саюзаў, другі — для работнікаў установ культуры і мастацтва, падпарадкаваных упраўленню культуры Мінгарвыканкама.

Маецца дамоўленасць з Мінгарвыканкамам аб прадастаўленні Міністэрству культуры зямельнага ўчастка ў сталіцы для праектавання і будаўніцтва 9-павярховага інтэрната сямейнага тыпу для работнікаў культуры. Плануецца размясціць яго ў квартале вуліц Адзінцова—Цімашэнкі. Распрацоўка праектна-каштарыснай дакументацыі пачнецца пасля ўключэння гэтага аб'екта ў план фінансавання.

***Як вы ацэньваеце будучыню беларускай культуры з пункту гледжання паляпшэння матэрыяльнага становішча яе працаўнікоў?***

**Алесь ПАЎЛОВІЧ, г. Масты.**

Канешне, мы не можам сказаць, што ўсе работнікі культуры атрымліваюць заробак, які дазваляе бязбедна жыць. Тым не менш, за апошнія гады атрымалі значную падтрымку кіраўніцтва краіны. Створаны і зацверджаны новыя ўмовы аплаты працы работнікаў прафесійнага мастацтва.

Па шчырасці, нас сёння ў першую чаргу хвалююць заробкі людзей, якія працуюць у раённых установах культуры. Я маю на ўвазе нават не Дамы культуры — там можна напрацаваць нейкія сродкі. Складаней дадаткова зарабіць у бібліятэцы, у раённым музеі. Больш таго (можа, гэта прагучыць і непапулярна), менш хвалюе памер заробку сельскага загадчыка клуба ці бібліятэкара. На фоне астатніх работнікаў народнай гаспадаркі яны выглядаюць не вельмі дрэнна. Між іншым, там ніколі і не скардзяцца на заробкі.

***Я турбую ад імя бацькоў, дзеці якіх навучаюцца ў рэспубліканскім вучэбным комплексе гімназія-каледж Беларускай Дзяржаўнай акадэміі музыкі. Гэта ўстанова унікальная, яе падтрымлівае Міністэрства культуры, дзеці маюць магчымасць атрымліваць стыпендыі, ездзіць на конкурсы. Але існуе вось якая праблема: зараз уводзіцца агульнадзяржаўны кампанент, які ўнясе складанасці ў навучанне. Нашы дзеці вельмі загружаны па спецыяльнасці — па 6 гадзін у дзень, таму ім цяжка будзе вучыцца належным чынам і па агульнашкольных прадметах.***

**Фёдар ІВАНОВІЧ.**

Абсалютна правільнае пытанне ставіце. Увядзенне, як вы кажаце, дзяржаўнага кампанента, а дакладней – дзяржаўнага адукацыйнага стандарта, выклікана сучаснымі тэндэнцыямі развіцця ў сферы адукацыі краіны, звязанымі з павышэннем якасці адукацыі і, як вынік, устанаўленнем адзіных патрабаванняў да яе зместу. Так, стандарт агульнай сярэдняй адукацыі прадугледжвае дастаткова ўнушальную колькасць гадзін па прадметах прыродазнаўча навуковага цыкла, якія раней адсутнічалі ў вучэбных планах гімназіі-каледжа пры Акадэміі музыкі. На сённяшні момант пытанне ўвядзення гэтых дысцыплін у навучальны працэс каледжа вырашаецца сумесна з Міністэрствам адукацыі, якое разумее, што нормы для агульнаадукацыйнай школы не павінны быць такімі ж, як для гімназіі-каледжа. Плануецца скараціць у два разы прыродазнаўча навуковы цыкл, але частка прадметаў застанецца. І гэта, я лічу, правільна, паколькі сёння кожны выпускнік сярэдняй спецыяльнай навуковай установы павінен быць адукаваным чалавекам і ведаць асновы розных навук.

***Якія існуюць гранты для падтрымкі айчыннай культуры?***

**Алесь БЕЛАНЧУК, г. Брэст.**

Перш за ўсё — гранты з двух фондаў Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва, а таксама таленавітай моладзі. У склад Саветаў фондаў уваходзяць вядомыя дзеячы культуры і мастацтва нашай рэспублікі. Па-другое, у нас ёсць сістэма, калі лепшыя творчыя работнікі могуць атрымліваць надбаўкі да свайго асноўнага заробку. Атрымліваюць іх сёлета 100 чалавек, па 600 тысяч рублёў у месяц. Калі я расказваю міністрам культуры іншых краін пра такую дапамогу, яны не заўсёды нават вераць. Не магу прыгадаць, дзе ў краінах СНД ёсць такое. А паглядзіце колькі таленавітай моладзі падтрымана стыпендыямі Прэзідэнта, колькі установ культуры атрымалі гранты, каб набыць музычныя інструменты, абсталяванне, тэатральныя касцюмы, ажыццявіць уласныя творчыя праекты. Асабліва хачу падкрэсліць — гэта размяркоўваецца па ўсёй краіне. Да прыкладу, падчас адной з паездак Прэзідэнт Беларусі наведаў школу мастацтваў у Светлагорску. Два вучні гэтай школы з'яўляюцца стыпендыятамі фонду Прэзідэнта, адзін з хлопцаў атрымаў баян асабіста ад Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

***Па чыёй віне не выплачваюць стыпендыю артыстам Белканцэрта? Ганарары затрымліваюцца, хаця канцэрты праходзяць своечасова.***

**Каця.**

Выкананне шэрагу мерапрыемстваў (канцэртаў, дзён культуры) Міністэрства культуры даручае Гастрольна-канцэртнаму рэспубліканскаму унітарнаму прадпрыемству "Белканцэрт". З гэтай мэтай заключаюцца дагаворы, да якіх складаюцца каштарысы выдаткаў з дакладным пазначэннем сум выплат творчым калектывам і асобным выканаўцам. У адпаведнасці з дагаворамі "Белканцэрту" пералічваюцца сродкі. На жаль, менавіта "Белканцэрт" не заўсёды ў тэрмін разлічваецца як заказчык з выканаўцамі. Безумоўна, у гэтым ёсць пэўная віна Міністэрства культуры, службы якога не заўсёды забяспечваюць якасны кантроль за выкананнем дагавароў. Аднак зазначу, што апошнім часам становішча значна палепшылася і запазычанасць амаль ліквідавана.

***Дзе ў Мінску будуць устаноўлены помнікі Францішку Скарыне і Адаму Міцкевічу?***

**Алесь БАДАЕД, г.Мінск**

Міністэрствам культуры, Мінскім гарвыканкамам, іншымі зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання неаднаразова абмяркоўвалася пытанне аб месцы ўстаноўкі помніка Францішку Скарыне, створанага на конкурснай аснове скульптарам А.Дранцом. Свае прапановы выказвалі навукоўцы, архітэктары, прадстаўнікі грамадскасці сталіцы. Першапачаткова ўзвядзенне помніка асветніку планавалася ажыццявіць каля будынка Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук. Але пасля грунтоўнага вывучэння горадабудаўнічай сітуацыі ў гэтым раёне ад дадзенага варыянта прыйшлося адмовіцца. Помнік будзе ўстаноўлены на праспекце Францішка Скарыны перад будынкам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі пасля завяршэння яе пабудовы. Лічу, гэта найбольш прадуманае і лагічнае рашэнне.

Работа над помнікам Адаму Міцкевічу вядзецца вядомымі скульптарамі А.Заспіцкім і А.Фінскім. Ужо пройдзены асноўныя этапы яго стварэння: падрыхтаваны формы для адліўкі. У наступным годзе помнік павінен быць завершаны. Месца яго прывязкі вызначана — гэта маляўнічы сквер паміж вуліцамі Няміга і Гарадскі Вал. Варта таксама адзначыць, што аўтарскі калектыў двойчы атрымліваў гранты фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва на стварэнне згаданага помніка.

***На Нямізе будуецца паркінг. Але ж гэта — гістарычная спадчына.***

**Аляксандр АЛЕЙНІК, г.Мінск.**

У тым, што будуецца паркінг, ніякіх парушэнняў няма. Археалагічныя раскопкі не выявілі на дадзенай тэрыторыі значных археалагічных помнікаў.

Работа па ўзвядзенні шматфункцыянальнага комплексу на вуліцы Няміга праводзіцца на падставе рашэння Мінгарвыканкама і адпаведнага дазволу Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры. Цяпер аўтарскі калектыў на чале з вядомым архітэктарам-рэстаўратарам С. Багласавым распрацоўвае архітэктурнае рашэнне згаданага аб'екта з улікам неабходнасці яго гарманічнага спалучэння з існуючым гістарычным асяроддзем. Безумоўна, горад Мінск — гэта жывы арганізм, які павінен расці і развівацца. І ў кожным канкрэтным выпадку трэба шукаць узаемапрымальныя, узважаныя варыянты.

***Беларусь пакідае творчая інтэлігенцыя. Ці ёсць нейкая праграма па іх ўтрыманні дома? Вось і малады, але ўжо вядомы, драматург А. Курэйчык "нацэліўся" на Маскву.***

**(Карэспандэнт канала АТН)**

Праграма па ўтрыманні маладых талентаў можа быць адна — даць зарабіць, зацікавіць перспектыўнай творчай работай. Што тычыцца Курэйчыка, ён нікуды не "нацэліўся". Паглядзіце, як ставяць яго п'есы: у Мінску, Гродне, Гомелі. У Маскве ён вучыцца за кошт сродкаў гранта Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Назавіце прозвішчы тых, хто збіраецца ад'язджаць. Чаму яны збіраюцца ад'язджаць? Упэўнены, што такіх прыкладаў, калі і ёсць, то толькі адзінкі. Сітуацыя змянілася. Пры жаданні свае магчымасці творчая моладзь можа рэалізаваць і ў Беларусі.

***Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры з'яўляецца прэстыжным, сюды пры паступленні заўсёды высокі прахадны бал. Якім чынам Міністэрства культуры збіраецца спрыяць аднаўленню матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтай установы? Бо мне даводзілася там быць, і здалося, што будынку патрэбны рамонт.***

**Інэса БУТРЫМОВІЧ, г.Скідзель.**

Відаць, што вы ва універсітэце былі даўнавата. Наведайце яго зараз, пахадзіце па паверхах і ўпэўніцеся, што там не так блага. Штогод робіцца бягучы рамонт. Да гонару кіраўніцтва універсітэта, яно ў большай ступені выкарыстоўвае пазабюджэтныя сродкі, якія гэтай навучальнай установе ўдалося напрацаваць. Шмат што зроблена там у інтэрнатах. Праўда, неабходна пабудаваць культурна-спартыўны комплекс, ужо падрыхтавана дакументацыя, ідзе абмеркаванне фінансавання. Пытанне складанае, але агульнымі намаганнямі яго трэба вырашаць.

**"Прамую лінію" праводзіў Міхал ТАЛОЧКА.**
**Фота К. ДРОБАВА**



**Захарава, 19**

## РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***

***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***

***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл. 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**АКЦЫЯ**

# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе карміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim @ tut. by.

# ДЗЕНЬ «НЁМАНА» Ў БІБЛІЯТЭЦЫ

Ужо шмат гадоў працягваецца творчае сяброўства і супрацоўніцтва пісьменніка Міхася Пазнякова з калектывам сталічнай бібліятэкі № 7 імя Якуба Коласа, дзе загадчыцай даўно працуе руплівая Ганна Антонаўна Працько. А гэта — правядзенне творчых вечароў, ранішнікаў, кніжных святаў, прэм'ер кніг, выставак.

Вось і нядаўна ў бібліятэцы быў праведзены дзень часопіса "Нёман". На сустрэчу з чытачамі і работнікамі бібліятэкі, настаўнікамі школ прыйшлі намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман" Міхась Пазнякоў і загадчык аддзела крытыкі Яўген Каршукоў. У зале была разгорнута выстаўка нумароў часопіса за розныя гады і кніг М. Пазнякова і Я. Каршукова. Напачатку сустрэчы бібліятэкар Ірына Цвіркоўская нагадала прысутным аб гісторыі часопіса "Нёман", пра пісьменнікаў, якія ў свой час узначальвалі і рэдагавалі яго. Дарэчы, у 2005 годзе "Нёману" споўніцца 60 гадоў. М. Пазнякоў расказаў аб рабоце новай рэдкацыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва". Пазнаёміў са структурай рэдакцыі часопіса, падрабязна праінфармаваў аб творчых планах на 2003 год.

Я. Каршукоў распавядаў аб рабоце аддзела крытыкі, аб стане беларускай літаратурнай крытыкі і яе задачах.

Госці-пісьменнікі прачыталі свае творы, адказалі на шматлікія пытанні.

**П. КУЗЬМІЧОЎ**

# СУСТРЭЧЫ Ў ГРОДНЕ

Нядаўна ў Гродна на сустрэчу з чытачамі і падпісчыкамі накіраваліся галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Н. Чайка і рэдактар аддзела прозы С. Зайцаў. Для камандзіроўкі, звязанай з падпісной кампаніяй, гэты горад быў абраны невыпадкова, бо гэта ж — адзін з буйнейшых цэнтраў адукацыі і асветы не толькі Беларусі, але і краін СНД, і Еўропы. Чытацкая аўдыторыя ў горадзе вельмі значная. Сапраўды сімвалічнае значэнне мае і той факт, што Гродна стаіць на нёманскіх берагах. Каму ж, як не чытачам слаўнага старажытнага горада Гродна, падтрымаць часопіс "Нёман"?..

Адбыліся сустрэчы з супрацоўнікамі аблвыканкама, навучэнцамі прафтэхвучылішча, планава-фінансавага каледжа, студэнтамі і выкладчыкамі універсітэта, з работнікамі малога гандлёвага прадпрыемства, з адміністрацыяй Міжнароднага жаночага саюза "Адзінства" (абласное аддзяленне).

Галоўны рэдактар Н. Чайка расказала аб стане сучаснай беларускай літаратуры, аб рабоце РВУ "Літаратура і мастацтва", аб планах рэдакцыі часопіса на бліжэйшыя гады. С. Зайцаў зрабіў агляд тых твораў, якія будуць надрукаваны ў першым паўгоддзі 2003 года.

**Сяргей ЗАЙЦАЎ**

**Шаноўныя чытачы! Віншуючы вас з Калядамі і Новым годам, дзякуем вам за тое, што былі разам з намі, жылі нашымі клопатамі і падтрымоўвалі нас. Будзем рады сустрэчы з вамі і ў новым годзе.**

**Наступны нумар "ЛіМа" выйдзе 10 студзеня 2003 года.**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

•

**З снежня ў вялікай зале Дома літаратара адбылася творчая вечарына паэта і барда Алеся Камоцкага "Ноч з марозікам". Нагодай паслужыў выхад кампакт-дыска выбраных песень — "Дым". У чарговы раз беларуская аўтарская песня сабрала поўную залу сваіх прыхільнікаў.**

**З уступным словам пра творчасць А. Камоцкага напачатку імпрэзы выступіў намеснік старшыні СБП Э. Акулін.**

•

**Творчая сустрэча праўлення СБП з сябрамі клуба "Беларуская хатка" прайшла 4 снежня ў філіі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Са словам аб жыцці і дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі выступіў старшыня СБП Алесь Пашкевіч. Сваімі надзённымі клопатамі на пасадах намеснікаў старшыні пісьменніцкай сябрыны падзяліліся Б. Пятровіч, Э. Акулін і М. Скобла. Пасля афіцыйнай часткі гучала паэзія.**

**Вяла вечарыну загадчыца "Беларускай хаткі" Таццяна Шэляговіч.**

•

**9 снежня пад дахам музея Максіма Багдановіча ў межах літаратурнага салона "Вянок" прайшла вечарына паэта і барда Эдуарда Акуліна, прымеркаваная да стаадзінаццацігоддзя з дня народзін "Беларускага Ікара".**

**У імпрэзе прынялі ўдзел: народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, Л. Дранько-Майсюк, А. Вярцінскі, М. Скобла, В. Іпатава, А. Хатэнка, Б. Пятровіч.**

**Ад СБП выступіў старшыня арганізацыі А. Пашкевіч.**

**Вяла вечарыну загадчыца экскурсійнага аддзела музея С. Кіслова.**

**Я. А.**

## БЕЛАРУСКА-НЯМЕЦКІ ДЫЯЛОГ

**У Інстытуце Гётэ, што месціцца ў Доме літаратара, адбылася прэзентацыя кніжак Алеся Разанава "Танец з вужамі" ("Tanz mit den Schangen"; пераклады Эльке Эрб і Уладзіміра Чапегі) і "Гановерскія пункціры" ("Hannoversche Punktierungen"; пераклад Оскара Анзуля). Абедзве пабачылі свет у Нямеччыне і выдрукаваныя на беларускай і нямецкай мовах (білінгвы). З гэтай нагоды перакладчык "Гановерскіх пункціраў" Оскар Анзуль прысутнічаў на вечарыне, ненадоўга завітаўшы на Радзіму аўтара. Пра сваё літаратурнае і прыватнае жыццё, як, дарэчы, і пра сучаснае нямецкае жыццё агулам, прысутныя даведаліся з яго вуснаў без празмернай лірычнай метафорыкі і прэтэнцыёзных эківокаў... Не забыліся і пра галоўнае. Вершы чыталіся паралельна: арыгінал — аўтарам і пераклад — Оскарам Анзулем (ён, між іншым, яшчэ і прафесійны чытальнік і выканаўца мастацкіх твораў, з чаго пераважна і жыве). На пытанне з залы наконт заробкаў ад вершавання, ён адказаў без позы, але даволі артыстычна і арыгінальна: "Я пакуль яшчэ занадта шаную паэзію, каб ператвараць яе ў заробак". Трэба зазначыць, што на працягу вечарыны амаль не было навязлівых і тлумных маналогаў. Усе былі, па-разанаўску, дакладныя і лаканічныя, — як "імянiннікі", так і публіка. І ўсё ж аднастайна "гармонію алгебрай" не вывяралі, таму ў кампактнай і вусцішнай бібліятэчнай зале Інстытута Гётэ панаваў разнявolены настрой, аптымізм і ў меру палемічнае сумоўе...**

**Як заўжды "на сваім месцы" была супрацоўніца Інстытута Гётэ Галіна Скакун. Вось прафесіянал, якому зайздросціш. Настолькі нязмушана, лёгка і па-беларуску мілагучна тварыўся ёю пераклад, што нямецкая гаворка Оскара Анзуля неўпрыкмет рабілася амаль сваёй, зразумелай і незаўважнай...**

**Кароткае слова цягам вечарыны бралі Адам Мальдзіс, Ала Сямёнава, Язэп Янушкевіч, Анатоль Вярцінскі...**

**Шмат казалася пра выбітны і арыгінальны талент Алеся Разанава, які адбудоўвае "масты" культурнага паразумення паміж цывілізаванай Еўропай і шляхетнай Беларуссю (Алесь Сцяпанавіч два гады жыў у Нямеччыне як першы лаўрэат стыпендыі імя Ханы Арэнт). А нямецкі паэт прапаноўваў ужо новы, рэальны, на яго думку, праект: з 2004 года перыядычна абменьвацца літаратурнымі дэлегацыямі паміж нашымі краінамі. Напрыканцы прэзентацыі большасць прысутных займелі новую кніжку Алеся Разанава, даможныя — з аўтографам.**

**ЛеГал**

## ЮБІЛЕІ

# І БОЯЗНА ДА КРЫКУ, І РАДАСНА ДА СЛЁЗ

### Варыяцыя на тэму «пісьменнік Алена Васілевіч»

Дзяўчынка-малеча, настроеная адпаведным чынам сваімі бацькамі, сыграла ў прафесійным ужо тэатры — БДТ — ролю Данілкі ("Раскіданае гняздо"). І ў закулісны лабірынт завітаў сам Янка Купала. Перш-наперш павіншаваў разгубленую малую дэбютантку: даў ёй жменю цукерак і пагладзіў па галаве. Так пачынала палёт да вяршыняў акцёрскага мастацтва найвялікшая наша актрыса мінулага стагоддзя Ірына Ждановіч. "То было благаславенне, — гаварыла славутая ўжо Ірына Фларыянаўна. — Я дзіцячым сэрцам адчула, ш т о падарыў мне Іван Дамінікавіч. Ніякі лёсны для мяне дыфірамб, нат самы красамоўны панегірык, адрасаваны мне, ані не мог важыць нароўні з тым Купалавым благаславеннем. Я і жыву на сцэне, каб аддаць адплату... аддзякаваць... апраўдаць той гонар, якім абдарыў малалетнюю недалугу Ірынку наш Прарок..."

Аднаго разу мы з Аленай Васілевіч усчалі мемуарную гаворку, на якую настроіў прыгаданы намі раманс з гэтым падсамотненым спеўным воклічам: "Какие были времена! Какие осени и зимы! Какие были имена мной каждый день произносимы..." Я хацеў было нагадаць Ёй пра Купалава благаславенне, якім жывіўся трапяткі талент вялікай Ждановіч. Мне карцела параўнаць гэты выпадак артыстычнага лёсу з тым, што дастаўся на долю пісьменніка (ой, не кажыце толькі пра Яе "пісьменніца"!), які вядзе сваіх чытачоў да глыбокіх уражанняў хараством сваёй белетрыстыкі.

Было тое яшчэ ў Каралішчавічах. Прыстанак заступніцы ўсіх мастакоў, што натхняе іх, — Музы. Так, так, у незабыўна чароўным кутку, цяпер ужо легендарным Доме творчасці, гэтым нашым "Царскім Сяле", нашым "Перадзелкіне", дзе ў засені ялін ды сосняў нячутна рыпелі пяром або выстуквалі на трафейных пішмашынках і сапраўдныя асілкі нашай літаратуры, і тыя, хто ў вайну асядлаў наравістага Пегаса, і проста здатныя на пісьмо літаратары, ды і, здаралася, графаманы. Каля хаціны, што была тутэйшым летнім прытулкам Якуба Коласа, весела гарэзнічалі дзеці сезонных насельнікаў таго Дома. Канстанцін Міхайлавіч, седзячы ў цяньку, падкідваў жартачкі ў галасісты дзіцячы гурт, раз-пораз пасылаючы Алену ў свой дамок, каб яна вынесла якому веселуну цукерку. Заўважыў: а чаму ж ты сама не частуешся смакоццем? Пайдзі і вазьмі сабе плітку шакалада. На стале, ля чарнільніцы. "Люксам" завецца...

Здавалася б, што тут незвычайнага: атрымаць з рук хай сабе і вельмі шаноўнага, нават абагоўленага табой чалавека адмысловай смакаты частунак?! О, не, то быў дзівосна надзвычайны ўчынак дзядзькі Коласа. Бо ёсць, ёсць у стасунках паміж людзьмі нешта невыказна істотнае, што мы перадаем, бывае, сама больш асаблівым позіркам, жэстам рукі, з уздыхам зробленай мінай або грымасай, мімалётнай заўвагай быццам пра зусім нязначнае і штось пабочнае. А ты сам (або сведкі) чытаеш... расшыфроўваеш... разгадваеш сэнс таго позірку, таго жэста, тае міны альбо вонкава недарэчнай заўвагі "між іншым". І робіцца гэта не так розумам (рацыянальна), як пачуццёва. Душа з душой гаворыць! І вось плітка шакаладу "Люкс"... Для каго "люкс" гэта камфартабельны нумар у гатэлі, для каго вагон трансеўрапейскага экспрэса. У сапраўднасці ж "люкс" — на лацінцы азначае "святло". Праменістае ззянне. Раскоша перамогі над цемрай!

Такім чынам дзядзька Колас па-свойму пра многае сказаў... паведаміў... прызнаўся... даў наказ маладой тады Алёнцы. Помні, ты — літаратар, адораны жывым святлом, якое прабіваецца праз радкі напісаных табою празаічных твораў.

Дык жа хай свяціцца твой талент, пісьменнік А. Васілевіч!

Яна і сапраўды ва ўсіх праявах яе існасці — Светлая Панна. Кажу гэта не дзеля дадатковай кроплі ялею да юбілейнай даты ў Васілевічавым кален-



дары. І не адзін я такой бачу нашу Алену. Чакаеце пацвярджэння? Калі ласка, зноў "аднаго разу"...

Дык вось тым разам у кулуарах нейкага пісьменніцкага сходу ці нарады (пасля буфетнага "прычашчэння") збіліся ў гурт курцы, хто з цыгарэтай, хто з папяросай, а хто і з капітанскай люлькай. Пыхкаем. І на ўсю Іванаўскую балакаем. Аб чым? Адам жа заўжды Адам, і часцяком наш брат прыглядаецца да тае і гэтай Евы, аблюбоўваючы ў чарадзе жаночых постацей ідэальную. Самую-самую. Табе прызначаную, жаданую. І літаратурныя курцы нат з вельмі паважнымі імёнамі ў клубах тытунёвага дыму наўзахваткі сілімся як мага каларытней абмаляваць аблічча і нораў нашых каляжанак па пяры — і рызыкоўных Месалін, і замаскіраваных адаліcак, і Венер у сучасных строях, і непрыступных Арлеанскіх дзеў. Дайшлі

## НАЎЗБОЧ

# «ПАЧАКАЙ, ЗАТРЫМАЙСЯ...»

Сяджу ў Алены Сямёнаўны, частуюся свежаспечанымі сырнікамі з чаем і малінавым варэннем. Збоку, на дэсерт, стаіць яшчэ ваза з вінаградам, таму я не спяшаюся... Слухаю ўспаміны з яе далёкага дзяцінства ды розныя літарацкія показкі, разглядваю фотакарткі ажно дарэвалюцыйнага часу. Маці, бацька, дзядзька, хоць і з сялян, але, відаць, заможных, з прыгожымі, светлымі, інтэлігентна-мыслячымі тварамі — хто з кніжкай, хто з роварам (1916 год — Случчына!), імпазантныя ў адзенні і паставах... Нездарма гэты беларускі край у 1919 годзе не жадаў аддавацца бальшавікам...

Інтэлект і духоўны склад чалавека не паддаюцца старэнню. Могуць пасівець валасы, а розум тым часам толькі памудрэе. Можа зморшчыцца і пацямнець скура, але яшчэ ярчэй праявіцца святло вачэй ды нацепліцца, як напаленая печка, душа...

Старэе толькі смяротнае. Астатняе дадаецца да вечнага... Прынамсі так хочацца думаць і гэтаму верыць.

...неўпрыкмет скончацца смачныя сырнікі. Апусцее талерка. Памыць яе і забыць пра іх...

І ўсё таму, што ёсць вінаград! Буйны, сакавіты, з мутнаватым цёмнасінім адлівам. Яго многа. Наталіўшы смагу, ім можна любавацца, нераўнуючы як вядомым нацюрмортам Івана Хруцкага...

Дзіўноту я нейкую тут пішу, але не прыдумляю, бо — як прыдумаеш чалавека, тым больш — творцу, які і сам табе ў гэтым пісанні фору дасць...

Вось, да прыкладу, як піша яна пра слуцкую пачостку ў бацькоўскай хаце Васіля Віткі ў Еўлічах: "...з абавязковай, аж пішчала на скавародзе ў духмяным сале, яечняй, з нядаўна адкінутым з клінка тоўстым, як пень, сырам, прыцярушаным зверху соллю, з удалай хатняй паляндвіцай і каўбасой, з салёнымі агуркамі і міскай мёду... А калі, можа, каму заманулася б выпіць кубак малака, то пасярэдзіне стала стаяў яшчэ збан сырадою... Мама (Васіля Віткі — **Л.Г.**) падносіла да губ чарку з калівам гарэлкі, прыслухоўвалася да агульнае вясёлае гамонкі, стрымана распытвала: "А ты, дзеткі, адкуль жа будзеш?.."

Алена Васілевіч была з Ліпнікоў — непадалёк, з той жа Случчыны. Бацькі яе, на жаль, памерлі рана, мажліва, з Божай ласкі, адшкадаваўшы ёй і свайго недажытага веку...

Сама ж яна напісала шмат выдатных і, галоўнае, чытэльных кніжак для нас, нашых дзяцей і ўнукаў. Дзіву даешся, як тыя кніжкі да гэтага часу не састарэлі і не "вышли в тираж" у сувязі з хутка зменлівым грамадскім ладам нашага жыцця?! Якім жа словам, мовай і стылем трэба было іх напісаць? Можа каму маё вычуванне падасца патэтычным і "заюбілееным", але скажу так: словам боскім, мовай беларускай, стылем натуральным...

У дадзеным выпадку іначай сказаць я не ўмею. Можа таму, што гісторыя Ганькі — гэта і яе гісторыя. Альбо, кажучы словамі яе даўняга сябра і вернага таварыша па творчасці, цудоўнага нашага крытыка Барыса Бур"яна: "Ці не таму нам здаецца, што гэта не Ганька, а сама Алена Васілевіч чуе, як "Падаюць сняжынкі" (так называецца раздзел у аповесці "Пачакай, затрымайся..."), і гэта яна сама настройваецца на паэтычную хвалю чароўных радкоў:

*Дзесьці у прасторах*
*Празвінелі бомы,*
*Дацвілі пялёсткі*
*Нечае тугі...*
*І, здаецца, зноўку —*
*Еду я дадому*
*Пераведаць родных,*
*Блізкіх, дарагіх..."*

Ведаючы як яна ўспрымае і любіць сапраўдную паэзію, у гэтым можна не сумнявацца. Няёмка выпінацца на публіку, але менавіта з яе слоў выславілася пэўным чынам і маё літаратурнае імя. З таго часу прамінула амаль дваццаць гадоў, а вось блізкае наша знаёмства і палову таго тэрміну не налічвае. Як гэта ні дзіўна, сёння ўхвальныя рэцэнзіі, водгукі ды прыжыццёвыя помнікі, што "ўзводзяцца па службе, чарцы і дружбе", зрабіліся не менш частай з'явай, чым за мінулым літаратурным часам.

Больш за тое, у яе хапіла гонару і мужнасці публічна выказацца так: "Перапісаць сябе немагчыма. І няма таксама патрэбы перапісваць час... не імкніся здавацца лепшай, чым ты была і ёсць. Заставайся сама сабою".

Ці кожнаму з нашых сённяшніх літаратурных мэтраў гэта пад сілу? Калі шчыра, то мала каму.

Сам я прыхільнік яе навелістыкі і літаратурна-крытычных імпрэсій. Больш шчырых, эмацыянальных, насычаных шырокім айчынным і сусвет-

аж да мяжы прыстойнасці — і тут... Паблізу прадэфіліравала Яна. Светлая Панна. Курыльня раптам анямела.

Але, уласціва Алене Васілевіч штосьці такое, што рашуча забараняе ў яе прысутнасці балявацъ якой нячыстай сіле, тым больш — таннай вульгарнасці. Не, сама Яна не ханжа і ведае самыя нізкія якасці людской асобіны, пра што яскрава сведчаць некаторыя маляўніча абрысаваныя персанажы Васілевічавых твораў. Аднак...

Тое "аднак", помню, тады — у прыціхлым статку курцоў — патлумачыў, гаворачы сваім шаргатліва паважным голасам адзіны, мабыць, некурэц Ян Скрыган. Я паспрабую сёння (праз якія трыццаць год) пераказаць ягоную прыцішаную, бы роздум услых, тыраду. Тыраду сапраўднага Мужчыны. Рыцара.

Не адняць ад нашай Алёнкі, казаў маэстра Скрыган, дзівосную высакароднасць. Гэты Богам дадзены ёй шарм. Паглядзець на яе, дык нічога саладжава-цукерачнага або па-лялечнаму прыгожанькага ані — ні ў абліччы, ні ў голасе, ні ў манерах, але ж — хараство! А прыслухайцеся. Сапранавыя пералівы Яе маўлення, бывае, з прыхаваным тонам пратэсту неўпрыкмет апускаюцца да каларатурных рулад, і трымціць у іх спагадлівае пачуццё. Хай сабе вочы Яе лагодна пасміхаюцца, вы адчуеце тактоўна змягчаную катэгарычнасць: Алена Сямёнаўна ні ў якім разе не прымае чужую праўду. Свае перакананні не выдае за ісціну ў апошняй інстанцыі, але пагаджацца хай сабе і з аўтарытэтным, асабліва — з модным меркаваннем, ой не, не будзе! Гэтае, я сказаў бы, шляхетнае самаўсведамленне прабіваецца з Васілевіч праз самыя ўступна цвёрдыя інтанацыі і такую абаяльную ўсмешку з-пад бліскучых акулярных шкельцаў. Такое, я ўдакладніў бы, беларускае жаноцкае самаўсведамленне і вас схіляе да шчырай размовы, да споведзі.

Іван Аляксеевіч гаварыў пра Алену Васілевіч нібыта пра сваю дачку альбо выхаванку. Такім чынам мы характарызуем параднёнага з намі чалавека. Мушу пацвердзіць: сапраўды, пасля звычайна ветлівага здароўкання з ёю адчуваеш жаданне і нават патрэбу падзяліцца нейкай радаснай навіной, распавесці Ёй якую цікавую гісторыю, што здарылася з табой і надзяліла цябе калі не шчасцем, то прынамсі асалодай ці задавальненнем. І Алена будзе слухаць гэтае тваё прызнанне спагадліва, нават зацікаўлена. Яе мілавідна распагоджаны твар з далікатна іканапісным водсветам заахвочвае цябе на бяседу без аніякага фальшу. І Яна адкажа табе сваёй шчырасцю: "Знаеш, Бора, у мяне недзе гадоў дваццаць было нешта падобнае да таго, чым ты жывеш цяпер. То здарылася, як той казаў, з сэрцам, якое пракалола Амурава страла. "Хай песняй стане час майго маўклівага кахання", — здаецца, Астрэйка благаслаўляў такую долю..."

Яна на памяць ведае процьму вершаў. І Яе мастацкая проза працінаецца паэтычным адчуваннем чалавечых стасункаў. Бывае, чытаеш Васілевічавы старонкі і пачынаеш чакаць: зараз Яна загаворыць вершаваным спевам. Нічога мудрагелістага ў Яе пісьменстве няма. Тая, як сказаў бы Ян Скрыган, па-беларуску шляхетная, без якіх-небудзь вычварных стылявых завітушак і аздобаў проза трымкліва пішацца Ёю тады, калі сама "пісьменнік А. Васілевіч" нечым усхваляваная, штосьці перажывае глыбока і ўзрушана, нечаму здзівілася або што-небудзь адкрыла раней невядомае.

Калі бачыш паводзіны такой асобы ў літаратуры, разумееш, што яна, Алена Васілевіч, не дасць на глум тое, чым жыве і чаму служыць — Слова. У сваіх праграмных заявах (крытычныя эсэ і артыкулы, інтэрв'ю), дарэчы, вельмі змястоўных, яна нібы сведчыць, што і для яе першае дзецішча боскай і чалавечай красы ёсць мастацтва. У ім, а ў славесным мастацтве — асабліва, чалавек абнаўляе і ў большай або меншай меры аднаўляе самога сябе як боскае тварэнне. Нам арганічна ўласціва імкненне спасцігаць самога сябе і таму менавіта ў мастацтве мы шукаем адказу на многія нашыя пытанні і трывогі, разгадваючы спрадвечную шараду жыццёвага ладу. Ці ж не гэта складае пафас Васілевічавых кніг — тэтралогіі "Пачакай, затрымайся..." (красамоўны заклік!), "Пісар страявой часці", "Мыс Добрай Надзеі", "Элегія", "Першая жонка нябожчыка", "Люблю, хвалююся — жыву". Лепшыя яе творы пацвярджаюць адну ісціну: нас прасвятляе не ілюзія аб тым, якімі людзі маглі б быць, а ўсведамленне таго, якімі яны бываюць у сапраўднасці. За чалавека ж заўжды і боязна да крыку, і радасна да слёз.

Постаць і аблічча Алены Васілевіч, як і яе паводзіны ў мастацтве, памагаюць нам угледзецца ў жыццё і ўсвядоміць яшчэ і яшчэ, што нават і самае асаматнёнае сэрца адчувае, якое яно дападнае да вышэйшага дару — да ўласнага свайго існавання ў гэтым свеце. І трэба даражыць дадзенай табе сапраўднасцю, рэальнай сферай твайго асабістага жыцця. Тады душа твая ловіць асалоду, цягнецца да хараства, напаўняецца хай сабе і супярэчлівымі, але змястоўнымі ўражаннямі і тым славіць складаную гармонію. Жыцця. І ты заваёўваеш права паўтарыць тое Васілевічава — Люблю. Хвалююся. Жыву.

**Барыс БУР'ЯН**



*НА ЗДЫМКУ: Алена ВАСІЛЕВІЧ з Якубам КОЛАСАМ — Каралішчавічы, 1952 г.)*

ным культурным досведам эсэ ніхто з нашых старэйшых літаратараў (не кажу ўжо пра пісьменніц) сёння не піша, апроч, будзем справядлівымі, В.Карамазава і А.Кудраўца (але што будзе, як ім яшчэ па дзесяць гадоў прыбудзе?!)... А менавіта ж узровень майстэрства ў падобным жанры і з'яўляецца для сучаснага літаратара вызначальным адносна яго таленту.

Вось і сам я задумаў напісаць гэты тэкст пра яе ў ейнай жа стылістыцы... Але — не, не атрымліваецца. Не той рытм, не тая дынаміка, не той голас — чужыя словы... Хіба сапраўднае падробіш? Таму за лепшае для сябе вырашыў я скончыць гэты свой, як кажуць сёння на мове кіруючага афіцыёзу, "прывітальны адрас" Алене Васілевіч яе ж уласнымі словамі:

*"Кожны раз, калі я азіраюся ў тую, цяпер ужо даўнюю далячынь, кожны раз я пытаюся ў сябе: "Няўжо гэта там, за тым засмужаным ружовым туманам ранкам, жывой галінкай зелянееш ты сама? І гэта тваім босым нагам гэтак лёгка хадзіць па зямлі, а загарэлым рукам гэтак прагнецца дацягнуцца да ўсяго на свеце? І няўжо твая гэта песня звініць і не ведае стому зранку да вечара? І гэта ў цябе столькі шчырага даверу, хто б ні стрэўся табе на дарозе, хто б ні азваўся да цябе прыхільным словам?"*

*І цяпер, калі між нас лягла такая неабсяжная прастора часу і ўзросту, калі столькі камення лягло на той дарозе, якая нас развяла і раз'яднала, я пытаюся, дзівячыся і спадзеючыся:*

*— Тая даўняя з таго далёку ТЫ — гэта Я: І Я цяперашняя — гэта ТЫ таксама?*

*— І я заву цябе са смуткам і надзеяй адтуль, з тае раніцы:*

*— Пачакай, затрымайся..."*

"Пачакай, затрымайся..." — прашу я, адгукаючыся ёй рэхам з нашага сёння.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



*НА ЗДЫМКАХ: уверсе (Алена ВАСІЛЕВІЧ з Янкам БРЫЛЁМ і Васілём БЫКАВЫМ — г. Масква, 1976 г.); унізе (з Іванам МЕЛЕЖАМ — Місхор, 1976 г.)*



ЛІМ-ЧАСАПІС

# ВЕЧАРЫНА Ў МАСКВЕ

**20 лістапада 2002 года ў сталіцы Расіі ў малой зале Дома Літаратараў (пры падтрымцы амбасады Рэспублікі Беларусь) адбылася вечарына памяці Алеся Адамовіча.**

**У гэтым годзе Алесю Адамовічу споўнілася б 75 гадоў, ён адышоў з жыцця восем гадоў таму. Сцены залы былі ўпрыгожаны шматлікімі фотаздымкамі — фотавыстава, прысвечаная пісьменніку, была прывезена з беларускай сталіцы. І пачыналася вечарына з дэманстрацыі фільма, своеасаблівага мантажу з фотакартак сям'і Адамовічаў, пачынаючы з самай ранняй фотакарткі Алеся; выявы суправаджаліся прачытаным напаўголасу тэкстам з апошняй кніжкі пісьменніка "VIXI" (рэжысёр — Сяргей Агеенка).**

**Вядучы вечарыны Валянцін Аскоцкі назваў Адамовіча "чалавекам Адраджэння", у звязку з яго шматаспектнай дзейнасцю, і зачытаў прывітальныя тэлеграмы ад тых, хто не змог прысутнічаць на вечарыне: ад Міхаіла Гарбачова, Івана Драча, Васіля Быкава. З Беларусі на вечарыну прыехалі Генадзь Бураўкін, Валянцін Тарас, Міхась Тычына. Як сказала Таццяна Кузаўлёва, у кожнага з выступоўцаў ёсць "свой Адамовіч", таму выступы не мелі афіцыйнага характару, аднак, былі нечаканымі жывыя падрабязнасці адносін з сябрам і паплечнікам па "Чарнобыльскім шляху" — гэты рух узнік у Беларусі па ініцыятыве Аляксандра Міхайлавіча пасля агульнанацыянальнай трагедыі, — па міжрэгіянальнай групе ў Маскве, па стварэнні часопіса "Кольцо А", па Інстытуту кінематаграфіі — яго апошняму месцу працы. Усе жадаючыя выступіць не змаглі — не хапіла часу, вечарына і так задоўжылася далей прымеркаванага.**

**Дачка пісьменніка Наталля Аляксандраўна, якая сабрала і склала поўную бібліяграфію публікацый бацькі па ўсім свеце, пазнаёміла прысутных з апошнім выданнем — у Беларусі выйшла кніжка прозы, напісаная Алесем Адамовічам у апошнія гады жыцця. Характэрна, што пачаўшы сваю пісьменніцкую біяграфію з кніжкі пра сваё партызанскае дзяцінства — "Вайна пад стрэхамі" — скончыў яе зноў жа ўспамінамі пра дзяцінства ў ваенны і пасляваенны час, пра Глушу, дзе нарадзіўся і папрасіў сябе пахаваць: гэтыя ўспаміны ўвабралі ў сябе ўвесь вопыт жыцця пісьменніка і мысляра (М.Гарбачоў у сваёй тэлеграме зазначыў, што менавіта ад А.Адамовіча пачуў пра "новае мысленне"!) Гэты пасмяротны томік — магчыма самае галоўнае з літаратурнай спадчыны празаіка.**

**Паэт і перакладчык Валянцін Тарас распавёў, як у гады студэнцкага юнацтва каго заўгодна можна было ўявіць старым, а вось Алеся Адамовіча — не. Так і засталося назаўсёды — і цяпер яго немагчыма дадумаць састарэлым — уласцівы яму выключна светлы пачатак не дазваляе таго.**

**Люба ТУРБІНА**

# ЮБІЛЕЙ ГАЗЕТЫ

**Адна са старэйшых газет рэспублікі "Гомельская праўда" адзначыла 85-гадовы юбілей.**

**У літаратурным аб'яднанні гэтай рэдакцыі пачынаў свой творчы шлях Іван Шамякін. У ёй працавалі вядомыя пісьменнікі Паўлюк Трус, Міхась Даніленка, Аляксандр Капусцін, Мікола Кусянкоў, Васіль Ткачоў, Уладзімір Дзюба, Іван Кірэйчык... І сёння газета шмат увагі ўдзяляе публікацыі літаратурных твораў. Рэгулярна выпускаецца тэматычная паласа "Літаратурная гасцёўня". У адрас "Гомельскай праўды" з нагоды юбілею паступілі віншаванні ад урада нашай краіны, творчых саюзаў, шматлікіх арганізацый і асабіста І. Шамякіна.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ШКЛЯНКА «ЗІНГЕРА» АД МАРЫІ ІСАЁНАК

Яе імя аматары выяўленчага мастацтва ведаюць добра. Яе творчасць мае камерны характар. Мастачка засяроджвае сваю ўвагу на нацюрмортах і інтэр'ерах — на жанрах, якія ўжо па вызначэнні пазбаўленыя канфліктнасці. Але ў рэчаў сваё жыццё, свае часам драматычныя гісторыі. Так мяркуе Марыя Ісаёнак, да такой высновы каля яе твораў прыходзіць удумлівы глядач. Творам мастачкі ўласціва пэўная "меладычнасць". Яна апавядае пра ілюзорнасць і хуткаплыннасць быцця. Марыі Ісаёнак блізкая філасофія імпрэсіяністаў. Выстава жывапісу мастачкі працуе зараз у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Яна мае інтрыгуючую назву з прысмакам сюррэалізму — "Зінгер" і вішні ў шклянцы".

## 24 «120х100»

У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва экспанаваліся творы латвійскіх і беларускіх мастакоў — удзельнікаў Міжнароднага пленэру "Jurkalne—2002".

Юркалнэ — гэта мястэчка на балтыйскім узбярэжжы, дзе ў ліпені—жніўні бягучага года пленэр праходзіў. З беларускага і латвійскага бакоў у гэтай культурніцкай акцыі бралі ўдзел па дваццаць мастакоў. Кожны з іх прадстаўлены ў экспазіцыі. Выстава дае мінскаму гледачу магчымасць пазнаёміцца з сучаснымі тэндэнцыямі выяўленчага мастацтва ў Беларусі і Латвіі, усвядоміць блізкасць менталітэтаў і эстэтычных дамінантаў дзвюх насамрэч брацкіх народаў.

Выстава мае назоў "120х100". Гэта загадзя абумоўлены фармат карцін. Знаёмства нашых гледачоў з творамі пленэру стала магчымым дзякуючы Амбасадзе Латвіі, адкрытаму грамадскаму фонду "RADIGARS". Куратары выставы: з латвійскага боку Петэрыс Геме, з беларускага — Мікола Пагранюўскі.

Гэта акцыя мае мэтаю аднавіць і надалей спрыяць культурніцкім кантактам і трывалым сувязям дзвюх краін.

## ГАЛЕРЭЮ АДКРЫЛІ, А ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЛІСЯ

Кожны горад, які сябе паважае і чакае павагі ад іншых, мусіць валодаць пэўным "джэнтльменскім наборам". Яго складаюць тэатр, музей, канцэртная зала, помнікі дойлідства. Інакш кажучы, горад мусіць мець культурніцкую інфраструктуру. У слаўнага горада Полацка з гэтым вялікая напруга. На адным Сафійскім саборы "не выедзеш", а ўсяго пералічанага вышэй гораду не стае. Ёсць сёе-тое, але мала. І ўзровень не той, каб адпавядаць вялікаму гораду, калісьці нашай дзяржаўнасці. Таму з'яўленне ў Полацку новай культурніцкай установы адразу набывае агульнабеларускі розгалас.

У сярэдзіне мінулага месяца ў Полацкай карціннай галерэі адкрылася экспазіцыя. Будынак збольшага быў падрыхтаваны будаўнікамі яшчэ на момант Дажынак, а экспазіцыя зроблена зараз. Будынак уяўляе гістарычную каштоўнасць і надзвычай утульны. У экспазіцыі прадстаўлены археалогія, іканапіс, свецкае мастацтва дакастрычніцкага часу, а таксама мастацтва нашай краіны ў XX стагоддзі. Прынамсі, вельмі ўражваюць творы апошняй чвэрці мінулага стагоддзя, бо тут прадстаўлены імёны, якія з пэўных прычын у той час ігнаравала закупачная камісія Міністэрства культуры БССР. Пласт культуры, які нават у Нацыянальным мастацкім музеі сёння прадстаўлены вельмі фрагментарна. Адкрыццё стала святам для горада і краіны. Над інтэр'ерам добра папрацавалі дызайнеры. Але, на жаль, даводзіцца канстатаваць, што мікраклімат будынка не адпавядае музейным нормам, а значыць ёсць праблемы з экспанаваннем і захаваннем твораў мастацтва.

П. В.



**Павел ГАСПАДЫНІЧ**



### БАЛАДА ВОСЕНЬСКАГА СНУ

*Ты — сёння апранулася ў восень,*
*У залатую кашулю лістоты,*
*У ціхі пошум ракі*
*І ў ледзь улоўныя ўздыхі*
*прахожых...*

*Ты — сёння самая прыгожая*
*У залатым вальсе лістоты,*
*У ціхім пошуме ракі*
*І ў ледзь улоўных уздыхах*
*прахожых.*

*Ты — сёння смяешся з Майстра*
*Ля Галгофы свайго жыцця.*
*Ціхай слязой Пілата*
*Цягнецца ўдалеч рака...*

*Ты — сёння прачнулася зноўку,*
*Адагнала далей чорны сон...*
*Апранулася ў чырвань лістоты*
*І пайшла.*
*Забылася,*
*Як пакутуе ЁН,*
*Паміраючы ў залатой кашулі лістоты,*
*У ціхім пошуме ракі*
*І ў ледзь улоўных уздыхах*
*прахожых...*

### А МУЗЫКА ГУЧАЛА...

*А музыка гучала...*
*У ліхтарах вясёлкі,*
*У промнях сонцамая,*
*У лесе рэхам звонкім.*

*А музыка спявала...*
*Увосень жоўтым лісцем,*
*Малюнкамі Шагала,*
*Самотай светлых ісцін.*

*А музыка казала...*
*Любоўю неабдымнай,*
*Сімфоніяй вакзала,*
*Маладзіка сюітай.*

*А музыка імчала...*
*Усмешкамі стагоддзяў,*
*Іскрынкамі карала,*
*Чароўнасцю мелодый.*

*А музыка... кахала*
*Чароўную Паненку,*
*І сэрца... памірала*
*Нераcквітнелай кветкай...*

*А музыка — гучала...*

### VERA-NICA

*Vera-Nica —*
*Я верую ў перамогу!*
*А значыць не знікну,*
*Покуль ёсць ты!*

*І хоць не Verona,*
*Не Рым, Ватыкан —*
*Ды залатую тваю карону*
*Не мераў ні цар, ні пан!*

*У хаосе часу ці*
*У гвалце жыцця*
*Я верую ў перамогу*
*Да скончэння быцця!*

*Vera і Nica —*
*Багіня-дзяўчына —*
*У д'яблавым крыку*
*Палае Радзіма!*

*Vera — са мною,*
*Nica — надзея...*
*За празрыстай гарою —*
*Куток Адысея.*

*Ценем вечэрнім*
*Станецца памяць.*
*Вой будзе верны*
*Навечна каханай.*

*У замку русалкі*
*Пялёсткі падману,*
*Квяцістыя паркі,*
*Нязгойныя раны.*

*Vera і Nica —*
*Фенікса вочы.*
*Я ніколі не знікну*
*Зусім, без дазволу.*

*І ў прыцемках лета*
*Дагарае святло,*
*Нібы з песні паэта*
*Выцякае віно...*

•

*У краю далёкім,*
*Ля ракі Іртыш,*
*Не квітнеюць ружы,*
*І не зззяе крыж.*

*Не смяюцца зоры,*
*Не шапоча бор.*
*У краю далёкім*
*Мала родных гор.*

*Толькі згадка-мара*
*Падсілкуе Дух:*
*Не было б Ікара,*
*Не з'явіўся б Рух*

*І заб'ецца сэрца*
*Думкай маладой,*
*Што сцяжынка ўецца*
*Святлаю слязой.*

*Праз снягі і буры,*
*Праз раку Іртыш*
*Ты пабачыш Зубраў*
*І маленства крыж*

*Засмяюцца зоры,*
*Зашапоча бор,*
*Родныя прасторы —*
*Самы лепшы хор.*

*І далонь каханай*
*Дакранецца воч —*
*Загаяцца раны,*
*Заквітнее Сож.*

*У краю далёкім,*
*Ля ракі Іртыш,*
*Полымем высокім*
*Узнясецца Крыж...*

---

**Ала КЛЕМЯНОК**



**О, колькі іх на палях!**
**Але кожная квітнее па-свойму —**
**У гэтым вялікі подзвіг кветкі!**

*Мацуо БАСЁ*

*На родных лугах, на палетках*
*Збіраю ў букет словы-кветкі.*
*Мо ёсць прыгажэйшыя словы,*
*А я сваёй роднай мовы*
*Валошкі, пралескі, рамонкі*
*І чырвань рабінавай гронкі*
*Нібыта ў вянок уплятаю*
*У верш. Я мілейшых не знаю*
*Ні песень, ні мовы, ні кветак,*
*Мне іх даглядаць, нібы дзетак,*
*І можа, магутны Божа,*
*Грахі адпусціўшы, паможа*
*І ў свецкай, і ў простай размове*
*Па-свойму квітнець маёй мове.*

•

*Капалі з гадзінніка хвіліны,*
*Падалі ў бяздонне нябыцця,*
*Снег ляцеў пялёсткамі язміну,*
*Выспявала шчодрая Куцця.*
*Я шаптала пацеры няўмела,*
*Лёсу шчыра дзячыла за ўсё,*
*Мне Планіда слала белы-белы*
*Ручнічок на доўгае жыццё.*
*Раілі суседкі мне ўпрыгожыць*
*Вышыўкаю беленькі ручнік,*
*Па краёх карункамі аздобіць —*
*І на кут, туды, дзе Божы лік.*
*Я ж ні шыць, ні вышываць*
*не ўмела,*
*Не хацела чысціню псаваць,*
*Заставаўся ручнічок мой белым*
*Пад нагамі у сыноў ляжаць.*

•

*Мне снілася: я паміраю*
*Пакутліва, доўга, страшна,*
*Звярыная чорная зграя*
*За вокнамі выла працяжна.*
*Я клікала — ды дарэмна.*
*Я плакала — слёз не лілося.*
*Болем, нібыта рэмнем,*
*У горла жыццё ўпілося.*
*Парваць рамяні тугія*
*Мне моцы заўжды не хапала,*
*І абвівалі мне шыю*
*Тых рукі, каго не кахала.*
*Ты ж, любы, наводдаль*
*трымаўся.*
*Стаяў. Назіраў. Не скрануўся.*
*Мой сон прамінуў, абарваўся,*
*А ты...*
*так і не прачнуўся.*

•

*Пустая душа — найцяжэйшая*
*рэч,*
*Яе не скранеш, не падымеш,*
*не зрушыш:*
*Нібыта Ямеля залезе на печ,*
*Дзе гінуць у полымі чулыя душы.*

*Чакае, як цмок, можа год,*
*можа век,*
*То манны нябеснай, то дзіўную*
*скрыню.*
*І носіць пустую душу чалавек,*
*Пакуль пад цяжарам яе не загіне*

**"Stella-Stellarum! Зорка Зорак!**
**Сёння мне споўнілася восемдзесят год. Я — стары.**
**Я — стары!..**
**Я — стары!!.**
**Джордж Бернард Шоу"**

***"...Вось і мне спаўняецца...***
***А рука ўсё роўна не падымаецца вось так узяць і бухнуць па галаве сабе гэтай стопудовай лічбай.***
***Дарагія чытачы "ЛіМа"!***
***Мае заўсёды чаканыя суразмоўцы і непадкупныя суддзі... Мне так хацелася б сёння, як я любіла заўсёды гэта рабіць, падараваць вам свае новыя старонкі... Але іх няма ў мяне... прапаную вам апавяданне, якое напісалася, калі пяро маё было куды яшчэ маладзейшае. (Сёння лепш я не напісала б...)***
***Прачытайце яго! Мне гэта вельмі патрэбна...***

**Заўсёды ваша Алена ВАСІЛЕВІЧ**

# МЫС ДОБРАЙ НАДЗЕІ

## АПАВЯДАННЕ

*Паэтам, якія былі, якія адышлі,*
*Якіх я ведала.*

Русакоў прыехаў у санаторый лячыцца ад хваробы, якое ні сам ён не ведаў, не ведалі і дактары, якія лячылі яго. Агульная стомленасць. Нервовае знясіленне... Дактары раілі Русакову поўдзень, сонца і марское купанне, а ён махнуў рукой на ўсе іх парады і раптам узяў ды купіў сабе пуцёўку ў гэта балота... "Балота" таму, што палац санаторыя быў акружаны азёрамі і запушчанымі сырымі паркамі. І час быў — для гэтых мясцін — горш не прыдумаеш: канец лістапада. Русакова адгаворвалі, палохалі. Жонка нават плакала, што хвароба яму патрэбна ёй на злосць... Але ён заўпарціўся: паеду толькі да князя!

І прыехаў, калі восень паспела ўжо да рэшты распрануць паркі і недалёкія лясы і калі тутэйшыя азёры ўжо не толькі не вабілі, а, наадварот, палохалі холадам і плёскатам няўтульных глухіх хваль; калі набрынялыя хмары аж правісалі над галавой і лілі няўтомныя дажджы, ад якіх хацелася выць.

Пра гэта сказаў Русакову і санаторны доктар, які павінен быў назіраць і лячыць яго ўвесь гэты пуцёвачны тэрмін.

— Як гэта вы, паэт, — сказаў доктар, — выбралі такі нецікавы час. Ніякай жа паэзіі...

Русакоў ужо і сам бачыў, што ўпартасць яго была неразумная, але прызнавацца ў гэтым яму не хацелася, і, не хаваючы раздражнення, ён толькі адказаў доктару:

— Дзе ж яе набрацца на ўсіх, тае паэзіі, дарагі доктар. Цяпер яе кожны патрабуе гэтак, як аспірын у аптэцы.

Каб жа Русакова раздражнялі толькі гэты нецікавы час, як казаў доктар. Каб жа гэта ніякай паэзіі не было толькі тут, у гэтым яго балотным санаторыі... Перш за ўсё яе не было, яна як быццам сышла ці зусім нават вымерла ў ім самім. Ён даўно не пісаў вершаў. З ім нешта здарылася: вершы пакінулі яго. І ён не ўмеў іх даклікацца, не ўмеў выкрасаць у сабе тую цудадзейную іскру, якая здольна вокамгненна запаліць фантазію і вобразны свет паэта. Яны, бязмоўныя, нібыта дрэмлюць у паэце, пакуль не ўспыхне гэта іскра.

І гэта было пакаранне.

Вось ужо колькі часу — самому Русакову здавалася, што гэта цягнецца вечнасць — не пераступаў ён парога ніводнае рэдакцыі, ён не толькі не хадзіў у рэдакцыі — з нейкага часу ён нават пачаў унікаць стрэч з сябрамі-паэтамі. Перш за ўсё тых традыцыйных стрэч у дні выплаты ганарараў, без якіх немагчыма ўявіць жыццё паэта. Без якіх, скажам дакладней, у паэта няма жыцця. І калі ты пішаш і друкуешся, не мае значэння, сам ты атрымліваеш ганарар ці атрымліваюць яго твае сябры. На гэту традыцыйную стрэчу ў наступны месяц яны прыйдуць да цябе самога. Русакоў ніколі не быў дробязным і грошы з сябрамі звычайна спускаў бескла-потна і шырока. Аднак цяпер, не маючы ганарару, ён не мог дазволіць сабе піць за чужы кошт. І справа была, вядома, зусім не ў выпіўцы, зусім не ў гарэлцы — за што свет і людзі, не разумеючы іх, спрадвеку караюць паэтаў. Страшна было тое, што цяпер ён пазбягаў сяброў, што яго гнялі і раздражнялі нават спрэчкі і гаворкі, якія звычайна вядуцца (і з роду вяліся!) сярод паэтаў пры такіх сустрэчах. Зводзяцца яны непазбежна да аднаго — да чытання ўласных вершаў. Адзін аднаму... У гэтым заўсёды тоіцца — і для самога Русакова таксама заўсёды раней утойвалася — радасць творчага абнаўлення і ўзаемнага ўзбагачэння, радасць таго бескарыслівага, хоць нярэдка і самаздаволенага спаборніцтва, якое зрэшты і яднае ўсіх паэтаў у адзіным стракатым брацтве.

Русакоў пакутаваў таму, што ён не меў адвагі, а больш шчырым было б прызнанне, што яму не дазваляла ўласнае самалюбства з'яўляцца цяпер у гэтым брацтве з пустымі рукамі. І зусім не таму, што ён увайшоў там у нейкую "абойму" ці хадзіў у карыфеях. Вершы былі яго сутнасцю, складалі сэнс яго жыцця і грамадзянскага абавязку, былі тым, чым бывае любая сумленная праца для любога сумленнага чалавека. А ён у дадатак яшчэ быў і паэт... Унiжэнне паче гордости. Русакоў не бедніўся і не крывадушнічаў: ён любіў у сабе Паэта і ганарыўся ім. Інакш ён не быў бы паэтам.

Ён даўно не пісаў вершаў.

Не раз у роспачы ўспамінаў ён, як лёгка з'яўляліся да яго вершы ў маладосці. (Праўда, да каго яны ў маладосці не з'яўляюцца?) Ружовае воблачка.Срэбны серп маладзіка. А гарэзлівы позірк і павеўная дзявочая постаць... Божа літасцівы! Яму ніколі не патрэбна было нават садзіцца да стала. (Дарэчы, стол пісьмовы ў яго з'явіўся ўжо куды пазней, чым сівізна.) З яго хапала пачка ад цыгарэт і самага звычайнага алоўка ў кішэні — дзе б ён ні ішоў, куды б ён ні ехаў. Ён не быў святы. Не... Але нават і тады, калі ён падаў, і тады ад яго не адступалася, не пакідала яго і заўсёды працягвала яму руку яго ўсёцярплівая, ўсёдаравальная Муза.

І вось яна адступілася ад яго.

І гэта было пакаранне.

І каб жа толькі яму аднаму. Гэта было пакаранне ўсім яго блізкім.

Некалі прывёў ён у сваю абшарпаную баковачку на старой, яшчэ драўлянай, Камароўцы даверлівае, няўмелае дзяўчо, і яно стала яго жонкай. Дзяўчо не ўмела прышыць гузіка, не ўмела зварыць крупніку. Яно здольна было толькі глядзець на яго закаханымі вачыма і слухаць яго вершы так, нібыта чытаў яму гэтыя вершы сам Бог. У гэтым Русакоў і бачыў прызначэнне сваёй жонкі: ісці па зямлі і вітаць над небам толькі побач з ім — Паэтам!

Цяпер жа, калі жонка спасцігла жыццё і даўно ўжо зрабілася для яго ўсім — каханкай, сястрой і маці, — цяпер ён ужо не бачыў яе пераваг, цяпер ён быў да іх абыякавы, нават няўдзячны. І яго не толькі не захапляла — цяпер яго нават раздражняла яе імкненне, як і раней, як і некалі, унікаць у яго вершы, у яго настрой. Ён крычаў на яе, што яна перашкаджае яму, што яна нічога не разумее, што яму надакучылі яе клопаты і ён стаміўся ад іх, ён хоча толькі аднаго — спакою... Усё гэта было жорстка, несправядліва, але Русакоў не мог нічога зрабіць з сабою, не мог сябе пераламаць.

Ён не падпускаў цяпер да свае душы і дзяцей — сына і дачку. І дзеці яго цяпер раздражнялі... А як ён любіў іх і як ганарыўся сваім бацькоўствам, калі яны былі маленькія. Колькі напісаў пра іх вершаў!

У дзяцей было сваё ўласнае жыццё, і яны зусім не звярталі ўвагі ні на бацькаў настрой, ні на яго самога. Яны цяпер самі не адчынялі яго дзвярэй, і гэта крыўдзіла і аддаляла яго ад сына і дачкі яшчэ больш. Ён лічыў іх чэрствымі і бессардэчнымі і, што яны выраслі такімі, вінавацiў адну толькі іх маці — сваю жонку. І жонка плакала...

У Русакова было такое адчуванне, нібыта ён круціцца ў нейкім вар'яцкім коле і ніяк не можа ні спыніць гэта кола, ні павярнуць яго ў іншы бок.

...А калі прыходзіла прасвятленне, Русакоў каяўся, рабіўся лагодным, ва ўсім стараўся дагадзіць жонцы і дзецям, каб загладзіць сваю віну перад імі. І яны ўсе трое, шчыра любячы яго, тут жа ўсё забывалі. І ён зноў адчуваў сябе шчаслівым, нібыта да яго вяртаўся безнадзейна згублены скарб: у яго такая мудрая паскавая жонка, а дзеці выраслі (калі гэта здарылася?!) прыгожыя і разумныя...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**



І ўсё вакол здавалася цудоўным, і ўсім вакол зноў было з ім весела і цікава.

Пакуль не пачыналася ўсё спачатку.

...Дактары раілі Русакову сонца і мора. І жонка маліла: "Паедзь, адпачні ад усіх нас, ад дому. Змяні абставіны..."

А ён усё роўна як на злосць усім узяў і купіў пуцёўку — на самую нягоду — у гэты былы князёўскі палац сярод панурых азёраў. І цяпер марнаваўся аж з трыма ардэнаноснымі старшынямі калгасаў у вялізнай спальні княгіні з князёўскім гербам на балконнай рашотцы, з выглядам на шэрае возера. Старшыні ноччу непрабудна храплі — аж трэсліся сцены палаца. Днём яны таксама ўмелі знайсці сабе адпачынак і ўцеху. У Русакова ж не было нічога — ні сну, ні адпачынку, ні ўцехі. Толькі бясконцы сівы дождж.

Ён ужо намерыўся быў уцякаць дадому, як раптам уначы задуў сівер, прыціснуў замаразак, і — адкуль яна толькі ўзялася ў гэтым разводдзі! — пасыпала дробная крупа. І на раніцу ўжо раскіслая зямля і счарнелыя дрэвы як быццам адмаладзелі. І — дзіўная рэч — Русакоў таксама адчуў сябе раніцой так, нібыта і яго вызвалілі з палону.

Адразу ж пасля снедання і не вельмі абавязковых працэдур ён паспешна апрануў паліто, надзеў шапку і, баючыся якога-небудзь выпадковага спадарожніка, накіраваўся паркам да возера. Неба было чыстае, пад нагамі курылася сухая замець, з возера задуваў пруткі вецер. Бадзёры зазімак за адну ноч нібыта зрабіў у прыродзе пераварот.

Марознае паветра, хуткая хадзьба таксама бадзёрылі і маладзілі. Русакоў і не прыкмеціў нават, калі дайшоў да Паповай горкі — так празываўся ў тутэйшых людзей пакаты пагорак непадалёку за паркам, як збочыў на гэты пагорак і патупаў па даўно зруйнаваным падворышчы. Межы гэтага колішняга падворышча вызначаліся старымі разлапістымі кустамі бэзу ўперамежку з арабінамі. Бэз квола звінеў зледзянелым, нібыта бляшаным, зялёным лісцем. На чорных арабінах пунсовелі гронкі прымерзлых ягад.

Адсюль, з Паповай горкі, возера з усімі яго затокамі і астраўкамі бачылася як на далоні... Не міне і тыдня, як па застылай ледзяной роўнядзі можна будзе хадзіць як па падлозе. Адсюль можна будзе дайсці да таго вунь астраўка, што злучаны з процілеглым берагам паэтычным мастком. Пад гэтым мастком да апошніх дзён, да самых замаразкаў, начавалі дзве пары белых лебедзяў, дзве даволі сумныя бяздзетныя сям'і, у якіх толькі і занятку было, толькі і клопату, каб хаця не выглядаць горш за суседзяў. Раніцой, на досвітку, лебедзі парамі выходзілі на бераг і доўга спраўлялі ранішні туалет. Далікатна агладжвалі ганарыстымі чорнымі дзюбамі гнуткія змяіныя шыі, гучна пляскалі ў паветры беласнежным крыллем — рабілі гімнастыку і бясконца глядзеліся з берага ў ваду: ці ўсё як мае быць у іх нетутэйшай адзежы. Пры гэтым яны ўвесь час перагаворваліся на сваёй кароткай гусінай мове.

— Ге? — глядзелася ў ваду і нягучна пыталася ў мужа жонка-лебядзіха.

І гэта кароценькае "Ге?", калі б яно ішло не ад птушкі, а ад жанчыны, напэўна, заняло б поўны мех слоў.

— Ну, як — я падабаюся табе? Я добра сёння выглядаю? Я прыгажэйшая за гэту даўгашыюю?

— Ге-е! — задаволена адказваў муж-лебедзь.

І зноў жа, каб гэта гаварыў не лебедзь, а які-небудзь балбатун-мужчына, гэта можна было б перакласці прыкладна так:

— Якое можа быць параўнанне! Якая даўгашыя можа раўняцца з табою! Ты самая цудоўная на свеце!

— Ге! — кідала крылом апошні мазок, апошні штрых на сваю бялюткую "пачку" жонка і, задаволеная сабой і сваім мужам, зграбна ступала ў люстра ранішняга возера. — І ты ў мяне самы лепшы на свеце!

Другая пара — паводдаль — вяла прыкладна той жа дыялог:

— Ге, — казала пра суседку лебядзіха, — усё думае, што няма за яе нікога прыгажэйшага на свеце.

— Ге-е, — паблажліва цягнуў муж-лебедзь. — Нават калі б я застаўся адзін з нашай суседкай на бязлюдным востраве, ты, мілая, і тады магла б спачываць спакойна...

— Ге-ге-ге-ге! — лебядзіха-жонка, шчаслівая, кідалася ў ваду.

Адплыўшы ад берага, мілыя сем'і зноў страчаліся на незамутненай вадзе і далікатна віталі адно адных з добрым ранкам. І разам ужо — крыло ў крыло — плылі да кармушкі.

— Ге-ге-ге-ге! — гаманілі жонкі. — Які ў вас сёння цудоўны выгляд!.. А ў вас якая высакародная пастава!

— Ге... Я, сказаць праўду, добра выгаладаўся, пакуль мая дарагая палавінка клапацілася пра сваё, невядома каму толькі яно патрэбна, хараство, — шчыра прызнаваўся муж адной, з апаскаю пазіраючы ў бок жонкі.

— Ге... Калі жонка з раніцы да вечара знае адзін толькі клопат — глядзецца ў люстра, гэта, ведаеце... — з разуменнем уздыхаў другі.

Гэтымі днямі лебедзяў перавялі — на зіму, на халады — у лебядзіны дамок. І возеру цяпер як быццам не хапала яго гапоўнай маляўнічай дэталі.

...Русакоў збег з Паповай горкі і абышоў возера з другога боку. Пастаяў нейкі момант насупраць астраўка, да якога з берага быў перакінуты гарбаты масток, і раптам, нібыта азораны маланкай, успомніў іншы даўні час, убачыў іншую даўнюю ваду.

Тады гэты астравок заўсёды быў аблеплены рыбакамі. І адзін сярод іх, відаць, быў жартаўнік, а магчыма, рамантык. Не інакш, гэта ён тады сабраў параскіданыя па астраўку кансервавыя бляшанкі, панізаў іх адну на другую і прымацаваў да высокага слупка. Бляшанкі на сонцы адсвечвалі, мільгалі, і та-

**(Заканчэнне на стар. 12)**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# ВІЦЕБСК. IFMC.

*Чарговы і ў пэўным сэнсе юбілейны, 15-ты IFMC у Віцебску (Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі, які спецыялісты лічаць найбольш выдатнай з'явай сярод гэткіх фэстаў на тэрыторыі былога СССР) — быў адзначаны дзвюма падзеямі. Па-першае, гэта нацыянальны сёлета конкурс у межах IFMC; і па-другое, ушанаванне-прысвячэнне памяці Яўгенія Панфілава, чыё імя і чыя творчасць для Віцебска знакавыя.*

**За лепшую харэаграфію прэмію атрымала група сучаснай харэаграфіі "Квадро" (Гомель). Адзначаны аднаактовы балет "Ілюзія развіцця" (у спалучэнні жаноцкай мяккасці выканання са структурнай жорсткасцю пастаноўкі твор выглядаў сучасна, інтэлектуальна і на ўзроўні лепшых узораў, якія прадстаўляе IFMC).**

**За майстэрства — гродзенская група "ТАД". Узнагарода — за аднаактовы балет "Маленькая сімфонія прасторы" і за харэаграфічную мініяцюру "Кумпарсіта" (экспрэсіўнае мысленне Д. Куракулава заўсёды настойлівае і энергетычна актыўнае, на сцэне ён спавядае дакладны рытм, паскораны тэмп).**

**За ідэю — танцтэатр "Галерэя" (мініяцюра "Отнюдь").**

**Спецыяльнай прэміяй аргкамітэта і дырэкцыі IFMC — прэміяй імя Яўгенія Панфілава ганараваны Дзмітрый Куракулаў. Гэтая прэмія будзе цяпер уручацца на кожным фестывалі як знак памяці пра выдатнага харэографа сучаснасці, прызнанага ў Еўропе і свеце, прызнанага і любімага ў Віцебску.**



**Працавала падчас фестывалю лабараторыя крытыкі, яна адзначыла рост, развіццё і сталенне беларускіх выканаўцаў. Мне, з году ў год назіраючы за імпрэзамі IFMC, хацелася б асабліва падкрэсліць узрастанне духоўнага ды інтэлектуальнага ўзроўню беларускіх удзельнікаў. Шмат у чым пластычны тэатр — гэта род рытмавай медытацыі, і, здаецца, свае пуцявіны тут спасцігаюць і Куракулаў, і Цебянькоў, і Асламава, і Камінскі; імкнуцца знайсці свой стыль віцяблянкі Настасся Махава і Дыяна Юрчанка. Вельмі негатыўна паставіліся крытыкі да твора Ларысы Сімаковіч "Прынамсі", нават вынеслі яго за дужкі мастацтва. Зазначу, што многія сённяшнія еўрапейскія сцэнічныя эксперыменты пралягаюць на мяжы падсвядомасці, на мяжы пагранічных станаў чалавека, і ў значнай ступені гэта — адлюстраванне крызісных адчуванняў, страхаў. Праўда, зусім маладыя ўдзельнікі фальклор-тэатра "Госцьціца" могуць у такіх эксперыментаваннях апынуцца перад шматлікімі асабістымі праблемамі.**

**Вечар памяці Я. Панфілава, чыё жыццё трагічна абарвалася сёлета, сабраў у зале ці не ўвесь горад. У промні святла на сцэне ляжалі пунсовыя ружы, нібыта ператвораныя ў кветкі кроплі крыві сэрца мастака... Харэограф на працягу дзесяці гадоў прыязджаў у Віцебск, і Віцебск аддаваў даніну павагі творчасці і сцэнічных адкрыццяў майстра. Яўген Аляксеевіч пакінуў пасля сябе дзяржаўны тэатр (у Пермі), які складаецца з трох труп; 85 балетаў і 100 харэаграфічных мініяцюр. Дзяржаўны "Балет Яўгенія Панфілава" выступаў на сёлетнім IFMC.**

**IFMC ладкаваць штогод цяпер складана, аднак гэта — духоўная патрэба, і як доказ — заўсёды поўная глядзельная зала. Спонсарам, і "Белвесту" асабліва, дзякуюць стваральнікі фестывалю. Вельмі дапамагаюць абласная і гарадская адміністрацыі. Спагадна і ўважліва да фестывалю заўсёды ставяцца народны артыст СССР Валянцін Елізар'еў (старшыня конкурснага журы) і Нацыянальны тэатр балета Беларусі. А сярод стваральнікаў IFMC — Міністэрства культуры, Дэпартамент па справах моладзі Міністэрства адукацыі Беларусі. Шмат гадоў бачу, колькі энергіі, сіл і пачуцця ўкладае ў фестываль яго дырэктар Марына Рамаaccount... Тут, на віцебскай сцэне, рэалізуецца з поўнай аддачай высокі сэнс пераадолення межаў — спасціжэнне ліній жыцця.**

**Таццяна КАТОВІЧ**

ПРЭМ'ЕРЫ

*Дзевяць прэм`ер за сезон — такі рэкорд паставіў сёлета Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. Спраўджваючы сваё прызначэнне, тэатр актыўна пашырае драматургічнае кола, прэзентуе новыя рэжысёрскія імёны, імкнецца выхаваць прафесіяналаў з маладых акцёраў — нядаўніх студэнтаў Беларускага універсітэта культуры. Але дзіўная рэч — колькасць чамусьці вельмі рэдка пераходзіць у якасць. І побач з сапраўды цікавымі работамі накшталт "Чарнобыльскай малітвы" паводле Святланы Алексіевіч ці "Песень Ваўка" Вячаслава Паніна з`яўляюцца спектаклі, у якіх нявопытнасць драматурга-пачаткоўца сутыкаецца з ардынарнай рэжысурай і адсутнасцю яркай акцёрскай індывідуальнасці ў выканаўцаў. Прыплюсуйце сюды яшчэ недахоп грошай на пастаноўку — і вы атрымаеце спектакль, падобны на адну з апошніх работ тэатра пад назвай "Зона "Х".*

# БУРАЦІНА Ў ЦЭЛАФАНЕ

Слушную параду па вызначэнні добрага спектакля даў у сваім інтэрв`ю "БДГ" прамалінейны Андрэй Курэйчык: "Камедыя павінна быць смешнай. Калі вы не смеяцеся — значыцца, вас падманулі, гэта не камедыя. Трагедыя павінна быць кранальнай. Калі вы не адчуваецце, як слязьмі напіваюцца вочы, вас зноў жа падманулі". Стваральнікі "Зоны "Х" паспрабавалі абысці гэтую небяспеку з вызначэннем жанру і акрэслілі змест спектакля трыма словамі - "смех, слёзы, крымінал". Калі не вельмі смешна — дык і не камедыя ж. Калі слёзы не кранаюць — трагедыю вам таксама ніхто не абяцаў. Увогуле, глядацкага суперажывання героям не адбываецца. Можа, справа ў тым, што пад самы фінал спектакля высвятляецца, што забойства шэфа, цяжарнасць гераіні і яе самагубства — усё гэта жорсткі розыгрыш для галоўнага героя? Але прычым тут глядач, які вымушаны паўтары гадзіны, пазяхаючы, глядзець на няшчырыя пакуты і выслухоўваць фальшывыя душэўныя споведзі...

Спектакль "Зона "Х" — драматургічны дэбют былога студэнта Беларускага універсітэта культуры, цяперашняга загадчыка літаратурна-драматычнай часткай тэатра Андрэя Карэліна. Героі ягонай п`есы — звычайныя сярэднестатыстычныя людзі, нашы сучаснікі. Любяць, зайздросцяць, змагаюцца з побытам і прусакамі. І праблемы ў іх адметныя, "нашынскія" — цяжарнасць успрымаецца, як трагедыя, кватэрнае пытанне, як было, так і застаецца невырашальным. Шэф пагражае звальненнем, былы лепшы сябра зайздросціць твайму таленту і галодным вокам паглядае на тваю каханую, а тая і ўвогуле збіраецца да свайго заможнага бой-фрэнда ў казачны Магдэбург... Вось так і жыве Стральцоў — галоўны герой спектакля, журналіст "неперспектыўнага" аддзела надзвычайных здарэнняў у правінцыйнай газеце. Але раптам ціхае жыццё з няшчасным каханнем і недапісаным раманам пад назвай "Зона "Х" быццам узрываецца. Здаецца, удача сама ідзе ў рукі. Трэба толькі адважыцца — і музейны ключ ад Магдэбурга, які па абяцанках міліцыянта Жыгава "каштуе больш за ўвесь гэты горад", у тваім кармане. Шэф патрабуе сенсацыю — будзе яму сенсацыя. Усё так проста — прыйдзі і вазьмі. І мышка паслухмяна, хай і вельмі адважна, ідзе за сырам напрамкі ў падрыхтаваную пастку. Раптоўныя сюжэтныя павароты здзіўляюць. Але выглядаюць настолькі заблытанымі, што ў рэшце рэшт папросту стамляешся ад наіўнасці новаспечанага Бураціна-Стральцова, які так лёгка "купіўся" на казку пра залаты ключык, ад нематываванай нянавісці да яго шэфа і былога сябра. Навошта было саліднаму бізнесоўцу Галоўнаму, звычайнаму міліцыянту Жыгаву і закаханай у



КІНО

*Анімацыйны праект "Калядныя гісторыі" з'ява ў беларускім кінамастацтве незвычайная: на працягу васьмі гадоў беларускі рэжысёр-аніматар Ірына КАРДЗЮКОВА здымае мультфільмы, прысвечаныя Калядам. Яе фільмы мусяць навучыць дзяцей такім галоўным хрысціянскім запаведзям як "палюбі Госпада Бога Твайго ўсім сэрцам тваім"... і "палюбі блізкага твайго, як самога сябе".*

*"Каляднае", "Завіруха", "Дзяўчынка з запалкамі", "Надзвычайная вячэра ў Куццю", "Показка пра Каляды", "Сястра і брат (Казка на Каляды)" — усе гэтыя мультфільмы ў розныя гады былі адзначаны прызамі на розных міжнародных кінафестывалях. Аўтарскую анімацыю І. КАДЗЮКОВАЙ, якую вызначае непаўторная атмасфера, аздобленая і добрым гумарам, і замілавальным, шчырым павучаннем, цікава глядзець не толькі дзецям, але і дарослым. У фільмах гэтага рэжысёра актыўна працуе другі план, прадумваюцца, незвычайна абыгрываюцца дробныя на першы погляд дэталі. Нездарма анімацыю І. Кадзюковай заўважыў вядомы італьянскі сцэнарыст, паэт, мастак Таніна Гуэра...*

*З Ірынай КАДЗЮКОВАЙ мы гутарылі ў адным з пакояў "Беларусьфільма". У халоднай, непаленай майстэрні, дзе здымаюцца ўсе мультфільмы, робіцца цяплей толькі тады калі ў вытворчасць запускаецца чарговы мультфільм, калі здзяйсняецца даўнішняя задума мультыплікатара...*

# ПАВЯЛІЧВАЦЬ ДАБРО НА ЗЯМЛІ

**— З мультфільма "Каляднае" ў беларускую анімацыю прыйшоў новы жанр: "калядны аповед". Чаму захацелася расказаць з экрана менавіта пра Каляды, перанесці вядомы літаратурны жанр у мультыплікацыю!**

— Тэма майго дыплома на філфаку была "Творчасць Сашы Чорнага для дзяцей". Каб напісаць працу, паехала ў маскоўскую ленінскую бібліятэку, атрымала допуск у спецфонд. І вось тады я адкрыла, што існуе хрысціянская дзіцячая літаратура. Мне вельмі спадабаўся верш Сашы Чорнага "Каляднае". Я перапісала гэты верш. Напачатку 90-х на студыі быў такі цудоўны час, калі і грошы давалі на пастаноўкі, і не забаранялі ставіць тое, што хочаш. Я прапанавала зняць фільм паводле верша Сашы Чорнага. І вось гэтая свабода дала магчымасць разам з мастаком Таццянай Кубліцкай зрабіць нешта адметнае: простае, чыстае, добрае. Калі наш фільм паглядзелі на мастацкім савеце, мы пачулі: ой, якое замілавальнае, сімпатычнае кіно! Але тут жа высветлілася, што побач з такім прыемным мульцікам на такую тэму ніякі іншы сюжэт ужо не паставіш. І тады я ўсур'ёз занялася вывучэннем каляднай літаратуры. З усіх прачытаных мною калядных апавяданняў я выбрала твор невядомага аўтара Д. Булгакоўскага "Напярэдадні Калядаў" (толькі праз некалькі гадоў я даведалася, што Д. Булгакоўскі — гэта вядомы праваслаўны святар). Два гэтыя фільмы склалі дзесяціхвілінны зборнік "Калядныя апавяданні". На свой першы міжнародны фестываль ён паехаў у Францыю. На здзіўленне, нашыя мультфільмы прайшлі конкурсны адбор, спадабаліся. "Калядныя апавяданні" купіла французскае тэлебачанне, потым прыйшоў ліст з цэнтра Пампіду з просьбай паказаць нашыя фільмы. Мне было вельмі прыемна, што верш Сашы Чорнага, некалі напісаны ім у Парыжы, зноў вярнуўся ў гэты горад у якасці фільма.

Пасля гэтага я зразумела, што іншае мяне проста больш не цікавіць, што Каляды — гэта такое вялізарнае поле дзейнасці нікім, як ні дзіўна, не кранутае ў нашай анімацыі. Гэтае свята, як магічны крыстал, які кожны раз можна паварочваць рознымі гранямі. Калі мы рабілі фільм "Дзяўчынка з запалкамі" паводле Андэрсена, многія абураліся, як вы можаце казаць дзецям пра смерць, вымушаць іх плакаць! Але я цвёрда перакanana, што нашых дзяцей цяпер так шмат забаўляюць, што ім будзе карысна задумацца, а, можа, ёсць хтосьці, каму не хапае элементарнай цеплыні, пяшчоты. Стужка "Надзвычайная вячэра ў Куццю" зроблена на аснове рэальнай гісторыі з майго дзяцінства. Гэты мультфільм дзеці любяць больш за астатнія. "Показку пра Каляды" мы зрабілі разам з цудоўным мастаком Аляксандрам Верашчагіным. Вядомую казку пра Алёнку і яе брата Іванку з мастаком Наталляй Навоенкай мы назвалі "Сястра і брат". Усе мы цудоўна ведаем гэтую фразу: "не пі, а то казлянём зробішся". Нам часта кажуць у жыцці, каб мы не рабілі чагосьці, а мы ўсё роўна гэта робім. Але нашая стужка не пра памылкі, якія ўсе робяць, а пра тое, што гэтыя памылкі трэба выпраўляць, і самае галоўнае — не здраджваць адзін аднаму, што і робяць нашыя героі. Сястра і брат не кідаюць адзін аднаго ў цяжкія хвіліны.

...Мультфільм "Каляднае"захацелася зняць пасля таго, калі я даведалася, якая дзіўная існавала раней традыцыя: збірацца на Куццю ўсёй сям'ёй і чытаць калядныя апавяданні. Дарэмна спадзявацца, што цяпер людзі будуць рабіць тое ж самае. Але што-небудзь каляднае яны з задавальненнем паглядзець па тэлебачанні. Мы ж нават самі не ўяўляем, наколькі жанр каляднага апавядання прысутнічае ў нашым жыцці. Чаму ўсе так любяць "Іронію лёсу" Разанава? А таму, што гэты фільм вытрыманы ў жанры каляднага апавядання. Сваімі мульцікамі мне хацелася прыгадаць традыцыі святкавання нашых Калядаў. Бо свае традыцыі ў нас цудоўныя, і нам не патрэбны ўсялякія





Стральцова Алісе так жорстка цкаваць звычайнага журналіста, навошта быў амаль вар`яцкі танец " на касцях" ахвяры — застаецца незразумелым. Філасофскі падтэкст? Так, Стральцоў у спектаклі прапаведуе хрысціянскую мараль: "пачвары" (усяму брыдкаму, нялюдскаму ў чалавеку) трэба дараваць. Тут жа гучыць матыў зоны братоў Стругацкіх: людзі і свет вакол нас — тая ж зона, і толькі ад нашых учынкаў залежыць тое, чым яна адкажа. Але фінал спектакля не спраўджвае гэтых спадзяванняў героя. І сапраўды аказваецца, што "жыццё — трагедыя для тых, хто адчувае, і камедыя для тых, хто мысліць". Так уяўляе свет Андрэй Карэлін.

Спектаклю з такой няроўнай і заблытанай драматургіяй была вельмі патрэбна моцная рэжысёрская рука, але пастаноўшчык і сцэнограф Сяргей Гавенка быццам "збег" са сцэнічнай пляцоўкі. Вось і бадзяюцца акцёры па сцэне, не ведаючы, куды сябе падзець — ці то плюхнуцца ў крэсла-гушкалку, ці то на лесвіцу залезці, ці то шафу сабой падперці. Мастак па дэкарацыях Людміла Каўфман выкарыстала пры афармленні спектакля вялізныя цэлафанавыя шпалеры, загарнула ў той жа цэлафан і ўсе рэчы ў рэдакцыйным пакоі. Халодная цэлафанавая шэрасць адразу стварае адчуванне неўладкаванасці, "адвечнага" рамонту. Няўтульна ў такім пакоі, маркотна. І сапраўды хочацца вырвацца адсюль, "з балота — у казку", ці то падчапіўшы замежнага спонсара, як Аліса, ці то спакусіўшыся на каштоўны Залаты ключык, як сучасны Бураціна-Стральцоў.

Вучыцца, бясспрэчна, трэба. І эксперыменты таксама патрэбны не толькі ў навуцы, але і ў тэатры. Але эксперыменты на гледачах-падлетках — а менавіта яны і складаюць асноўную частку наведвальнікаў гэтага тэатра — могуць быць вельмі небяспечнымі. Кожнаму з іх не растлумачыш, што не хапіла часу, альбо грошай, альбо вопыту, каб зрабіць спектакль лепшым. Ды праз некаторы час можа стацца, што і тлумачыць будзе няма каму — глядач, як вядома, галасуе нагамі...

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**
**Фота К. ДРОБАВА**



панчохі, бо ў нас спрадвеку падарункі клаліся пад елкай. А наогул лепшае, што можна зрабіць на Каляды — гэта запрасіць дадому, за сямейны стол кагосьці, хто адчувае сябе адзінокім.

**— Ірына, мяне сапраўды здзіўляе, што дзяржава не закрывае вочы на такія праекты, выдзяляе грошы, падтрымлівае!**

— Мяне гэта не здзіўляе, мяне гэта вельмі радуе. Падчас калядных святаў адбываюцца цуды. І яны як быццам праецыруюцца на маё жыццё: нейкім чароўным чынам зноў і зноў зацвярджаюць сцэнарый, даюць грошы на пастаноўку. Я лічу, што гэтыя мультфільмы вельмі патрэбныя дзецям. Нам вельмі цяжка супрацьстаяць яскравым, забаўляльным, а, часам, вельмі жорсткім заходнім мультсерыялам. Бо праявы дабрыні, любові — з'явы нягучныя, іх цяжка зрабіць прывабнымі. Нешта агрэсіўнае, жорсткае — яно кідкае, прыцягальнае, а дабро яно ціхае. Я цалкам згодна з думкай вялікага польскага рэжысёра Кшыштафа Занусі, які сказаў, што мастакі не могуць змяніць свет, але могуць уплываць на суадносіны дабра і зла ў ім, іх задача — павялічваць дабро на зямлі. І вось, калі мы можам гэта рабіць нашымі мультфільмамі, то мы павінны гэта рабіць.

Апошнім часам у мяне пытаюцца: ці не палохае вас засілле на экране замежнай кінапрадукцыі? Так, палохае, але які сэнс ад маіх эмоцый, калі гэта павінна пужаць перадусім чыноўнікаў з Міністэрства культуры. Мы павінны рабіць свае мультфільмы (а яны, дарэчы, залатое дно для нашай дзяржавы, бо сёння шмат беларускіх мультыплікатараў працуюць на іншыя еўрапейскія краіны). Бо мы гэта можам, у нас цудоўныя рэжысёры, моцны патэнцыял. Але дайце нам крышачку больш грошай на мультфільмы. А то атрымліваецца, што спачатку мы частуем дзяцей гэтай "чорнай" прадукцыяй з экрана, а потым здымаем фільмы пра дзіцячую злачыннасць, наркаманію. Дык, можа, прасцей выдаткаваць больш грошай на выхаванне дзяцей?! Я не веру, што з дапамогай кінамастацтва можна паўплываць на дарослых, іх можна больш-менш забавіць, а дзяцей сапраўды можна выхоўваць.

**— На жаль, Ірына, вашыя мультфільмы амаль не ідуць у нашых кінатэатрах, не паказваюць іх і па БТ. Фільмы Кадзюковай можна ўбачыць ці то на фестывалях, ці то на спецыяльных імпрэзах, ці то ў праваслаўных нядзельных школах...**

— Так. Хаця мне, па сутнасці, грэх скардзіцца. Усе апошнія гады нашыя калядныя мультфільмы купляла расійскае тэлебачанне. У калядныя святы іх паказвалі і мне было вельмі прыемна за нашую ідэю. На жаль, у мінулым годзе нашыя стужкі не паказалі. Сёння работнікам тэлебачання галоўнае — запоўніць сетку мульцікамі, а якімі — не важна.

На жаль, не спяшаецца купляць нашыя мультфільмы і БТ. І я маю на ўвазе не толькі калядныя стужкі, а ўвогуле беларускую анімацыю. Дарэчы, у наступным годзе мы будзем святкаваць трыццаць гадоў існавання айчыннай мультыплікацыі. У нас ёсць больш за сто добрых, якасных фільмаў, якія можна цэлы год паказваць па тэлебачанні.

Нашымі "Каляднымі апавяданнямі" зацікавілася французскае, швейцарскае тэлебачанне. Напэўна, яны настолькі вычарпалі сябе ў гэтай тэме, што ім стаў цікавы наш погляд на гэтае свята.

**Гутарыла Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: кадры з мультфільмаў "Дзяўчына з запалкамі", "Сястра і брат (Казка на Каляды)".*

ЗГАДКІ

*На спектаклі "Севільскі цырульнік" быў аншлаг. У Мінск прыехаў і выступаў у партыі графа Альмавівы знаны тэнар Іван Казлоўскі. Іншыя удзельнікі спектакля — артысты беларускай опернай сцэны — таксама пакарылі публіку. Разіну выконвала Тамара Ніжнікава, для якой гэтая партыя, паводле асабістага прызнання артысткі, фактычна зрабілася яе візітоўкай. А ў партыі доктара Бартала бліскуча выступіў наш оперны спявак Афанасій Бялоў. Ён настолькі быў выразны, арганічны, што кожнае яго з'яўленне на сцэне, кожная рэпліка сустракаліся проста "на ўра". Расказваюць, праслаўлены Казлоўскі адзначыў, што такога яркага, таленавітага выканання партыі Бартала ён не бачыў.*

Нарадзіўся Афанасій Паўлавіч на Пензеншчыне ў сям'і сялян-батракоў, амаль 120 гадоў таму. Пасвіў статак у памешчыка, пазней вучыўся на шаўца, працаваў у розных гаспадароў... Пасля заканчэння вакальнага факультэта Кіеўскай кансерваторыі ў творчай біяграфіі А. Бялова былі оперныя тэатры Самары, Баку, Свярдлоўска. Некалькі гадоў выступаў у Чырванасцяжным ансамблі песні і танца і нарэшце звязаў свой лёс з Дзяржаўным тэатрам оперы і балета Беларусі.

**— Неяк мы разам з В. Мягарскім выступалі ў оперы Пучыні "Тоска", — успамінае ён. — Я выконваў партыю Скарпіа, а ён — майго спадручнага, шпіёна Спалета. І я заўважыў, што ў ягоным выкананні шмат увагі аддавалася дэталям, канкрэтыцы. Я з задавальненнем глядзеў ягонага доктара Бартала ў "Севільскім". А ў ягоным вобразе Скулы з "Князя Ігара" адчувалася, што вынік працы артыста — нібы з глыбіні гадоў.**

**У гэтай оперы мы ўдзельнічалі разам з А. Бяловым. Я выконваў партыю Ігара, а ён — Галіцкага. Ад-**



# ЗАСТАЛІСЯ Ў ГІСТОРЫІ



У свой час шмат гаварылі пра незвычайны драматычны талент А. Бялова. Запамінальны вобраз хітрага каварнага Бамелія стварыў ён у спектаклі "Царская нявеста" на музыку М. Рымскага-Корсакава, выкарыстаўшы непаўторныя фарбы, паўтоны. А яшчэ ён разам з беларускім тэнарам Віктарам Мягарскім выступаў у цудоўным камічным дуэце Скулы і Ярошкі ў оперы А. Барадзіна "Князь Ігар". Публіка шчыра прымала таленавіта ўвасобленых артыстамі вясёлых, дасціпных людзей з народа.

Пазней з В. Мягарскім у гэтым дуэце выступіў Рувім Яўраеў, барытон якога заўсёды гучаў ярка, прыгожа. Гэты саліст быў таксама вядомы каларытным артыстычным увасабленнем доктара Бартала. На думку былога саліста Беларускай оперы прафесара Анатоля Генералава, Р. Яўраеў стварыў і незабыўны вобраз начальніка турмы ў "Лятучай мышы" Ё. Штрауса, якая ставілася на нашай опернай сцэне. Публіка па-сапраўднаму рагатала з яго героя, асабліва калі гучала знакамітая рэпліка начальніка турмы: "Я хачу прысесці, у нас жа ўсе сядзяць". Або калі герой Р. Яўраева, адшчыкнуўшы цыбулю, прамаўляў: "Бэзам пахне..." Нават у невялікай партыі Свата ў оперы А. Даргамыжскага "Русалка" артыст знаходзіў нешта арыгінальнае.

А. Генералаў лічыць В. Мягарскага ды Р. Яўраева опернымі артыстамі старога гарту. Яны шмат увагі ўдзялялі канкрэтным дэталям сцэнічнага вобраза.

**чувалі адно аднаго, імкнуліся падтрымліваць. Наогул, гэтыя мае партнёры сваёй творчасцю даказвалі, што не бывае маленькіх роляў, як калісьці гаварыў К. Станіслаўскі.**

Народная артыстка СССР Тамара Ніжнікава расказвае, што не так і даўно сустрэла Віктара Дзмітрыевіча Мягарскага, ужо з кійком. Ад радасці нечаканай сустрэчы яны заўсміхаліся адно аднаму. Раптам на вачах старога артыста заблішчэлі слёзы. Пэўна, у гэты момант абое ўспомнілі ўсё, што было ў іх колішнім артыстычным жыцці.

**— І А. Бялоў, і В. Мягарскі, і Р. Яўраеў у свой час былі незаменныя, — працягвае Т. Ніжнікава. — Можна сказаць, што да тэатра, сваёй непасрэднай працы яны адносіліся з вялікай адказнасцю. Яны былі прыкладамі для ўсіх нас. Наогул тэатр для ўсіх нас быў другім домам, нават другой сям'ёй. І гэта не забываецца.**

Сёлета адзначаецца па 100 гадоў з дня нараджэння самабытных В. Мягарскага ды Р. Яўраева. Віктар Дзмітрыевіч Мягарскі пражыў вялікае жыццё, пакінуў нас зусім нядаўна. А памяць пра таленавітых оперных спевакоў засталася ва ўсіх, хто выступаў з імі на сцэне, хто атрымліваў асалоду ад іх мастацтва.

**Вера КРОЗ**

*НА ЗДЫМКАХ: Віктар МЯГАРСКІ (Ярошка) ды Афанасій БЯЛОЎ (Скула). 1949 г. Заслужаны артыст Беларусі Рувім ЯЎРАЕЎ — доктар Бартала. 1965 г.*

# ПРАВЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СУПОЛЬНАСЦЕЙ

**Выйшаў з друку «Зборнік дакументаў аб абароне правоў асоб, якія належаць да нацыянальных супольнасцей Рэспублікі Беларусь», падрыхтаваны Камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў РБ (складальнік — кансультант аддзела па справах нацыянальнасцей Камітэта Н. Ходар). Асноўная мэта выдання — пашырэнне ведаў пра беларускае заканадаўства ў галіне міжнацыянальных адносін.**

**Зборнік адрасаваны супрацоўнікам органаў дзяржаўнага кіравання усіх узроўняў — ад рэспубліканскіх да раённых, прадстаўнікам нацыянальных супольнасцей і іх грамадскім аб'яднанням, навукова-даследчым і навучальным установам, усім, хто цікавіцца пытаннямі міжнацыянальных адносін, забеспячэння правоў асоб, якія адносяцца да нацыянальных супольнасцей, а таксама справай захавання і ўмацавання раўнавагі ў беларускім грамадстве.**

**У першую частку зборніка эключаны міжнародныя дагаворы, пагадненні, канвенцыі, пакты, праткалы ААН, Савета Еўропы, ЮНЕСКА, СНД аб правах асоб, якія належаць да нацыянальных супольнасцей. Другую частку склалі нарматыўна-прававыя дакументы Рэспублікі Беларусь. У трэцяй частцы змешчана інфармацыя пра органы дзяржаўнага кіравання, дыпламатычныя прадстаўніцтвы, грамадскія і рэлігійныя аб'яднанні, пра нацыянальны склад Рэспублікі Беларусь і інш.**

**Дакументы, якія увайшлі ў зборнік, прадастаўлены Выканаўчым камітэтам СНД, Нацыянальнай камісіяй па справах ЮНЕСКА, міністэрствамі замежных спраў, статыстыкі і аналізу, інфармацыі, а таксама грамадскімі аб'яднаннямі Беларусі.**

**Вялікую дапамогу ў стварэнні і фінансаванні зборніка аказалі Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь і асабіста яго кіраўнік Ніл Буне, а таксама начальнік Дэпартамента грамадскай інфармацыі ААН у Беларусі Віктар Радзівіноўскі.**

**Л. КАРАЧУН**

# У ГОНАР КОЛАСА

**Вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, прайшла ў Мінскім інстытуце кіравання. Гасцямі сустрэчы былі сын народнага песняра Міхась Міцкевіч, яго дачка Марыя, намеснік дырэктара Коласаўскага музея Ганна Зайцава і старшы навуковы супрацоўнік гэтай установы Іван Курбека.**

**Адкрыў урачыстасць рэктар МІК М. Суша.**

**Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч расказаў пра сваё маленства, пра старэйшых братоў Данілу і Юрку, пра маці Марыю Дзмітрыеўну і, вядома, пра бацьку. Прамоўца прапанаваў моладзі цаніць і вывучаць родную культуру.**

**Ганна Зайцава запыніла ўвагу слухачоў на дзейнасці музея, на святочных мерапрыемствах. Коласава ўнучка Марыя Міцкевіч паведаміла, як шануецца памяць яе дзеда за мяжой. Іван Курбека пацешыў публіку чытаннем вясёлых вершаў і абразкоў з жыцця-быцця музея.**

**Студэнты МІК паказалі сваю літаратурна-музычную кампазіцыю.**

**Задаволеныя сустрэчай, усе дзякавалі галоўнаму арганізатару — дацэнту Зінаідзе Варановіч.**

**Сцяпан ІВАНЧЫК**

# УПЕРШЫНЮ Ў БЕЛАРУСІ

**У пачатку будучага года ўпершыню ў Беларусі пройдзе выстава-ярмарка "Праваслаўныя Каляды". Яна пройдзе з 2 па 5 студзеня ў Мінску ў выставачным павільёне па вуліцы Янкі Купалы, 27. Выставу арганізуе Беларускі Экзархат і выставачнае прадпрыемства "Экспафорум".**

**Кантактныя тэлефоны: 222-03-123, 225-63-953**

СІНЕМА

# КІНАСПАДАРОЖНІК ГЛЕДАЧА

На экраны нашай краіны выйшла амерыканская кінастужка "Асобая думка". Пра фільм можна сказаць проста – гэта фільм Сцівена Спілберга. Да таго ж ён зняты па апавяданні вядомага пісьменніка-фантаста Філіпа К. Дзіка, творы якога ляглі ў аснову такіх карцін, як "Бягучы па вастрыі брытвы", "Крыкуны", "Прышэлец" і інш.

Дзеянне "Асобай думкі" разгортваецца ў канцы XXI стагоддзя. Гаворка ідзе пра паліцыю, якая арыштоўвае злачынцаў яшчэ да здзяйснення злачынства.

Дарэчы, калі нехта думае, што перад ім звычайны фантастычны баявік — ён глыбока памыляецца. Апошнія фільмы лаўрэата "Оскара" Сцівена Спілберга якраз накіраваны на даследаванне больш глыбокіх філасофскіх пластоў існавання чалавецтва і чалавека ў прыватнасці. У дадзеным фільме нельга не заўважыць вельмі ўдалае спалучэнне апошніх тэхнічных дасягненняў кінематографа з цікавым і незвычайным кінапозіркам на тэмы адказнасці за сваю і чужую будучыню.

Галоўных герояў іграюць Том Круз, Колін Фарел, Саманта Мортан, Макс фон Зюдаў.

"Зязюля" – так называецца новы расійскі мастацкі фільм, зняты вядомым рэжысерам, стваральнікам культавых "Асаблівасцей нацыянальнага палявання" і "рыбалкі" Аляксандрам Рагожкіным.

...Верасень 1944 года, некалькі дзен да выхаду Фінляндыі з Другой сусветнай вайны. Фінскаму снайперу-смяротніку Вілле, прыкаванаму да скалы па загадзе камандавання, каб не было шляху да адступлення, удаецца вызваліцца з ланцугоў. Капітан Савецкай Арміі Іван арыштаваны СМЕРШам і таксама толькі цудам застаецца жывым. Салдатаў варожых армій прыгрэла ў сябе на хутары саамка Анні. Для яе яны не ворагі, а проста мужчыны...

Калісьці, не так даўно, А.Рагожкін зняў праўдзівы фільм аб чачэнскай вайне "Блокпост". Здымаў там, дзе адбываліся падзеі. І на гэты раз ён застаўся верны праўдзе жыцця – "Зязюля" здымалася на Кольскім паўвостраве ў Кандалакшы. І наогул, стужка атрымалася не толькі праўдзівай, але і іранічнай, і па-свойму шчымлівай.

У галоўных ролях заняты Анні-Крысціна Юуса, Віктар Бычкоў і Вілле Хаапсала.

Дзецям і іх бацькам пэўна спадабаецца і новы поўнаметражны супервясёлы амерыканскі мультыплікацыйны фільм "Ледніковы перыяд", пастаўлены рэжысерам Карласам Садзьянай і Крысам Уэджам. Мульцік працягвае традыцыі такіх новых і ўжо культавых сямейных анімацый, як "Шрэк" і "Карпарацыя монстраў".

...Набліжаецца Ледніковы перыяд, які прымушае дагістарычных жывёл пакінуць абжытыя месцы і ісці на поўдзень. Толькі тры смельчакі: мамант-адшэльнік, прайдзісвет-лянівец і каварны саблезубы тыгр, якія выпадкова сталі выратавальнікамі чалавечага дзіцяці, гатовы кінуць выклік халадам. Кожны з іх – яркая індывідуальнасць і ніколі не ўступіць другому. Аднак небяспекі і прыгоды сплочваюць іх і прымушаюць забыць пра свае крыўды. Толькі разам яны змогуць выжыць і вярнуць дзіця яго бацькам...

Акрамя названых фільмаў, беларускія гледачы ў бліжэйшы час змогуць таксама ўбачыць на экранах сваіх гарадоў такія яркія мастацкія фільмы, як "Мільянер па прымусе", "Адзінаццаць сяброў Оўшэна", "Індэфікацыя Борна", мульцік "Скубі-Ду" і іншыя.

**Аляксандр БОГДАН**
**Канстанцін РАМАНОЎСКІ**

# МЫС ДОБРАЙ НАДЗЕІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

му, хто плыў па возеры, здалёку здавалася, што на астраўку мігціць маяк.

Так яны тады і гаварылі з Верай Мікалаеўнай:

— Сёння высадзімся каля маяка.

Яны абое тым летам трапілі сюды ўпершыню.

Вера Мікалаеўна прыехала адпачыць пасля хваробы. А Русакоў пісаў тады паэму, якая прынесла яму вядомасць (нават славу!) і грошы, якія таксама былі яму зусім не лішнія.

Як яму пісалася ў тое лета! Адкуль што бралася...

Ён не раз цяпер, ужо ў сталым узросце, дапытваў самога сябе, калі ж ён быў сапраўдным паэтам: у маладосці, калі ён умеў нястомна радавацца кожнаму дню, кожнай, нават самай нязначнай, праяве жыцця, гатовы натхнёна складаць вершы, зусім не клапоціцца пра пошук і выбар тэмы... Ці зараз, калі ён ужо спасціг таямніцу майстэрства, калі адточаным, як лязо брытвы, радком, ён, здавалася, умеў усё! Аднак гэта "ўсё" з'яўлялася яму і прыходзіла цяпер да яго ўсё радзей і радзей. І аддавалася цяпер яму ўсё з большай і большай пакутай.

Ці не так бывае ў каханні: тая, што ў росквіце юных сіл і характва бачыла ў табе Бога і гатова была ісці за табою на край свету, спасцігшы свет (і таксама самога цябе спасцігшы — зусім не Бога!) — аднойчы раптам адчуеш ты, — ідзе побач з табой у вялікай пакуце.

...Ах, з якім захапленнем і спадзяваннем пісаў ён тую сваю даўнюю паэму!

..У пяць гадзін, пасля "ціхай гадзіны" ён браў лодку, садзіўся на вёслы і, трымаючыся непадалёк ад берага, чакаў. Вера Мікалаеўна днём заўсёды спала. (Пасля хваробы яна хутка стамлялася, і сон замяняў ёй лекі.) І вось праходзіла хвілін якіх дзесяць-пятнаццаць, і на лесвіцы, што вяла да прычала, паказвалася зграбная постаць з блакітным, як воблака, шалем вакол шыі... На лаўках, над возерам, дзе сядзелі жанкі, якім гэты назіральны пункт як бы дапаўняў іх лекі, адразу ж пачыналася ажыўленае абмеркаванне гэтага з'яўлення.

Русакоў кіраваў да прычала, памагаў Веры Мікалаеўне сесці ў лодку, і яны адплывалі. Кожны дзень у новыя воды. Адзін дзень яны плылі па праліву Лаперуза, на другі высаджваліся на бязлюдным востраве. На трэці... У іх быў уласны мыс Добрай Надзеі, была свая бухта Ціксі. Быў яшчэ адзін востраў — Вогненная Зямля...

— Terra incognita! — прычальваў Русакоў лодку да выспачкі, на якой маглі стаць два чалавекі, не болей. — Прашу!

Вера Мікалаеўна ступала на зялёную выспачку і смяялася ў адказ:

— Толькі паэты ў наш час умеюць адкрываць новыя землі і воды...

— Перш за ўсё паэты ўмеюць адкрываць жанчын!

Ён быў тады яшчэ малады, і гэтыя адкрыцці даваліся яму без цяжкасці. Гэтыя адкрыцці натхнялі яго. І — навошта грашыць — сам ён не папракаў сябе за гэта. Каму гэта шкодзіла?

— Валодаю я Верай і Надзеяй! — патэтычна дэкламаваў Русакоў, калі яны высаджваліся на мысе Добрай Надзеі.

Вера Мікалаеўна ўпершыню ў сваім жыцці стрэлася з жывым "сапраўдным" паэтам, і ёй падабаўся гэты лёгкі, нязвычны ёй тон.

Русакоў вылучыў Веру Мікалаеўну сярод іншых жанчын, якія тады адпачывалі: адразу: па тым, як яна апранался, як хадзіла, як гаварыла. Ва ўсім, што б яна ні рабіла, у яе было сваё, толькі ёй прысутнае непадабенства. І Русакоў не мог яго не заўважыць. Выпадкова стрэўшыся і загаварыўшы першы раз, яны ўжо наступны раз абое былі рады сваёй стрэчы. Ім было прыемна і лёгка разам. У кожнага з іх раней, вядома, былі ўжо ўласныя землі і воды, але гэта зусім не пазбаўляла іх адчування навізны ў іх адносінах.

І не было б нічога дзіўнага (і, мусіць, не было б вялікага граху), калі б на глебе таго п'янлівага харкства і пяшчоты, якім, здавалася, дыхала нават сама летняя прырода, калі б між імі тады ўзнікла каханне.

Аднак абставіны склаліся зусім інакш. Аднойчы прыйшла тэлеграма, а за тэлеграмай, следам, прыехаў і сам муж Веры Мікалаеўны. Ён хваляваўся за яе здароўе — ён адправіў яе з дому слабою, — і ён выстараўся сабе адпачынак, каб пабыць некалькі дзён з жонкай разам і каб аблегчыць ёй дарогу назад, каб самому прывезці яе дадому.

За што ж можна было папракнуць гэтага чалавека? Ці як можна было жадаць яму недабра?

Вера Мікалаеўна стрэла мужа з непадробнай радасцю: яна належала да ліку тых мілых цвярозых жанчын, якія не без падстаў лічаць, што лепш спакойна і зручна жыць на зямлі і трымаць сініцу ў руцэ, чым гнацца за нейкім там зманлівым жураўлём у небе. Хто ведае, ці ўгонішся ты за ім?..

Больш Русакоў з Верай Мікалаеўнай ніколі не сустракаліся. Яны нават ні разу не напісалі адзін аднаму святочнай паштоўкі. І яна, напэўна, гэтак, як і ён, ужо даўно забыла яго і ніколі не ўспамінае нават.

Русакоў пастаяў на беразе, а потым па гарбатым мастку перайшоў на астравок. Пастаяў на тым месцы, адкуль маргаў некалі смешны маяк з кансервавых бляшанак. Прайшоўся, адчуваючы, як пружыніць і рыпіць пад нагамі прамерзлая і заснежаная трава. І паволі зноў вярнуўся на бераг. Паволі пакрочыў далей, насустрач белай завеі.

...Па Вогненнай Зямлі гуляе ў белым сцюжа...

У твар яму секла, як наждак, дробная снежная крупа. Ён падняў каўнер. Засунуў рукі ў кішэні.

Гуляе ў белым...

Усё навокал і сапраўды было ўжо ў белым: зямля, дрэвы, зашэрхлая ўздоўж берага вада. І сцюжа мацнела. У затуленай чаратамі бухтачцы трымцеў ад гэтай сцюжы адзінокі човен. Русакоў спыніўся каля яго, каб аддыхацца, каб не хапаць ледзяного паветра. Вогненная Зямля адсюль ужо толькі ўгадвалася ў белай замеці.

Па Вогненнай Зямлі гуляе ў белым сцюжа...

У бухце... Провидения... паснулі караці...

Гэта смешнае сумяшчэнне бухты Провидения і карасёў дало настрою Русакова імгненны штуршок: як быццам у ім успыхнула іскра запальвання. Смешнае тут жа зноў азвалася элегічным:

Патух Маяк. Вы помніце?.. І тужыць
Надзея Добрая. Каго мне упрасіць
Вярнуць ізноў ёй Добрую Надзею?..

Ён ішоў, спыняўся, паўтараў сам сабе словы і радкі, якія нараджаліся ў ім самі па сабе, незалежна ад яго волі, не падуладныя яму. Яны злятаці з яго светлага адчування, з яго мімалётнага ўспаміну, як дыханне.

...Замёрз праліў Па-дэ-Калe... А чоўну сніцца цёплы бераг... трымае хвалю ён абверху... Пакорную і зманную, але... Замёрз праліў Па-дэ-Кале... Замёрз... Замёрз..

Ён гаварыў сам з сабою ўслых, ён стараўся нават крочыць у такт гэтым нечакана абуджаным у ім рытмам. І ён не заўважаў нават, як уся яго істота непрыкметна запаўняецца радасным жыццём. (Так наліваецца сокам пад сонцам яблык.) У яго было адчуванне, нібыта ён толькі што выдраўся са страшэннага бураломy, выбіўся з бясконцага змрочнага бездарожжа на тупкую сцяжынку, і над гэтай сцяжынкай выбліснуў раптам яму промень.

Ён ведаў, гэта вярталіся да яго вершы. І яму было боязна спалохаць іх... Каго мне ўпрасіць вярнуць ізноў мне Добрую Надзею? Надзею... Добрую...

Ён паўтараў гэтыя словы, народжаныя ў пакутлівым хаосе яго душы, як заклінанне, як паўтарае набожны чалавек малітву. І ён адчуваў, як гэта малітва непрыкметна вяртае яму даўно забытае ім прасвятленне і палёгку.

•

У двары санаторыя, на ганку, яму стрэліся яго цяперашнія суседкі па стале — маладыя дзяўчаты, ткачыхі з камвольнага.

— Ірачка! — жартаўліва заступіў Русакоў дарогу той, якая была бліжэй да яго. — Хочаце, я вас з Валяй сёння высаджу на востраве Мадагаскар?.. Валечка, хочаце?

Дзяўчаты далікатна ўсміхнуліся, яны саромеліся яго, вядомага паэта, вершы якога яны вучылі ў школе. Да таго ж за сталом ён ніколі ні пра што з імі не гаварыў: толькі вітаўся, жадаў прыемнага апетыту, а пасля яды адразу ж развітваўся і тут жа знікаў — у сваім пакоі або ў бібліятэцы.

— Ну дык як? — ён быў вясёлы, а на марозе і на ветры ён памаладзеў і здаўся ім зусім непадобным на сябе.

Дзяўчаты пераглянуліся. І як бы з апаскай памкнуліся ў бок ад Русакова.

— Не хочаце? — ён развёў рукі. На твары яго блукала ўсмешка, якой за гэтыя два тыдні ніхто ў яго не бачыў. Ніводзін чалавек.

— Хочам! Хочам! — у адзін голас паабяцалі Іра і Валя і хуценька збеглі з ганка.

— Замёрз праліў Па-дэ-Кале! — гукнуў услед ім Русакоў.

# БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ З КОЖНЫМ...

Не ведаю, калі даследчыкі нашай літаратуры ўсебакова прааналізуюць творчасць Уладзіслава Рубанава, і наогул, ці прааналізуюць — а яна ж, пачытайце, перачытайце яго кнігі (іх, на жаль, няшмат) , думаю, пагадзіцеся са мной своеасаблівая, і ён — творца гэты зусім іншы, чым усе астатнія нашы празаікі (ніякім чынам не хачу нікога прыніэіць, бо кожны з нас, такі, як ёсць). Так Уладзіслаў Рубанаў, вельмі адметны, па-свойму, і мовай, за якую яго ўшчувалі іншы раз класікі і паўкласікі, і поглядамі на жыццё. А можа, найперш тым, што ён, я ўпэўнены, як ніхто, хай з нас, яго аднагодкаў, або амаль аднагодкаў у асобных сваіх творах глыбока пранік у чалавечую душу, а значыць, і сваю.

Памятаеце, з чаго пачынаецца яго раман "Не аднойчы забіты"? Дык якраз з такой фразы: "Чым глыбей чалавек апускаецца ў сваю душу, тым вышэй падымаецца ў сусвет..."

Але пакуль не даследчыкі, а тыя, хто ведаў Уладзіслава, маю на ўвазе літаратараў сыходзяцца на думцы, што менавіта ў гэтым творы пісьменнік Рубанаў, як ніхто іншы змог засяродзіць увагу на паняцці лёс...

Я асмеліўся сказаць слова пра Уладзіслава Рубанава толькі таму, што мне зрабіць гэта даручылі нашы аднакурснікі (журфак БДУ, выпуск 1975 года). То прашу аднесціся да ўсяго мной сказанага, як менавіта да асабіста маёй версіі яго, У. Рубанава, вобраза, характара. І то — фрагментарнай. Гэта была асоба своеасаблівая. У яго было шмат таямніц. Яму, на мой погляд, былі вядомы асобныя таямніцы існасці. І "зазірнуў" ён, напрыклад, у названым творы, у вельмі патаемнае, адкрыў, зразумеў многае, не кожнаму даступнае і ў іншых сваіх творах. Можа, як казаў мне адзін пісьменнік, зазірнуў занадта глыбока... Зноў жа, як ніхто з нас. І гэта таксама не супрацьпастаўляе яго іншым, не ўзвышае і не прыніжае перад імі: думаецца, у яго пісьменніцкім дары, было і рэдкае, ад нябёсаў: прадчуваць...

Той-сёй з калег, асабліва з тых, хто пры Уладзіслававым жыцці пры яго па тым часе важкіх літаратурных пасадах набіваўся ў сябры, не пагаджаецца з адметнасцю пісьменніцкага таленту У. Рубанава. То хай...

А мы, (у тым ліку і я), яго аднакурснікі, дык з першага курса вучобы на факультэце журналістыкі БДУ (1970 год), з першага нашага дня разам (паехалі на бульбу), з першых Слававых слоў, калі ён, хлапчук са Слаўгарадчыны, учарашні школьнік, загаварыў з намі, зразумелі, адчулі — не такі як мы: разумнейшы, пасапраўднаму таленавіты, як ніхто тут.

Вядома, першакурснікі-журналісты, і тыя, хто паспеў папрацаваць у газетах, ці адслужыць у войску, і тыя, хто сюды са школы прыйшоў — усе пісьменнікі (паэты, празаікі). Ды пісьменнікам неяк ураз назвалі, услых, не з іроніяй, з гонарам — Рубанава. А яшчэ — цікавае птушаня... Бо Славік, так мы звалі Уладзіслава, а яшчэ Вадзімам, ужо надрукаваў у калектыўным зборніку, здаецца, апавяданняў школьнікаў, твор з такой назвай. І тое, што яго"Цікавае птушаня" сапраўдны твор, было зразумела ўсім, хто чытаў (і мне таксама): мовы такой мы нават не ведалі, дапытлівасці — таксама, дэталяў, вобразаў. Словам, не Славік, а "цікавае птушаня". Сапраўды цікавае, бо ён усім цікавіўся, на ўсё ў яго быў свой погляд, і нібы нейкі недавер да ўсіх і ўсяго. Мне здаецца, што гэта тлумачыцца так: ён спачатку павінен быў зразумець, што ты не хлусіш, што ты з ім шчыры, а тады ўжо вырашыць, ці варта яму адкрыць табе сваю душу.

Мабыць, гэтаму ў яго былі прычыны, асабістыя, не будзем гадаць і прыдумваць якія. Але калі іншы раз у якіх успамінах пра Уладзіслава чытаеш, маўляў, ён падаўся камусьці скрытным, дык думаеш: дарэмна так.

Ведаю, бачыў, адчуваў не раз, як балюча з абурэннем, прыхаваным у сваёй душы ён адносіўся да любой несправядлівасці, асабліва ў пісьменніцкім асяроддзі. Ён быў надзвычай выхаваны. Бацькамі-настаўнікамі. У яго была прыродная прага да справядлівасці. Для яго, які ішоў у літаратуру, як мала хто з нас, як у самае светлае і вялікае нават нейкая маленькая праява непрыстойнасці з боку літаўтарытэтаў — а такімі для яго былі ці не ўсе, каго ён чытаў, — здавалася, рушылі свет. Помніцца, як кажуць, увагі не вартае: ён толькі што ўладкаваўся ў вялікі літаратурны часопіс, з раёна прыехаў, куды яго накіравалі пасля БДУ, і мы з ім пайшлі ў кафэ "Бярозка" на плошчы Перамогі. Там нас убачыў адзін супрацоўнік часопіса, мы пілі каву. Назаўтра Слава прыйшоў да мяне літаральна прыгнечаны і абражаны, сказаў: "Ведаеш, мне ў рэдакцыі загадалі, каб мяне больш з табой не бачылі."

Зараз гэта вядома, падаецца смешным, тады я да гэтага аднёсся грэбліва: наша справа, сябруем мы або не, і прычым тут нехта з начальства ў яго рэдакцыі, у якой я да таго ніколі не быў, нікога асабіста не ведаў.

"Ты дарэмна так, — сказаў ён. — Мяне, можа, гэта абурае не менш чым цябе. Бач, пакуль сябруй хаця б з хлопцамі ЦК камсамола..."

Я сказаў, калі гэта пашкодзіць яму, то, мабыць, трэба не афішыраваць наша знаёмства.Але Уладзіслаў сказаў, што такога ён сабе не дазволіць, падпарадкавацца нейкай волі, загаду не сябраваць з тым, з кім хоча...

(Што гэта было так, у гэтым годзе ні з таго ні з сяго сказаў мне ў прысутнасці хлопцаў былой нашай маладосцеўскай рэдакцыі адзін з яе былых кіраўнікоў: "Ведаеш, на другі дзень, калі я ўладкаваў Рубанава ў рэдакцыю, мяне выклікала начальства і насварылася... "Ты каго прывёў? Яго ж ўчора бачылі з Саламахам."



Але, ці не праз 25 гадоў гэтая "найсакрэтнейшая" рэдакцыйная "тайна" стала адкрытай, і як жахліва думаць, што такое магло быць са Славам, чалавекам надзвычай ранімым пры ўсёй знешняй закрытасці, ці калі, па нейчай версіі, і "скрытнасці" яго характару.

А тое, хто "прывёў", дык не тут гадаць: прывяла літаратура, прывёў Уладзіслава ў той шаноўны часопіс асабісты мастакоўскі непаўторны талент, ды чуласць да Рубанава некаторых пісьменнікаў, што працавалі тады там. А найперш, прывёў можа, як я ад Славы ведаў, дык— яго зямляк, блізкі яму чалавек, родзіч (здаецца, нідзе не афішыравалася), Алесь Герасімавіч Масарэнка. З першага курса ад Славы я ведаў, што менавіта А. Масарэнка шмат добрага зрабіў у яго жыцці і ніколі не патрабаваў падзякі...)

Уладзіслаў таксама ніколі ні ад каго ні за што не чакаў падзякі. І ведаю, умеў радавацца радку любога пісьменніка, нідзе не крычаў пра гэта, але калі мы, надзвычай улюбёныя ў літаратуру дзяліліся думкамі аб прачытаным, шчыра захапляўся кожным. Але, паўтаруся, нешта ў яго жыцці некалі адбылося такое, што стрымлівала адкрываць іншым сваю душу. Нават тым, з кім шмат год працаваў... І хай тое будзе заўжды яго асабістым, і нават калі хто з нас гэта крышачку ведае, няхай не выносіць на абмеркаванне іншым, ведаючы: аднойчы, пры нейкіх абставінах ён даверыўся толькі табе...

Уладзіслава пасля заканчэння універсітэта накіравалі на працу ў Старадарожскую раёнку, дзе адрабіў, як тады патрабавалася, тэрмін. Алесь Герасімавіч Масарэнка зрабіў усё, каб потым Рубанаў пераехаў у Мінск, каб быў бліжэй да літаратурнага жыцця. Сярод сапраўдных пісьменнікаў, цудоўных людзей знайшлося нямала тых, хто на першых кроках падтрымаў яго ў сталіцы (іх імёны ў пісьмах У. Рубанава Алесю Герасімавічу). Але было нямала і такіх (звычайна гэта людзі з адпаведнай псіхалогіяй), што зайздросцілі таленту У. Рубанава, ставіліся да яго няшчыра.

Неўзабаве Уладзіслава з апарата нашага саюза запрасілі ўступаць у творчую арганізацыю. Даў згоду. Але яго не прынялі: на секцыі, камісіі і Радзе былі выступоўцы, якім яго творчасць не падабалася. "Ён у сваім апавяданні распрануў жанчыну", "Якой мовай піша?" (жывой, сакавітай, слаўгарадскай. — **У. С.**) і г.д.

Удар быў страшэнны: навошта тады запрашалі, каб так?.. І няўжо сярод пісьменнікаў так мала шчырасці?..

Саюз для яго шмат што значыў: тады ў ім было столькі жывых класікаў!.. Якраз яны, класікі, і дамагліся, каб Уладзіслаў стаў членам творчай арганізацыі. Яго прынялі ў другі раз...

Страшэнна перажываў, як заўважыў, што сярод літаратараў існуюць групкі, карыслівасць і т. п.: як так?.. Многае несправядлівае і несумленнае яго проста шакіравала: "Пра якую літаратуру можна казаць?.."

Ужо тады мы гаварылі між сабой, што з літаратурнага асяродку ўсялякія прыстасаванцы "вымываюць" сумленне. І ён з горычу і болем прадбачыў тое, што мы сёння маем у СБП. У яго жыцці, з яго ўспрыманнем свету, з яго выхаванасцю многае, вельмі многае, сярод чаго жыў і тварыў абурала, і ўсё гэта ён насіў у сабе, як нясцерпны боль душы...

Вядома, былі ў Рубанава і такія пісьменнікі, чыёй творчасцю асабліва захапляўся. З нашых дык — Брыль, Стральцоў, Караткевіч, найперш. Вельмі высока цаніў Івана Пташнікава. Крыху папрацаваўшы з ім казаў мне: "Ты не ўяўляеш, якой гэта сілы мастак!"

Пры Уладзіслававых літпасадах (тады яны сярод пісьменнікаў лічыліся даволі значнымі) раптам вакол яго пачалі круціцца розныя людзі, зусім далёкія яму па духу, карыслівыя, "сяброўства" якіх якраз гэтым і тлумачылася. Ён гэта ведаў, наколькі я разумею, ні разу не паступіўся пісьменніцкім і чалавечым сумленнем, але і не адпрэчваў ад сябе, мабыць, баючыся пакрыўдзіць...

Разумею, што некалі пра Уладзіслава Рубанава, як чалавека і пісьменніка, лепш і больш поўна раскажуць тыя, хто працаваў з ім побач, хто дапамагаў яго ўваходжанню ў літаратуру. Ці проста людзі, з літаратурай не звязаныя, але тыя, для каго ён быў блізкім чалавекам.

Мы вырашылі з Алесем Герасімавічам надрукаваць асобныя выпрымкі з дзённіка У. Рубанава, якія, на нашу думку, мог бы надрукаваць і сам Уладзіслаў.

**Уладзімір САЛАМАХА**

# «ЛЮБАЯ ЎВАГА — ЯНА АКРЫЛЯЕ»

**(З дзённіка Алеся Масарэнкі 1977 г.)**

*3 лютага, нядзеля.*

Сабраўся закончыць артыкул, за якім бадай два тыдні невылазна прасядзеў за сталом, але сёння мне гэтае зрабіць не давялося. І вось чаму: прыехаў Вадзім Рубанаў са Старых Дарог. Даўно збіраліся сустрэцца. Учора два разы ён прыходзіў, не было нікога дома. Сёння застаў усё-ткі.

Нагаварыліся як след. Пакінуў хлапчына ажно васемнаццаць апавяданняў. Тры з іх я прачытаў ужо. Ёсць, проза будзе ў яго атрымлівацца. Няхай адно больш працуе... Усцешыў, парадаваў родзіч. Цяпер — каб толькі займаўся гэтай справай пастаянна.

*24 сакавіка, чацвер.*

Учора быў Рубанаў. Заскочыў літаральна на паўгадзіны — спяшаўся на вакзал. З Уладзіслава павінен атрымацца цікавы празаік, адно каб хутчэй, усёй душой, апантана ўлёг у літаратурную творчасць. Гэта вельмі важна — пачаць адразу і не перарывацца, ісці-плысць у адным накірунку. «Зігзагі» ў баку — замаруджваюць, замінаюць, хаця і значна пашыраюць даляглядны душы...

*23 мая, аўторак.*

Здаў у набор два апавяданні Уладзіслава Рубанава. З хлопца будзе пісьменнік, і не благі. І гэтая, першая публікацыя ў часопісе — яму, канешне ж, у радасць. Зрэшты, натхнюся — стаў больш пісаць. Якраз парада Габрыеля Гарсія Маркеса тут да месца: « — Я сказаў бы яму аб галоўным: каб ён пісаў шмат і нястомна, пакуль не дасягне прафесійнага ўзроўню. Улічваючы перш за ўсё думку чытачоў, бо калі ім не спадабаўся які-небудзь твор, ён не будзе жыць, як бы яго ні хвалілі крытыкі».

Дзіва што! Апавяданне — нялёгкі жанр і, мусіць, адзін з тых, што не цярпяць аніякіх схем, роўна як і прафесійна-штучнай зададзенасці з наўмысна-абавязковай сціласцю. Схематычны твор нагадвае аголенае дрэва — без галінак і пошуму лісцяў, без ценю і птушыных галасоў.

Апавяданне — гэта не абавязкова нейкі адзін эпізод, узяты з жыцця. Зусім не. Галоўнае, каб відаць былі мінулы й сённяшні дзень героя, увесь ён сам у пэўным адмежку часу. Калі гэта ўсё ёсць і пададзена так, што ні адно і ні другое не выпірае залішне, не замінае адно аднаму, гэта ўжо — прывабна-здаровае дрэва, і яно вабіць да сябе пастаянна. Яго не забываеш — помніцца ўвесь час, дзе б ты ні быў.

**З ліста У. Рубанава да А. Масарэнкі (10.8. 1977 г.):**

«Запоем прачытаў твае выпраўленыя (удала і проста цудоўна!) і новыя апавяданні — і, дальбог, вельмі парадаваўся: ты ўсё правільна і добра зрабіў. Праясніўся адразу і стыль, і мова набыла гучанне, і дэталь запрацавала на ўсю катушку — усё нарадзілася і вырасла адразу ў юначы рост, такі, што аж «Маладосць» прыме твае гэтыя творы. Я ўсе іх адобрыў, але ж дзе-нідзе і правіў. Выкрасліў, канешне, «каптурыкі» — занадта ўжо відаць, што ўзяў ад нейкага Масарэнкі. Прыдумай нешта такое сам пра дзявочыя грудзі, а не крадзі (жартую). Там-сям пішаш заместа «быў» — «было»: гэта па-руску, лічы. Думаю, будзе праблемка з апавяданнем «Чыстая вада». Што дзяўчына сама, першая, цалуе свайго часовага абранніка, гэта няблага. Але ж у цябе тут не атрымалася, як мне здаецца, псіхалагічнай

**(Заканчэнне на стар.14)**



*Якаў Пятровіч ФУРСІН (бацька У. РУБАНАВА) і Алесь МАСАРЭНКА.*

здаецца, думка атрымала новы адценак і выйграла апавяданне.

Хацелася б — калі апавяданні пойдуць, — каб засталіся ў іх такія словы: «акаснула» (пераўзышла ў тых жа якасцях), «паўміць» (падумаць, але адценак ёсць), «наседзь» (г. зн. зборышча галубоў, населі). Можа, яны й не вельмі распаўсюджаныя, але бытуюць і зразумелыя.

Аўтарскія асацыяцыі, параўнанні, на мой погляд, дарэмна Жук падкрэслівае. Няхай яны, можа, у чым і наіўныя, але свае, свае ўспрыняцце, якое не выдумваецца, а ўзнікае міжвольна. Напрыклад, мяне такое ў творах заўсёды радуе і прыносіць асалоду. У ім усумняваецца толькі той, хто рэдагуе, а чытачы потым успрымаюць, як належнае. І наогул — думка чытача і пісьменніка, які чытае, часценька разыходзяцца.

Вось, здаецца, і ўсё. Не ведаю, ці ёсць сэнс спадзявацца на першае паўгоддзе? А хацелася б. Дзеля натхнення. Бо гэтае вяртанне, хоць і зразумелае, неабходнае, неяк выбіла з творчай каляіны. Калі раней думалася, пісалася, то цяпер нейкае напятае чаканне. З «Полымя» пакуль таксама нічога не чуваць — я аддаў туды апавяданне, напісанае цяпер, нядаўна. Надзеі, вядома, мала, каб нячутага, нябачанага нехта надрукаваў.

Чэсна прызнацца, маладосцеўскія гэтыя два апавяданні мне самому ўжо не падабаюцца. Бо задуманы яны (а «Чыстая вада» і напісана) у студэнцкія гады, таму яны папахваюць мне несур'ёзнасцю, дзіцячасцю. І быццам неяк сорамна дэбютаваць імі ў 25 гадоў. Адчуваю, што ёсць і магу напісаць цяпер лепшае. Нават узнікае думка замяніць гэтыя, але палохае тым, што «працэдура» паўторыцца яшчэ адным годам.

Пішу гэта так, што на душы, бо свайму, лічу, можна і ў творчасці прызнавацца ва ўсім, нават самым патаемным.

Ну, усяго табе добрага, Алесь!

Да сустрэчы!

•

Алесь, прывітанне!

Адкрываю ганцавіцкую раёнку — і дзівуюся, бачачы тваё апавяданне. Думаю, не так сабе. Гартаю ранейшыя нумары — і ўсё высветляецца: «У нас у гасцях...» У гэтай сувязі ёсць адзін моманцік. Памятаеш, у маёй рэцэнзіі на твае «Жураўіны пад снегам» упамінаецца студэнтка, якая была ў захапленні ад мовы тваіх твораў. Дык гэта — дачка ганцавіцкага рэдактара Праскурава.

Наш рэдактар Зуйкевіч родам з Ганцавіцкага раёна — вось і дасылаюць нам гэту газету.

Трохі аб сваіх справах. Ты, вядома ж, чытаў у «ЛіМе» другое маё апавяданне. Чым я задаволены, дык гэта тым, што рэдакцыя нічога не мяняе ў творы, хіба толькі пару слоў. Значыць, давярае аўтару, не гвалціць яго тварэнне — лад мовы, думку і г. д.

Як там, Алесь, мае апавяданні? Ці глядзеў іх Жук па-новаму? Можа, варта штонебудзь у іх дацягнуць, змяніць? Карацей кажучы, буду чакаць ад цябе вестак. А надарыцца быць у сталіцы, дык скантачымся.

Сам я паціху буду «ляпіць» што-небудзь, балазе настрой трохі ўзняўся. Дзякуй «ЛіМу»!

На наступныя выхадныя зноў думаю вырвацца ў Аляксандраўку — брат прыехаў у адпачынак з сям'ёй, трэба пабачыцца.

Вось, здаецца, кораценька пра ўсё.

Будзь здароў!

Вадзім.

г. Старыя Дарогі, рэдакцыя.

•

Алесь, добры дзень!

Крыху з запазненнем, але ўсё-ткі мушу даць інфармацыйную справаздачу аб семінары творчай і навуковай моладзі, у асноўным, што датычыцца літаратурнай часткі. Празаікаў, так званых, нас было ўсяго тры чалавекі — А. Кажадуб з Мінска (казаў, здаў у «Маладосць» ужо аповесць), П. Рабянок, настаўнік з Гомельшчыны і я. Паэтаў было больш дзесятка.

У сэнсе нейкай практычнай дапамогі семінар нічога не даў: не было ні канкрэтнага разбору твораў, ні якіх-небудзь гутарак у цесным кругу літаратараў, ні чагонебудзь падобнага. Агульныя лекцыі я не бяру пад увагу, бо нічога новага ў іх, уласна, не было сказана. Кажуць, чыста літаратурныя, Караліщавіцкія семінары намнога больш карысныя.

Гэты семінар вось што даў: пашырыў кругагляд, бліжэй пазнаёміў з іншымі відамі мастацтва, дазволіў пакруціцца сярод людзей творчых, прыдаў натхнення, здавалася, на цэлы год. Праўда, пару дзён пажарыўся ў старадарожскіх клопатах — і натхненне як карова языком злізала. Я перажанаўся сам, на сваёй скуры, як зашмат значыць для творцы асяроддзе, у якім ён працуе. Часта выступаюць пісьменнікі: мала талентаў, позна спее моладзь. Чаму? Б'юцца над гэтым «чаму?». Ды найперш таму, што захлынаюцца яны, паршывеюць ад недахопу «літаратурнага» кіслароду. А захірэлы парастак потым ужо не так проста адхаіць. Узяць хаця б гэтага Рабянка. Нават да мяне яго пацягнула як да магчымасці нешта пачуць і г. д. Яно і зразумела: жыве ў вёсцы.

Яшчэ — семінар пашырыў кола знаёмстваў. Значыць, так. Кажадуб кажа мне: «Цябе пытаўся Бураўкін, хоча пазнаёміцца». Ну, пазнаёміліся. Спадабаўся мне Генадзь Мікалаевіч сваёй таварыскасцю і нейкай такой адкрытай, шчырай прастатой. Сказаў, што падрыхтавалі там мае апавяданні, але ён іх яшчэ не чытаў. Пытанне па ходу: як там канкрэтна справы абстаяць, ці «прапусціў» А. Жук? Далей. Стаім мы з Бураўкіным, праходзіць міма Ніл Гілевіч — і да мяне: «Хто-хто гэта? Рубанаў...» Пазнаёміліся. Чытаў, кажа, ваша апавяданне ў «ЛіМе», вельмі спадабалася (пра гэта мне раней гаварыў М. Гіль). Адвёў мяне ўбок і даў параду: «Нясіце ў выдавецтва свае апавяданні й станавіцеся ў чаргу. Калі захочаце што дабавіць або змяніць, дык не позна будзе. Бо час ідзе».

Мне цяжка меркаваць, наколькі ўсё гэта рэальна, але здаецца, парада дзельная. Тым больш, што ў мяне ёсць больш дзесятка ўжо апавяданняў, напісаных пасля «празарэння».

Быў там колькі дзён і Іван Чыгрынаў. (...) хацелася падысці, пагутарыць. Падвярнулася такая выпадковасць: прывезлі кнігі — і там «Апраўданне крыві». Повад падысці. Купіў — і: «Іван Гаўрылавіч, кажуць, у вас рука лёгкая. Падпішыце, калі ласка, на памяць аб семінары». — «Як ваша прозвішча?» — пытае. Назваў. «А, гэта мне Масарэнка гаварыў пра вас...» Уласна, і ўся размова.

Больш-менш цесныя адносіны ў нас усталяваліся з Яўгенам Лецкам. Ён быў там увесь час, і мы шмат пагаварылі з ім на розныя тэмы. Сышліся таксама выпадкова. Калі быў працоўны дэсант, трапілі на адну баразну бульбы.

Астатнія знаёмствы былі, гаворачы рускай мовай, «по мелочам».

І яшчэ пра адно знаёмства, пра якое я ўжо ўпамінаў табе па тэлефоне. Значыць, атрымаў я цёплы водгук на свае апавяданне ў «ЛіМе» ад Сакрата Яновіча з Польшчы. Не адказаць, вядома, не мог. І вось нядаўна атрымаў ад яго кнігу «Загоны» з аўтографам і нумар часопіса «Беларускі каляндар», рэдактарам якога ён з'яўляецца. Яшчэ ён працуе ў выдавецтве, загадвае яго беластоцкім аддзелам. Па нацыянальнасці беларус, узрост — 41 год. Піша, што сябраваў з Мележам. Наогул — дзядзька, мусіць, вельмі шчыры й добры. Даў мне некалькі карысных парад наконт творчасці. Падбадзёрыў хаця б вось такімі словам: «З радасцю прачытаў Ваша як жа добрае апавяданне «Зерне — у зямлю». Рэч пра дабрату; Вы расчулілі мяне — і тэмай, і багаццем мовы. Дзякую Вам за добры кавалак жыцця!» У другім месцы: «Скураю адчуваю, што Вы можаце пакінуць у жыцці свой карысны, прыгожы след; свой удзел у справу змены свету на лепшае; сваю долю ў яго адкрыццё». «Гэта, здаецца, Вы апублікавалі ў «ЛіМе» свой водгук на прозу Брыля: прыгожа!» Ну — і г. д. і да т. п.

Усе гэтыя знаёмствы, што я прывёў вышэй, я не зводжу к таму, што на нешта разлічваю. Зусім і зусім — не. Але яны мне патрэбны для душы, асабліва цяпер, на пачатку. Любая ўвага — яна акрыляе. Мо потым гэта будзе не так важна і не так уразліва. Але цяпер... Кожны чалавек, які зараніў у душу крупіцу надзей, нечым падтрымаў, застанецца ў памяці назаўсёды. Я думаю, што ты мяне, Алесь, разумееш.

Ну, што яшчэ ў мяне? Напісаў новае апавяданне, бадай, самае вялікае з усіх — 19 старонак. Пачаў другое. Закончу і тады, мусіць, засяду за аповесць, якой старонак 20 ужо ёсць. На добры толк трэба было б занесці пры выпадку парачку апавяданняў у «Полымя» ці яшчэ куды. А то ж усюды чэргі. Няхай бы ляжалі. Тым больш, чую, хлопцы носяць, на нешта разлічваюць.

У 8 нумары «Бярозкі» было маё апавяданне «Чараўнік» — на разварот. Таксама яшчэ студэнцкай пробы. Іншых навін, здаецца, больш няма.

Што ў цябе новага? Ці пішацца трохі? Як работа на новым месцы — часопісная? Блага, канешне, што мы рэдка маем магчымасць пагаварыць. У пісьме пра ўсё не напішаш. Але, можа, дасць Бог, і звядзе калі лёс.

А пакуль —

будзь! Усяго найлепшага.

Уладзіслаў.

1. X. 77 г.

**Публікацыю падрыхтаваў Алесь МАСАРЭНКА**

# Сяргей ГРАХОЎСКІ



11 снежня 2002 года пасля працяглай хваробы памёр паэт, празаік і перакладчык Сяргей Іванавіч Грахоўскі. Спынілася сэрца таленавітага творцы, сумленнага чалавека, шчырага і сардэчнага сябра.

Нарадзіўся Сяргей Іванавіч у 1913 годзе ў сялянскай сям'і ў мястэчку Нобель на Піншчыне. Яго дзяцінства і юнацтва прайшло ў Глуску на Магілёўшчыне. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, вучыўся на рабфаку. У 1935 годзе закончыў літаратурны факультэт Мінскага педінстытута, выкладаў літаратуру ў БДУ. У 1936-м быў беспадстаўна арыштаваны і сасланы ў Горкаўскую вобласць. Пасля вызвалення настаўнічаў на Случчыне, аднак у 1949 годзе быў арыштаваны паўторна і высланы на вечнае пасяленне ў Новасібірскую вобласць. Дачакаўшыся ў 1955 годзе рэабілітацыі, вярнуўся ў Мінск, працаваў на радыё, у часопісах "Бярозка" і "Вясёлка", адказным сакратаром Камітэта па дзяржаўных прэміях Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

З 1974 года — персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1983).

З вершамі С. Грахоўскі дэбютаваў у друку ў 1926 годзе. Першы зборнік вершаў "Дзень нараджэння" выйшаў у 1958-м. З таго часу пабачылі свет больш за чатыры дзесяткі ягоных паэтычных і празаічных кніг, тройчы выходзілі зборы твораў у 2 тамах. Сваёй творчасцю С.Грахоўскі сцвярджаў чалавечую годнасць, маральную чысціню, адказнасць перад часам і гісторыяй. Суровай праўдзівасцю прасякнуты творы апошніх гадоў, у якіх паэт нарэшце змог сказаць праўду пра перажытае (зборнік "І радасць, і боль" (1988), дакументальная аповесць "Споведзь" (1990), адзначаная Дзяржаўнай прэміяй Беларусі).

На дакументальнай аснове пабудаваны таксама аповесць "Рудабельская рэспубліка", "Такія сінія снягі", "Зона маўчання", "З воўчым білетам". У трох апошніх С. Грахоўскі перадаваў драматызм перажытага ў гады сталінскіх рэпрэсій.

Сяргей Іванавіч Грахоўскі пражыў нялёгкае, але сумленнае і плённае жыццё. Светлая памяць пра паэта назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў і прыхільнікаў ягонага таленту.

**І. А. Карэнда, Л. П. Гуляка, М. В. Падгайны, І. А. Брыль, Н. С. Гілевіч, І. П. Шамякін, А. А. Пашкевіч, У. А. Мачульскі, Э. А. Акулін, Д. І. Бічэль, А. І. Бутэвіч, А. І. Вярцінскі, Н. Я. Гальпяровіч, А. А. Жук, В. М. Іпатава, А. К. Каско, А. П. Кудравец, М. М. Мятліцкі, С. С. Панізнік, А. У. Пісьмянкоў, Б. П. Сачанка, Ф. І. Сіўко, У. М. Скарынкін, М. У. Скобла, В. Я. Тарас, В. Ю. Ткачоў, В. А. Шніп.**

•

**Сяргею ГРАХОЎСКАМУ**

*Нямоглы, цягнучы гады*
*На коніку-кіёчку,*
*Ступаў, ішоў, нібы святы,*
*Сяргей Грахоўскі моўчкі.*

*Я жаўрай ціўкнула ля брой,*
*Сінічкай — каля сэрца.*
*І Ён ажыў! Нібы любоў,*
*Што ў твар смяецца смерці!*

*— Ой, хто ты, дзетачка,*
*адкуль?*

*Ты пішаш вершы?*
*...Ён так глядзеў — бы ўжо*
*адтуль,*
*Як нетутэйшы!*

*— Мая дарога ўжо сышла,*
*А я — ступаю...*
*Я ў позірку Яго знайшла*
*Дарогі краю...*

**Дар'я ЛОСЕВА,**
**вучаніца 11 "А" класа**
**гімназіі № 23**
**г. Мінска**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ – ЛІТАРАТУРА

У **аўторак 23 снежня**, у праграме **Навума Гальпяровіча "Брама"**, тэма якой "Традыцыі і сучаснасць у творчасці маладых паэтаў", гасцюе **Тацццяна Сівец**. Пачатак, як заўсёды, у **22.30**. **У сераду Святлана Шаліма** выклікае слухачоў на **"Авансцэну"**, у чацвер **Галіна Шаблінская** гутарыць з пісьменніцай **Галінай Каржанеўскай** у праграме **"Палітра"**. Тэма — "Паміж явай і сном, або Палітра мастацкага слова". **У пятніцу**, таксама ў **22.30**, **Ірына Шаўлякова** запрашае на **"Сентыментальнае паляванне"**.

**"Літаратурны праспект" — у суботу 28 снежня**, у **10.45**. У гэты ж дзень у **"Жывым слове" — паэт, галоўны рэдактар часопіса "Вожык" Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**. Пачатак гутаркі з ім а 17-й гадзіне. **У нядзелю** ў "Радыёпарку" — "Кнігарня", а з **14 да 16** — "Беларускі альбом".

**КАНАЛ "КУЛЬТУРА"**

**"Клуб дамаседаў"**. Працягваем чытаць разам раман **У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"** ў 11 гадзін у панядзелак—аўторак. У сераду ў гэты ж час — праграма М. Прохар "Літаратурны клуб", госцем якога будзе паэт У. Карызна, супрацоўнік часопіса "Крыніца", а ў чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.

У "Сімфоніі дня" — **"Літаратурны аўторак" 24 снежня з 12.10 да 17.00.** Пачынае яго, як звычайна, "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у **14.10** — "Магія творчасці" З. Каваленкі (выпуск прысвечаны памяці паэта С. Грахоўскага). У **14.40** — **"Сугалоссе"** У. Дзюбы пазнаёміць слухачоў з перакладам на беларускую мову апавядання швейцарскага пісьменніка Вальтэра Матэаса Дыгельмана "Стаяла бабіна лета", з **15.00** — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у **15. 20** — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у **15. 40** — у "Паэтычным радыётэатры" слухачоў спектакль **"Завея крылом калядзе махае..."** паводле вершаў народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна. Завяршыць "Літаратурны аўторак" на канале "Культура" праграма Г. Шаблінскай **"Гаспода"**, час эфіру — **16 гадзін 10 хвілін**. Госці студыі — намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларусь" І. Ждановіч і адказны сакратар гэтага ж выдання В. Ждановіч. (Паўтор — 28. XII).

Кожную сераду на канале **"Культура"** з **12.10 да 13.10** — **"Дыялогі пра культуру"**. Вядучыя — **Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ і Алесь БАДАК**.

**Н. К.**

## АФІША СНЕЖНЯ

***17 снежня — Дзень беларускага кіно нашае грамадства адзначыла святочным паказам новага беларускага фільма.***

# МІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ... КІНО

Фільм Д. Зайцава "Між жыццём і смерцю" (рабочая назва "Лялька") — адзіная стужка "Беларусьфільма" гэтага года. Хаця, калі быць дакладным, іґравых карцін было зроблена сёлета тры: акрамя Зайцава, паслугамі "Беларусьфільма" карысталіся беларускі рэжысёр В. Рыбараў (яго фільм "Прыкаваны", які на нядаўнішнім "Лістападзе" атрымаў спецыяльны дыплом "Бронзу Лістапада", зроблены сумесна з "Ленфільмам"), а таксама піцерскі рэжысёр К. Капіца (тэлесерыял "Сяброўка-восень", у аснове якога сцэнарый беларускай журналісткі Ю. Ляшко, пастаўлены сумесна з піцерскай студыяй "Пазітыў—TV"). Але сёлета за ўсё беларускае кіно даваў справаздачу творчы тандэм Зайцавых: сцэнарыст А. Зайцаў, які напісаў кінатвор, прысвечаны перадусім сваім бацькам (а дзеянне фільма адбываецца ў 40-я пачатку 50-х гадоў у Заходняй Беларусі) і рэжысёр Д. Зайцаў, які з мінімальнымі сродкамі здолеў паставіць гэты фільм.

У чэрвені гэтага года "ЛіМ" падрабязна пісаў пра фільм і яго здымкі. "Гарачанькую", толькі што зманціраваную стужку мне давялося глядзець раней за 17 снежня, яшчэ ў лістападзе на спецыяльна арганізаваным для журналістаў паказе ў памяшканні "Беларусьфільма". Рэжысёр Д. Зайцаў быў шчырым: фільм зроблены на невялікія "кроўныя" грошы Мінкульта, на кепскай стужцы, акрамя гэтага здымалася ўсё толькі адным дублем. (Праўда, нягледзячы на гэта, рэжысёр упэўнены ў камерцыйнай паспяховасці стужкі, у магчымасці добра яе прадаць.)

Шчыра кажучы, тое, што прыйшлося ўбачыць на экране здзівіла і, на жаль, расчаравала. Заўважна, што падчас здымак, цікавы, някепскі сцэнарый змяніўся не на карысць сюжэта: дзеянне ў стужцы заблытанае, нелагічнае, як быццам злепленае спешна, выпадкова. Затое, як у добрых галівудскіх фільмах дакладна акрэслены станоўчыя і адмоўныя героі. Ролю "добрага" — шпіёна КДБ Яна Шыбко, якога памылкова, не разабраўшыся, асудзілі за забойства — іграе мужны, відны расійскі акцёр Я. Сідзіхін. "Нядобрага", злодзея і забойцу, антыпода Шыбко, сыграў беларускі акцёр-прыгажун А. Кацянёў (нездарма, на мастацкім савеце студыі стваральнікам фільма раілі памяняць акцёраў месцамі). Іх паядынак і робіцца цэнтральным у фільме, у якім, на мой погляд, не занатавана, не перададзена жахлівая атмасфера пачатку 50-х гадоў, калі, як вядома, ішлі рэпрэсіі. Як Яну Шыбко ў той час удалося збегчы з-пад варты, абараніць сваё жыццё, будучы "лялькай", з'явіцца ў горадзе і шукаць праўды, падаецца дзіўным. Героі як быццам "завісаюць" у бесчасоўі, знаходзяцца "па-за" часам, гісторыяй, палітыкай.

Расчаравала ў фільме адсутнасць яскравых работ аператара, мастака. Не зусім выразныя і акцёрскія малюнкі: герой Сідзіхіна здаецца на экране занадта сусальным, замілаваным. Трэба адзначыць, што ў гэтым фільме іграюць пераважна беларускія акцёры, а гэта Г. Аўсяннікаў (у гэтага акцёра адна з галоўных роляў у фільме, але яго герой нараджаецца з даўно прачутага на сцэне матэрыялу — Цярэшкі Калабка з "Трыбунала"), А. Падабед, А. Кашпераў, А. Гур'еў, І. Мацкевіч, П. Юрчанкоў-малодшы. У фільме Д. Зайцава дэбютавала маладая актрыса Аляксандра Кацьер, дзяўчына з непаўторным, прыгожым тварам...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



### Нацыянальны акадэмічны тэатр балета

**20** – І. Стравінскі "Жар-птушка" і "Вясна свяшчэнная"
**22** – Б. Паўлоўскі "Беласнежка і сем гномаў"
**27, 29, 31 ( у 12.30)** – С. Кібіраў "Тры парасяці"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы

**21** – Д. Вердзі "Трубадур"
**22** – Д. Вердзі "Набука"
**24** – І. Штраус "Калядны баль"
**26** – П. Чайкоўскі "Іяланта"
**28 (у 11.30 і 15.00)** – М. Мінкоў "Чароўная музыка"
**29** — Навагодні канцэрт (у праграме: вальсы і полькі І. Штрауса, папулярныя мелодыі з опер Д. Вердзі, Ж. Бізе, Д. Расіні і інш.)
**29** – "Навагодні дывертысмент" (гучаць творы Ж. Бізе, Д. Вердзі, В. Моцарта, П. Чайкоўскага, І. Штрауса і інш.)

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Беларускі дзяржаўны музычны тэатр

**20, 26 (вечар)**, 29 (раніца) – І. Левін "Айбаліт-2002" мюзікл для дзяцей у 2-х дзеях
**21, 22, 27-29** – "Галактыка кахання" музычнае шоу ў 2-х аддзяленнях
**28 (раніца)** – У. Уланоўскі "Залатоё кураня" мюзікл для дзяцей у 2-х дзеях

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы

**20** – А. Курэйчык "Згублены рай" (прэм'ера) драма ў 2-х дзеях
**21** – М. Задорнаў "Таполевая завея" камедыя ў 2-х частках
**22 (раніца)** – Я. Купала "Паўлінка" камедыя ў 2-х дзеях
**22** -- С. Кавалёў "Трыстан ды Ізольда" рамантычная гісторыя ў 2-х дзеях
**28** -- А. Дудараў "Кім" "крымінальная" меладрама ў 1-й дзеі
**29 (раніца, вечар)** -- Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца – не журыцца" беларускія вадэвілі ў 2-х частках
**30** – У. Шэкспір "Сон у летнюю ноч пасярэдзіне лета"

### Малая сцэна

**20** – А. Казанцаў "Брат мой, Сіман" драма ў 2-х дзеях
**21** – А. Папова "Муж для паэтэсы" камедыя-імправізацыя ў 1-й дзеі
**28** – І. Бергман "Восеньская саната" псіхалагічная драма ў 1-й дзеі

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага

**20** – Юбілейны вечар, прысвечаны 70-годдзю тэатра
**21** – Г. Гаупман "Перад заходам сонца" (прэм'ера) дзіўная гісторыя кахання
**22** – С. Віткевіч "Вар'ят і манахіня" кароткая п'еса ў 3-х дзеях
**24** – Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб" п'еса ў 2-х частках
**25** – Ж.Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца" камедыя ў 2-х частках
**26** -- А. Копіт "Тата, тата, бедны тата!.." сучасная музычная камедыя у 2-х частках
**27** -- "Амфітрыён" інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў у 2-х частках
**27** – Э. Томпсан "На залатым возеры" меладрама ў 2-х частках
**29** – А. Камю "Калігула" ў стылі HARD
**30** -- А. Дудараў "Люці" меладраматычны дэтэктыў у 2-х частках
**31 (раніца)** – "Джэльсаміна ў краіне хлусаў" (прэм'ера) вясёлы дзіцячы дэтэктыў у стылі Джані Радары

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-ай, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі

**20, 21** – "Дзіця з Батлеема" сцэнічная дзея М. Пінігіна для дзяцей
**22** – Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць" спектакль-прытча
**24, 28, 29** – А. Курэйчык "Понцій Пілат" (прэм'ера)
**26** – В. Панін "Песні ваўка" драматычна-пластычная элегія ў 2-х дзеях
**26-30 (раніца)** – Навагодняе прадстаўленне
**27** – М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана" псіхалагічная драма ў 2-х дзеях

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

### Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр (У памяшканні Беларускага музычнага тэатра)

**21, 26, 27** – Лопэ дэ Вега "Вынаходлівая закаханая" (прэм'ера) камедыя
**26-29 ( а 11-ай і 13-ай гадзіне)** – А. Тарахоўская "Па шчупаковым загадзе" (прэм'ера) навагодняе прадстаўленне

### Беларускі дзяржаўны тэатр лялек

**20 (а 19-ай гадзіне)** – А. Чэхаў "З Парыжам скончана!.."
**22 ( а 14-ай і 16-ай гадзіне)** – "Бачанне Каляднай начы"

### Тэатр-студыя кінаакцёра

**20** – Л. Вернэйль "Выкраданне Алены" французскі ад'юльтэр у 2-х дзеях
**21, 22** – М. Варфаламееў "Міленькі ты мой" трагікамедыя ў 2-х дзеях
**25-29 ( а 15-ай і 18 —ай гадзіне)** – А. Палешчанкоў "Шчаўкунчык" калядная казка

## РЭІНКАРНАЦЫЯ?!!



**Каб распавесці гэту гісторыю, варта было дачакацца спрыяльнага часу. Марознага, з раннімі прыцемкамі. Калі героі аповеду ўжо далёка і нічыя звышцікаўнасць ім не пагражае.**

**Сам аповед кароткі ды, што называецца, на аматара.**

**На вуліцы Захарава, у некалькіх кварталах ад нашай рэдакцыі, здарылася дзіва. Мінулым летам, спяшаючыся на працу паўз чараду ўсім знаёмых камяніц, аднойчы ўчула я ў гарадскім шуме штосьці неўласцівае вулічнай какафоніі. Думала: памроілася. Але кароткія хвіліны дзіўнай музыкі ўжо ці не штодня звярталі на сябе ўвагу. Я нават запавольвала крок у пошуку крыніцы гучання, ды няўгледны ансамбль пяшчотных і цененькіх птушыных галасоў нібы гуляў са мною ў хованкі.**

**Раскрыўшыся, таямніца падалася з'явай не проста прыгожай — містычна цудоўнай!**

**Уяўляеце дом, у якім доўгія гады жыла народная артыстка СССР, "беларускі салавей" Ларыса Александроўская! Ён пазначаны памятнай шыльдай з выразным скульптурным партрэтам спявачкі. Дык менавіта ля гэтай сцяны і чула я меладычныя перазовы птушанят, што гадаваліся — трэба ж такому здарыцца! — у чэраве рэльефнага мемарыяльнага знака. Птушаняты азываліся штораз, як у затуленае металічнай бранёю гняздо наведвалася карміцелька — спрытная да няўгледнасці, амаль віртуальная дарослая птушка.**

**Наступным летам гісторыя паўтарылася: магчыма, тое ж сямейства плісак ці сініц абрала сваім татэмам выяву легендарнай опернай спявачкі, хаця побач размешчаны іншыя, відаць, не менш ёмістыя, мемарыяльныя шыльды.**

**З кампазітарам С. Манюшкам звязана паданне пра т.зв. "убельскую ластаўку" над яго калыскай: яно падаравала ідэю і назву музычнаму фэсту ды конкурсу вакалістаў. З імем Л. Александроўскай цяпер таксама звязана гісторыя пра пеўчых птушак. І прыгадалася мне гэтая гісторыя днямі, калі даведалася, што для маладых спевакоў рыхтуецца Першы міжнародны (пераемнік рэспубліканскага) конкурс яе імя. А да згадкі прыдалося фота колішняй прымадонны беларускай опернай сцэны ў ролі Кармэн.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## СТАЛІЧНЫЯ МУЗЫЧНЫЯ ІМПРЭЗЫ





**20** — Акадэмічны народны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча на чале з М. Казінцом ладзіць **"Калядныя музычныя вечары"** ў Беларускай акадэміі музыкі. Рамансы, арыі, папулярныя інструментальныя п'есы. Салісты: Т. Гаўрылава, А. Бондарава, А. Кульмакоў, С. Лясун (на здымку), У. Ткач, Л. Рыдлеўская ды інш. Дырыжор А. Высоцкі.

**23** — **"Нараджэнне хрысціянства"** з музыкай А. Вівальдзі, К. Орфа, Г. Казловай ды інш. Новая праграма Дзяржаўнага канцэртнага аркестра духавых інструментаў "Няміга" ў зале Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор І. Касцяхін.

**25** — **Іван Кірчук** (на здымку) і этнатрыю "Троіца" з праграмай "Святы вечар" у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

**25, 26, 27** — у Мінскім касцёле Святых Сымона і Алены (Чырвоным) — традыцыйны **калядны фестываль.** Замоўлены выступленні касцёльнага хору "Голас душы" і спеўных калектываў шэрагу сталічных школ.

**28** — Госць Мінска выдатны піяніст **Данііл Крамер і яго джаз-квартэт** са святочнай праграмай на сцэне ТЮГа.




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-4404**
**літаратурнага жыцця — 284-4404**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-4404**
**паэзіі і прозы — 284-4404**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1655
Нумар падпісаны ў друк 19. 12. 2002 г. у 15.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3016

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12